26 чэрвеня 2015 | № 25 (442)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Стаўбцоўскі краязнаўца Міхась Кутас

стар. 6

5 **РУСКІЯ Ў ЭСТОНІІ: ІНТЭГРАЦЫЯ – ГЭТА НЕ АСІМІЛЯЦЫЯ**



Неабходнасць здачы экзамену па эстонскай мове застаецца адным з найбольш папулярных адказаў на пытанне аб тым, у чым заключаецца дыскрымінацыя рускіх Эстоніі

28 **СПУСЦІЦЬ СЦЯГ!**

Рэакцыяй амерыканскіх уладаў і супольнасці на трагедыю ў Чарльстоне стала кампанія за забарону сцяга Канфедэрацыі — дзяржавы рабаўладальнікаў Поўдня

9–24 **Літаратурная Беларусь**

31 **АПОШНІЯ АБАРОНЦЫ СЭРЦА ПІЛСУДСКАГА**

Ці ведаеце вы, што ў верасні 1939 года на могілках Роса ў Вільні свой апошні бой прынялі польскія жаўнеры?

# Другі тур? Забудзьцеся!

## Некаторыя ўсур'ёз вырашылі, што выбары перанеслі, каб у нас быў час на другі тур



Сяргей ПУЛЬША

Старшыня ЦВК сказала, што выбары перанеслі з-за апазіцыі. Маўляў, калі б выбары праходзілі ў апошнюю прыдатную для гэтага нядзелю, адразу ж былі б папрокі: улада ўпэўненая, што яна арганізуе перамогу ўжо ў першым туры. Бо, калі будзе другі тур, то ён выйдзе за межы двухмесячнага тэрміну да заканчэння паўнамоцтваў прэзідэнта. Таму дата 11 кастрычніка — гэта не толькі зручнасць для чальцоў Палаты прадстаўнікоў, якім не трэба будзе збірацца на пазачарговую сесію, каб прызначыць дзень галасавання. Гэта яшчэ і «наш адказ» розным чэмберленам, якія папракаюць улады ў несумленнай гульні.

З гэтай заявы частка аналітычнай супольнасці Беларусі пачала рабіць далёка ідучыя высновы. Маўляў, каб сапраўды прадэманстраваць Захаду сумленнасць нашых выбараў, улада гатовая пайсці і на другі тур выбараў. Тады сапраўды Захаду ўжо крыць будзе няма чым. Выбары пройдуць канкурэнтна, Лукашэнка, у адрозненне ад мінулых «элегантных перамогаў», гэтую «перамогу» здабудзе «ва ўпартай барацьбе». Галоўнае — прызначыць яму партнёрам у другім туры чалавека, якога Аляксандр Рыгоравіч стопрацэнтова «зробіць».

Насамрэч, ніякага другога туру не будзе. У другім туры Лукашэнка прайграе на 100%, якога б «спарынг-партнёра» ён сабе б ні прызначаў. Нават калі гэта будзе звыклы лідар ЛДП Сяргей Гайдукевіч альбо «дармаед у дэкрэце» Юрый Шульган. Яны ў любым выпадку выйграюць гэты самы другі тур — без праблемаў і кампрамісаў. Гэта чыстая арыфметыка.

Згодна ўсім сацыялагічным апытанкам апошніх гадоў, так званы «пратэстны электарат», які ў выбарах галасуе «абы за каго, толькі не ён», складае каля 25%. У перыяд першага тура ён ніколі не быў мабілізаваны. У 2001 годзе яго раздзіралі Домаш і Ганчарык (Домаш зняў сваю кандыдатуру толькі ў апошні момант, за два тыдні да выбараў), у 2006-м — Мілінкевіч і Казулін, не кажучы ўжо пра «парад кандыдатаў» 2010-га года. У выпадку другога тура гэтыя 25% шчыльнымі радамі прагаласуюць за апанента Лукашэнкі.

Згодна з лічбамі апытанак Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД, Літва) розных гадоў, 40% тых, хто падтрымлівае Лукашэнку, робяць гэта таму, што «няма нікога іншага, хто быў бы лепш».

Не тое, што сапраўды няма лепшага — проста яны такіх не бачаць. А як іх убачыць, калі ў тэлевізіі заўсёды — толькі адзін твар: «Гэта ўсё пра яго і крышачку пра надвор'е»?

У выпадку другога туру прадугледжваюцца тэледэбаты. У першым туры таксама, але на першым туры «асноўны кандыдат» можа і не з'явіцца, што было прадэманстравана ў 2010-м годзе. Нез'яўленне на дэбаты ў другім туры можа апраўдаць хіба што катастрофа альбо надзвычайнае становішча.

У тэледэбатах у прамым эфіры Лукашэнка прайграе ўчыстую. Ягоным апанентам дастаткова прыйсці з «праграмай пяцігодкі», зацверджанай на мінулым Усебеларускім сходзе. І пацікавіцца: «Дзе заробак у тысячу долараў?». Альбо: «Чаму мы выйшлі на ўзровень еўрапейскіх краінаў, і нават абагналі яго, толькі па коштах у крамах?». Альбо: «Ключавая задача пяцігодкі — стварэнне прынцыпова новых вытворчасцяў. Дзе хоць адна такая? Гэта Палац Рэспублікі?»




**У тэледэбатах у прамым эфіры Лукашэнка прайграе ўчыстую**

Але галоўнае — не ў пройгрышы Аляксандрам Рыгоравічам тэледэбатаў. Галоўнае, што тыя 40%, якія «не бачаць альтэрнатывы», раптам атрымаюць прасвятленне, што альтэрнатыва ёсць. І нават самая кепская — гэта ўсё ж альтэрнатыва.

У плюс альтэрнатыўнаму кандыдату ў прэзідэнты ў другім туры варта дадаць яшчэ каля 10% прыхільнікаў байкоту выбараў. Гэта зараз яны крычаць, што «выбараў няма» і «ніякіх выбараў, пакуль ёсць палітвязні». Як толькі з'явіцца рэальная альтэрнатыва з шанцам на перамогу — на выбарчыя ўчасткі пойдуць нават самыя заўзятыя сябры КХП — БНФ.

Такім чынам, 25% пратэстнага электарату, 10% «байкотчыкаў» і 40% раптам відушчых — гэта 75% выбаршчыкаў краіны. Канешне, можна заўважыць, што не ўсе «відушчыя» атрымаюць прасвятленне, аднак адначасова трэба дадаць, што тое прасвятленне атрымаюць тыя, хто ў апытанках НІСЭПД заўжды адзначаюць пункт «складана адказаць». Гэта 10–15%. Тое на тое і выйдзе.

75% выбаршчыкаў краіны — гэта тая лічба, якую сфальсіфікаваць ужо немагчыма. Сябры выбарчых камісіяў, якія шэптам паведамляюць вынікі падліку галасоў старшыні, будуць яўна бачыць, колькі галасоў аддана «за таго», і колькі — «за гэтага». Гэтае ж будуць бачыць — проста па таўшчыні стосаў — і назіральнікі, якіх шырокім жэстам запрасіў на выбары Аляксандр Рыгоравіч. «Лічыце, што мы запрасілі ўсіх вашых прадстаўнікоў, якіх вы лічыце патрэбным накіраваць для назірання за выбарамі», — сказаў Лукашэнка 16 чэрвеня, сустракаючыся ў Мінску з генеральным сакратаром АБСЕ Ламбертам Заньерам і дырэктарам БДІПЧ АБСЕ Міхаэлем Георгам Лінкам.

Наўрад ці ва ўладзе не ўмеюць лічыць. А таму ўсе размовы пра «другі тур» спадарыні Ярмошынай — гэта не больш, чым «адмазка» датэрміновых выбараў.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### КРЫЧАЎ. За падробку дакументаў толькі пазбаўленне прэміі



**Жыхар Крычава Мікалай Федарэнка атрымаў адказ з Крычаўскага раённага аддзела Следчага камітэта на сваю скаргу.**

Федарэнка скардзіўся на тое, што старшы лейтэнант Краўцоў без яго ведама склаў ад яго імя фіктыўнае тлумачэнне ад 22.03.2014 г. па грамадзянскай справе. Таксама пад гэтым фіктыўным тлумачэннем быў зроблены запіс «з маіх слоў запісана дакладна» і падроблены подпіс спадара Федарэнкі невядомай асобай, бо сам Мікалай Федарэнка сцвярджае, што 22.03.2014 г. наогул ні з якімі супрацоўнікамі Крычаўскага РАУС, у тым ліку і са старшым лейтэнантам Краўцовым, не сустракаўся, яго наогул не выклікалі ў Крычаўскі РАУС ні ў гэты, ні ў іншыя дні, што можна праверыць па кнізе наведнікаў Крычаўскага РАУС.

Спадар Федарэнка таксама сцвярджае, што ў напісанай быццам бы з яго слоў тлумачальнай утрымліваецца вельмі шмат недакладных звестак, якія ён не мог сказаць, і тым больш падпісаць. Ён лічыць, што дзеянні ўчастковага інспектара Краўцова падпадаюць пад арт. 427 КК (службовая падробка).

Адпаведную скаргу на дзеянні старшага лейтэнанта Краўцова Мікалай Федарэнка раней накіроўваў на імя пракурора Магілёўскай вобласці. Ён прасіў пракурора правесці праверку па ўказаных ім фактах парушэнняў заканадаўства і пры іх пацвярджэнні прыцягнуць участковага інспектара Краўцова В. П. да крымінальнай адказнасці згодна закону, а таксама даць яму пісьмовы адказ ва ўстаноўленыя законам тэрміны. Аднак пракурор Магілёўскай вобласці перанакіраваў яго скаргу для разбіральніцтва ў УУС Магілёўскага аблвыканкама, якое, у сваю чаргу, перанакіравала яе начальніку Крычаўскага РАУС.

Старшы следчы Крычаўскага РА СК маёр юстыцыі А. Жукаў паведаміў Мікалаю Федарэнку, што падчас праверкі ў дзеяннях участковага інспектара Краўцова В. П. парушэнняў нормаў заканадаўства ўстаноўлена не было, у сувязі з чым, на падставе п. 2 ч. 1 арт. 29, арт. 174, 178 КПК Рэспублікі Беларусь, 15.06.2015 г. прынята рашэнне аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы за адсутнасцю складу злачынства.

Пасля атрымання паведамлення Мікалай Федарэнка наведаў Крычаўскі райаддзел Следчага камітэта і атрымаў там на рукі копію пастановы аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы.

Згодна тлумачэнняў участковага інспектара Краўцова, недакладныя запісы ў тлумачэнні сп. Федарэнкі ён зрабіў з яго ўласных слоў па сваёй няўважлівасці. За праяўленую «няўважлівасць» участковы Краўцоў быў прыцягнуты да матэрыяльнай адказнасці, яго пазбавілі на 50% прэміяльнай надбаўкі на 1 месяц.

Па словах Мікалая Федарэнкі, зараз ён будзе кансультавацца ў праваабаронцаў, а потым планаваць свае далейшыя дзеянні.

### ВІЦЕБСК. Прафілактыка з парушэннямі



**У віцебскім парку імя Фрунзэ з'явіліся аб'явы, прымацаваныя да слупоў.**

Так райаддзел міліцыі Кастрычніцкага раёна вырашыў правесці прафілактыку правапарушэнняў. Між тым, падобныя дзеянні з'яўляюцца парушэннем «Парадку добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў».

У аб'явах пералічваюцца правапарушэнні, якія ўмоўны віцебскі мінак нібыта можа здзейсніць у парку. А таксама артыкулы, паводле якіх прадугледжана адміністрацыйная адказнасць за такія дзеянні, як непрыстойныя паводзіны, нецэнзурная лаянка ў грамадскім месцы, распіццё алкагольных напояў, з'яўленне ў грамадскім месцы ў нецвярозым стане. Яшчэ напісана пра забарону купацца ў месцах, для гэтага адмыслова не прызначаных, і пра забарону засмечваць вадаёмы і водааахоўныя зоны...

«Відавочнае парушэнне часткі 2 артыкула 21.14 Кодэксу РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях, — лічыць праваабаронца Павел Левінаў. — У аб'яве ўказана: «Аддзел унутраных спраў адміністрацыі Кастрычніцкага раёна горада Віцебска інфармуе». А тое, што аб'яву паклалі ў празрысты «файлік» і прымацалі скотчам — нібыта яна стала выглядаць «культурна», становішча не ратуе. Паводле правілаў размяшчэння аб'яваў ды іншых абвестак, для гэтага існуюць адмысловыя месцы — стэнды або дошкі».

За размяшчэнне аб'яваў у неналежных месцах прадугледжаны штрафы. І міліцыя, парушаючы патрабаванні заканадаўства, нярэдка складае адміністрацыйныя пратаколы на іншых за падобныя дзеянні. Прыкладам, актывіста з Мікашэвічаў Віталя Каліноўскага аштрафавалі на 3 базавых велічыні за распаўсюд улётак пра палітычных. Крыху раней падобны выпадак адбыўся ў Навапалацку, дзе маладзевага актывіста Змітра Дзякава аштрафавалі на 20 базавых велічынь за вывешванне на плоце парку расцяжку з літарамі «БХД».

**spring96.org**

# Статкевіч асцерагаецца правакацый

**Жонка палітвязня Міколы Статкевіча Марына Адамовіч атрымала ад яго ліст, а напярэдадні змагла паразмаўляць з ім па тэлефоне.**

Па словах Марыны Адамовіч, пакуль у адзіночную камеру да Міколы Статкевіча нікога не падсялілі, хоць раней ён пісаў, што адміністрацыя турмы пагражала гэта зрабіць. Былы кандыдат у прэзідэнты асцерагаецца магчымых правакацый. Акрамя таго, як распавяла жонка палітвязня, стала вядома пра затрымку бандэролі з лекамі, якую яна адправіла па пошце яшчэ ў пачатку месяца.

«Ён мне паведаміў, што медычную бандэроль, якую я яму адправіла 4-га чысла з Магілёва, адлегласць паміж поштай і турмой каля двух кіламетраў калі будзе, а можа і не, ён атрымаў толькі ўчора, яна ішла 15 дзён. Я не ведаю, што яны рабілі, а калі б не дай Бог там было нешта тэрміновае. Нягледзячы на гэта ён у добрым і вельмі аптымістычным настроі», — распавяла Марына Адамовіч.

У лісце Мікалай Статкевіч таксама выказаўся адносна правакацый супраць палітвязня Мікалая Дзядка, якога ў Горацкай калоніі зноў саджалі ў карцэр нібыта за парушэнне дзённага рэжыму. Ён тлумачыць, што гэта вельмі распаўсюджаны спосаб правакацыі. «Звычайна вязням у калоніях дазваляюць класціся на гадзіну раней, бо раніцай пасля пабудкі ёсць толькі 5 хвілін на зборы і прыбіранне, і таму людзі падымаюцца раней. Але супраць палітычных гэта шырока выкарыстоўваецца, калі за фармальнае парушэнне раскладу дня могуць пакараць», — піша Статкевіч.

**Радыё «Рацыя»**

# Трэція па росце цэн

**Рост спажывецкіх цэн у Беларусі па выніках студзеня—мая 2015 года склаў 6,5%. На тэрыторыі былога СССР гэта трэці паказчык, сведчыць праведзены БелаПАН аналіз даных нацыянальных органаў статыстыкі.**

Па выніках студзеня (2,4%), студзеня—лютага (4,1%) і першага квартала (4,9%) Беларусь была чацвёртай, студзеня—красавіка (5,9%) — трэцяй.

Наперадзе Украіна (40,1%) і Расія (8,3%). За Беларуссю размясціліся Малдова (5,6%), Азербайджан (4,3%), Таджыкістан (2,6%), Грузія (2,4%), Латвія (2,3%), Казахстан, Эстонія (па 1,5%), Арменія (1,4%), Кыргызстан (1,2%) і Літва (0,3%). Няма даных з Узбекістана. У Туркменістане за першы квартал цэны павялічыліся на 5,8% (больш свежая статыстыка адсутнічае).

У самаабвешчанай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспубліцы, якая мае ўласную фінансавую сістэму, цэны знізіліся за пяць месяцаў на 0,6%.

У маі з ростам цэн на 0,7% Беларусь заняла другое месца пасля Украіны (2,2%). Далей ідуць Грузія, Латвія (па 0,6%), Літва, Малдова (па 0,5%), Расія (0,4%), Казахстан, Таджыкістан (па 0,3%) і Эстонія (0,2%). У Арменіі цэны знізіліся на 0,5%, у Азербайджане — на 0,6%, у Кыргызстане — на 0,8%.

Па выніках года фінансавыя ўлады Беларусі прагназуюць інфляцыю на ўзроўні 16–20%. Раней, да снежаньскай дэвальвацыі рубля, планавалася ўтрымаць рост цэн у межах 12%. У 2014 годзе цэны павялічыліся на 16,2%.

**Дзмітрый Уласаў, БелаПАН**

# Новы помнік ахвярам Халакоста

Генадзь КЕСНЕР

**На былых габрэйскіх могілках, што на вуліцы Сухой у Мінску, 24 чэрвеня адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнага каменя памяці ахвяраў Халакосту з Кёнігсберга і Усходняй Прусіі, знішчаных у Трасцянцы летам 1942 года.**

Да мемарыяла, дзе ўжо стаяць камяні памяці закатаваных у Трасцянцы габрэяў з Берліна, Гамбурга, Дзюсельдорфа, Бона і Кёльна, Вены, з самага ранку ішлі людзі. Пераважна гэта былі сябры габрэйскіх абшчынаў і аб'яднанняў, журналісты, замежныя госці.

На пачатку імпрэзы скрыпічны дуэт выканаў санату Шумана «Пра чужыя землі і народы». Кіраўнік Мінскага Міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Яханэса Рау з нямецкага боку Вольга Рэнш-Ветцэль нагадала, што 24 чэрвеня 1942 года з Паўночнага вакзала Кёнігсберга ў Мінск накіраваўся чыгуначны транспарт, які прывёз сюды 465 габрэйскіх дзяцей, жанчын і мужчын. Праз два дні іх расстралялі ва ўрочышчы Благоўшчына, якое ўваходзіць у ствараемы мемарыяльны комплекс «Трасцянец».

Амбасадар Германіі ў Беларусі Вольфрам Мас адзначыў, што трагедыя, якая адбылася на тэрыторыі Беларусі падчас Другой сусветнай вайны, ніколі не павінна паўтарыцца. Ён папрасіў прабачэння ў адной з прысутных на цырымоніі — жыхаркі Ізраіля Няхамы Дробер (ураджэнкі Кёнігсберга, якая перажыла Халакост у сваім родным горадзе, многія сваякі якой былі ў тым самым цягніку і загінулі ў Трасцянцы). Прасіў прабачэння дыпламат не толькі за злачынствы нацыстаў, але і за тое, што германская бюракратыя ў 1990 годзе адмовілася выдаць жанчыне, якая хацела вярнуцца на радзіму і зараз пражывае ў Ізраілі, нямецкі пашпарт.

Сама ж спадарыня Дробер распавяла, што была сведкай адпраўкі таго «транспарту смерці». У ім у Мінск вывезлі многіх яе сваякоў, сяброўак і сяброў. «Многім з маіх школьных сяброў на чэрвень 1942 года было ад 14 да 17 гадоў. Ніхто не ведаў, куды і навошта іх вязуць. На Паўночным вакзале Кёнігсберга я хацела прайсці разам з імі праз агароджу, але эсэсаўцы выштурхнулі мяне», — сказала сведка тых трагічных падзеяў.

Прадстаўнік адной з габрэйскіх суполак Кёнігсберга (цяперашняга Калінінграда) Віктар Шапіра паведаміў, што на будынку вакзала ўжо знаходзіцца мемарыяльная дошка: «Хацця каб яе павесіць, трэба было прайсці праз вялікія бюракратычныя перашкоды. Спадзяюся, у вас у гэтым плане прасцей».

Выступалі на цырымоніі таксама дачка вядомага скульптара Леаніда Левіна, які крыху больш за год таму пайшоў з жыцця, намесніца старшыні Саюза беларускіх габрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын Галіна Левіна, старшыня Фонду і Гарадскога аб'яднання Кёнігсберга Клаус Вайгельт.

Вязень Мінскага гета Якаў Краўчынскі, якому зараз ужо 82 гады, з вялікім жалем канстатаваў, што беларуская зямля «стала магілаю для вялікай колькасці людзей, не толькі з Беларусі, але і з усёй Еўропы». «Гэтыя камяні, што ўстаноўленыя тут, павінны вучыць таму, каб падобнае ніколі не паўтарылася. Каб такая маніякальная ідэя, як знішчэнне цэлага народа, больш ніколі і нідзе не ўзнікла. Каб надалей людзі жылі ў міры і сяброўстве», — падкрэсліў выступоўца.

Музыкі выканалі адну з мелодый з вядомага фільма Стывена Спілберга «Спіс Шындлера». «Вельмі шкада, што для гэтых людзей, якіх прывезлі з Кёнігсберга і забілі ў Трасцянцы, не знайшлося сваіх Шындлераў», — уздыхнула Вольга Рэнш-Ветцэль.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Грошы — направа і налева

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Той, хто лічыць Беларусь беднай краінай, моцна памыляецца. Грошай у нас — завалiся. Трэба толькі ведаць, дзе іх шукаць. Улада звыкла шукае іх у кішэнях грамадзян: то «падатак на дармаедства» ўвядуць, то аўтазбор. Не там шукаюць, не там!**



Шукаць грошы трэба ў скарачэнні дзяржаўных выдаткаў. На тыдні старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына паведаміла, што два туры прэзідэнцкіх выбараў абыдуцца бюджэту Беларусі ў 260 мільярдаў рублёў, адзін тур — 181 мільярд. «Грошы будуць выдзелены ў поўным аб'ёме і цалкам забяспечаць у разумных рамках правядзенне ўсіх этапаў выбарчай кампаніі», — сказала Ярмошына.

Кажучы пра другі тур, яна адзначыла, што выдаткі на яго заўсёды закладаюцца ў бюджэт. «Другі тур прадугледжвае наяўнасць вострай альтэрнатыўнай барацьбы моцных кандыдатаў, якія супрацьстаяць адзін аднаму», — паведаміла Ярмошына прапісную ісціну, пра якую беларусы, мабыць, ужо забыліся. Другога туру прэзідэнцкіх выбараў у нас не было з часоў абрання Лукашэнкі ў 1994 годзе.

Што цікава ў гэтых лічбах? Тое, што напачатку снежня мінулага года кошт выбараў ацэньваўся ў 100 мільярдаў рублёў і, па тых валютных курсах, складаў 9,3 мільёна долараў. Зараз нам называюць кошт аднаго тура ўжо ў 181 мільярд. Можна было б спісаць гэта на студзеньскую «гібрыдную дэвальвацыю», але... У доларавым выражэнні па сённяшнім курсе адзін тур каштуе ўжо 11 мільёнаў 830 тысяч 65 долараў і 36 цэнтаў. То бок, нехта недзе паміжсобку «папілуе» два з паловай мільёны «зялёных». Някепская прыбаўка да пенсіі!

Між тым, па-першае, бюджэт краіны, у якім закладзеныя выдаткі на выбары, пакуль што не карэктаваўся, хаця пра такую магчымасць і заяўлялі адказныя чыноўнікі. То бок у ім па-ранейшым на выбары закладзена першасная сума — 100 мільярдаў рублёў. Адкуль возьмецца яшчэ 81 мільярд — невядома. Па-другое, і першая сума выглядала вельмі вялікай. Справа ў тым, што зараз выбары праходзяць па новых правілах. Прэтэндэнтам на галоўную пасаду краіны з бюджэту не перападае ані каліва — весці кампанію яны павінны выключна на свае сродкі з адмыслова створаных выбарчых фондаў.

Варта зазначыць, што адзін тур парламенцкіх выбараў 2012 года каштаваў краіне прыкладна 76 мільярдаў рублёў. Мясцовыя выбары 2014 года абышліся ў тыя ж 100 мільярдаў. Працэдура фармавання выбарчых камісій не змянялася, метадычкі для сябраў выбарчых камісій — таксама, друк бюлетэняў для выбараў цэнтралізаваны... Ярмошына, праўда, парэкамендавала завесці на ўчастках празрыстыя скрыні для галасавання, але ж пры тым зазначыла, што «гэта толькі мода». І ў дадатак паставіла задачу «празрыстасці скрыняў» мясцовым уладам, — то бок, з выбарчага бюджэту на іх не марнуецца ні капейкі. Дык чаму ж кошт выбараў у рублёвым эквіваленце вырас амаль удвая, а ў доларавым — на два з паловай мільёны? Загадка.

Яшчэ адна цікавая навіна прыйшла з Камітэта дзяржкантролю. Паводле іх справаздачы, у 2014 годзе 1 031 арганізацыя, ці 47% ад тых, хто атрымаў дзяржпадтрымку, не выканала ўмовы гэтай дзяржпадтрымкі.

Усяго ў 2014 годзе з рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў аказана дзяржпадтрымкі і прэферэнцый на 29,9 трыльёна рублёў, што на 10,8 трыльёна больш, чым у 2013 годзе.

Калі «невыканаўцаў дзяржпадтрымкі» пералічыць па «дагібрыдным» курсе долара (яны ж грошы атрымлівалі ў 2014-м годзе, праўда?), то атрымаецца, што дзяржава змарнавала на гэтую падтрымку больш за мільярд долараў! І, гледзячы па ўсім, гэты мільярд долараў быў проста «спісаны ў страты». Таму што ў тым жа паведамленні КДК зазначаецца, што «нягледзячы на складаныя знешнеэканамічныя ўмовы, у краіне забяспечаны эканамічны рост і сацыяльная стабільнасць».

Рост ВУП сінявокай за мінулы год склаў 1,6% замест прагназаваных 3,3%. Але што яшчэ для шчасця трэба? Добра, што не ў мінусе, а астатняе — абы не было вайны, пэўна, лічаць у КДК.

А грошы... Што грошы? Грошай можна надрукаваць, колькі заўгодна. Праўда, сам Аляксандр Рыгоравіч забараніў гэта рабіць. На тыдні ён яшчэ раз паўтарыў: заробкі перад выбарамі накручвацца не будуць. «Мы адкрыта і сумленна сказалі: мы не будзем пад выбары, друкуючы грошы ці адбіраючы з золатавалютных і іншых рэзерваў, накручваць заработныя платы. Але калі мы не маем такой магчымасці на павышэнне зарплаты, цэны павінны быць адпаведныя. Гэта ў нашых руках», — у чарговы раз прамовіў Лукашэнка.

Праўда, яго ніхто не слухаецца. Інфляцыя ў Беларусі за май гэтага года склала 0,7%. Увогуле, сінявокая — трэцяя ў краінах былога СССР па росце спажывецкіх цэнаў. Па выніках студзеня—мая 2015 года гэты рост склаў 6,5%. Наперадзе толькі ваюючыя краіны — Украіна (40,1%) і Расія (8,3%). А што тычыцца самога мая, то «крыштальны сасуд» апярэдзіў па росце цэнаў і Расію, заняўшы другое месца пасля Украіны, дзе кошты падраслі на 2,2%.

Дарэчы, з 1 ліпеня ў нас будуць усе шанцы заняць і першае месца па росту коштаў на постсавецкай прасторы. Гэта звязана з тым, што мы скажам «гуд бай» самай дробнай пакуль што беларускай купюры ў 50 рублёў. «Пяцідзесяцірублёўкамі» можна будзе разлічыцца ў крамах да 1 верасня 2015 года, аднак ужо з 1 ліпеня банкі і крамы спыняць выдачу 50-рублёвых банкнот фізічным асобам, у тым ліку ў якасці рэшты.

Фактычна гэта азначае акругленне ўсіх коштаў да соцень рублёў. А паколькі законы матэматыкі ніхто не адмяняў, то з 50 акругленне ідзе ў вышэйшы бок. Адпаведна, на 50 рублёў кошты ўзрастуць па ўсіх таварах, на якіх цэннік кратны 50-ці.

А наконт «друкавання грошай» крышачку агаломшылі ў Еўразійскім фондзе стабілізацыі і развіцця. Гэты фонд мае абмеркаваць 3 ліпеня заяўку Беларусі на атрыманне новага крэдыту. Таму эксперты гэтай установы шчыльна вывучаюць сітуацыю. Дык вось, яны ў першую чаргу выказалі занепакоенасць не чым-небудзь, а «павелічэннем грашовай масы ў беларускай эканоміцы». «Паскарэнне росту колькасці грошай у эканоміцы ў маі можа быць падставай для турботаў з пункту гледжання яго ўплыву на інфляцыю і плацежны баланс», — канстатуюць аналітыкі ЕФСР.

То бок, у маі станок для друку грошай, у адрозненне ад іншых шматлікіх вытворчых прадпрыемстваў, сваю працу не спыняў. Куды ж сыходзяць гэтыя грошы пры адсутнасці павелічэння заробку — загадка таксама.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Мікалай Аўтуховіч

**Былы палітвязень даў згоду ўзначаліць штаб, які будзе займацца кампаніяй па вылучэнні ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча.**

Пра гэта паведаміў палітэмігрант, лідар Руху салідарнасці «Разам» Вячаслаў Сіўчык.

У той жа час ваўкавыскі прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч патлумачыў, што ён «ужо шмат разоў кажа, што выступае супраць цяперашніх выбараў». «І не збіраюся ні ў якой якасці ўдзельнічаць у гэтых выбарах. Я пагадзіўся на ўгаворы Сіўчыка ўзначаліць штаб проста ў падтрымку Мікалая Статкевіча, каб дамагчыся яго вызвалення з турмы», — сказаў Аўтуховіч.

Сіўчык спадзяецца, што тэрміновыя дзеянні па мабілізацыі сваіх членаў і прыхільнікаў зробяць і іншыя беларускія дэмакратычныя арганізацыі, а ў першую чаргу — «Малады Фронт», аргкамітэты па стварэнні партый «Свабоды і прагрэсу» і БСДП (Народная Грамада), якія ўваходзяць у Еўрапейскую кааліцыю, лідарам якой з'яўляецца Мікалай Статкевіч.

«Мы правялі разам не адну кампанію ў рамках Еўрапейскай кааліцыі, у той час, калі Мікалай Статкевіч быў на волі. На тых жа прынцыпах мы будуем і гэтую кампанію, калі ён знаходзіцца ў турме», — заявіў Сіўчык.

## Барыс Батура

**Член пастаяннай камісіі Савета рэспублікі па эканоміцы, бюджэце і фінансах, экс-кіраўнік сталічнай вобласці клапоціцца патрыятызмам беларусаў.**



Падчас зацвярджэння паправак у закон «Аб дзяржаўных сімвалах Рэспублікі Беларусь» ён прапанаваў, каб грамадзяне абавязкова вывешвалі на сваіх дамах дзяржаўныя сцягі ў час асабістых святаў.

Паводле яго слоў, закон дае права вывешваць беларускі сцяг на прыватным доме не толькі на дзяржаўныя, але і на сямейныя святы. Дык чаму б «права» не ператварыць у абавязак?

Аднак супраць выступілі Міхаіл Мясніковіч і намеснік міністра юстыцыі Ала Бодак. Першы заявіў, што неабходна падтрымліваць жаданне грамадзян вывешваць дзяржсцягі на прыватных домаўладаннях у святы, але не трэба рабіць гэта абавязковым. Другая адзначыла, што любая абавязковая норма цягне пэўны прымус і, вядома, санкцыі за яе невыкананне. Санкцый жа за невыкананне ў заканадаўстве няма.

Закон аб дзяржаўных сімвалах Рэспублікі Беларусь удакладняе пералік месцаў, дзе падымаецца або ўсталёўваецца дзяржаўны сцяг, замацоўваецца патрабаванні да цырымоніі яго ўзняцця або ўстанаўлення. Таксама замацоўваецца патрабаванне аб абавязковым выкананні дзяржаўнага гімна ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі ў дні пачатку (заканчэння) навучальнага года.



## Андрэй Курэйчык

**Вядомы беларускі сцэнарыст вырашыў зняць паўнавартасны мастацкі фільм за тыдзень.**

Кіно будзе называцца «ГараШ», гэта будзе «чорная камедыя». Галоўную ролю ў ёй выконвае саліст гурта «Нейрадзюбель» Аляксандр Кулінковіч. Здымкі пачнуцца на будучым тыдні, і яшчэ праз тыдзень скончацца.

Галоўны герой, якога грае Кулінковіч, затрымаўся ў постсавецкім часе. Ён — такая ж дзіўная з'ява, як і жылы раён Шабаны, што захраснуў паміж прамзонай і сметнікам, як і ўся краіна.

«Цікава стварыць, паказаць дарослага чалавека. Бо маладых герояў шмат, асабліва на расійскіх экранах, з нашай краіны людзі едуць туды працаваць. А вось дарослага героя да гэтага часу няма», — кажа Андрэй Курэйчык.

Кулінковіч не толькі грае галоўную ролю, але і напіша песню да «ГараШу». Асноўным аўтарам асноўных музычных тэм стане Дзмітрый Фрыгій, кампазітар скандальнага праекта Курэйчыка «Вышэй за неба».

Курэйчык кажа, што зняў бы серыял пра жыццё беларусаў, падобны да «Ва ўсе цяжкія», каб героі змяняліся і развіваліся, але для такога праекта спатрэбіцца больш за 80 мільёнаў рублёў. Менавіта ў такі бюджэт збіраецца ўкласціся каманда «ГараШа».

а | Азбука паліталогіі

# Разуменне — гэта таксама дзеянне



Сяргей НІКАЛЮК

**Тэма сталінізму, якую я закрануў у папярэдняй «Азбуцы паліталогіі», нечакана запатрабавала працягу.**

У мяне няма ні часу, ні асаблівага жадання сядзець у сацыяльных сетках. Але з гадамі робішся больш сентыментальны, і я вырашыў адшукаць праз «Аднакласнікаў» сваё школьнае каханне. Пошук быў паспяховы. Наша радасць была ўзаемнай. Абмяняліся фатаздымкамі, пахваліліся поспехамі дзяцей і ўнукаў.

Яна выкладае эканоміку ў адным з абласных універсітэтаў. Я таксама вырашыў надзьмуць шчокі і паслаў яе сваю апошнюю «Азбуку паліталогіі» («Вынаходнікі пагроз»). Адказ не прымусіў сябе доўга чакаць, што мяне, безумоўна, узрадавала — чалавек я пыхлівы. Але ўжо пасля чытання першага абзаца радасць змянілася на супрацьлеглае пачуццё.

Цытую: «Немагчыма адназначна даць вызначэнне гэтаму твору, які складаецца з каскаду разгромных, злосных, прасякнутых нянавісцю да ўласнай краіны артыкулаў (азбук), якія абапіраюцца на ўсім вядомыя і ўжо прызнаныя народам агіднымі, негатыўныя гістарычныя моманты яе развіцця. У Германіі таксама шмат чаго было. Але яны не займаюцца самабічаваннем… Прызналі… І ўсё. Чаго яшчэ там вышукваць і капацца ў мінулых праблемах. Усё ўжо «выкапана» і зразумела…»

Пасля такога ўступлення канцоўку лісты прадказаць было нескладана: «Стасавацца мы не зможам, хаця б у сілу таго, што я тваю пазіцыю не прыму ніколі».

### Не варта цешыць сябе

Быў такі фільм пра Джэймса Бонда — «Ніколі не кажы «ніколі». Выдатная парада. Тым не менш я ёй не скарыстаўся і аднакласніцы не адказаў. Бессэнсоўна было ўступаць у дыскусію. «Карціну свету» дарослага чалавека змяніць практычна немагчыма. Яна працуе як фільтр, што надзейна адбракоўвае ідэалагічна чужую інфармацыю.

Я ўжо прыводзіў прыклад з сястрой, якая ў сакавіку 2014 года заявіла пра гатоўнасць з аўтаматам у руках абараняць рускіх у Крыме. Яна, натуральна, не скарысталася маёй парадай набраць у інтэрнэце чатыры словы: «Дагестан», «рабы», «цагляныя заводы».

Культура, як сцвярджае культуролаг Андрэй Пеліпенка, — вялікі маніпулятар. Выбіральнасць гістарычнай памяці або адсутнасць такой наглядна гэта пацвярджае.

Што значыць немцы «прызналі… І ўсё»? Нічога па ўласнай ініцыятыве прызнаваць яны не збіраліся. Прынцып «мая хата з краю» — універсальны, асабліва калі надыходзіць час адказваць за зробленае.

Вось і давялося саюзнікам па антыгітлераўскай кааліцыі распрацаваць праграму дэнацыфікацыі, якая падзяліла ўсіх немцаў на пяць катэгорый («Закон № 104»): 1 — галоўныя вінаватыя, 2 — вінаватыя, 3 — нязначна вінаватыя, 4 — спадарожнікі і 5 — невінаватыя.

Але працэс дэнацыфікацыі пакараннем вінаватых не абмежаваўся. Далей быў здзейснены комплекс мер па перавыхаванні, канчатковай мэтай якіх было выкараненне духу нацызму і дэмакратызацыя грамадства.

У сучаснай Германіі любая прапаганда нацызму забароненая. Немагчыма ўявіць сабе немца, які разгульвае з партрэтам Гітлера. Няма юрыдычнай забароны на папулярнае ў мінулым імя Адольф. Аднак ніхто сёння не называе гэтым імем хлопчыкаў у Германіі. Гэты, здавалася б, другасны факт ілюструе паспяховасць дэнацыфікацыі.

На жаль, на паслядоўную дэсталінізацыю ні савецкая наменклатура, ні яе постсавецкія спадкаемцы не пайшлі. Незавершанасць дэсталінізацыі ў Беларусі фіксуюць сацыялагічныя апытанні. Да расійскага ўзроўню павагі да «правадыра народаў» беларусы пакуль што не дацягваюць. Па дадзеных Лявада-Цэнтра, у сакавіку 2015 года да Сталіна з павагай ставіўся кожны трэці расіянін. У Беларусі дзейнасць Сталіна ацанілі «вельмі высока» 13% і «высока» — 12% (НІСЭПД, снежань 2009 года).

Але адносна нізкая колькасць прыхільнікаў Сталіна ў Беларусі — следства задаволенасці ўзроўнем дзяржаўнага патэрналізму, які падтрымлівае адзіны палітыка (АП). Аднак ва ўмовах надыходзячага крызісу даходы насельніцтва будуць няўхільна зніжацца. Незадаволенасць выльецца ў ідэалізацыю мінулага, неад'емнай часткай якога і з'яўляецца Сталін.

### Інстытут «нахілення»

Шорт-ліст ідэальных палітыкаў у чэрвені 2008 года (НІСЭПД) узначалілі Уладзімір Пуцін (31%), Аляксандр Лукашэнка (25%), Пётр Машэраў (24%) і Пётр I (19%). У яго ніжняй частцы апынуліся Вацлаў Гавэл (4%) і Лех Валенса (2%).

Паглядзім на гэтую расстаноўку прыярытэтаў з пункту гледжання перспектыў рэфармавання беларускай мадэлі. Наяўнасць «моцных асоб» у верхняй частцы спісу саму магчымасць рэфармавання не адмяняе. Не, беларусы не супраць рэформаў, але толькі такіх, якія ажыццяўляюцца ўладай зверху.

Звернемся зараз да спісу краін па ВУП на душу насельніцтва па парытэту пакупніцкай здольнасці за 2014 год, падрыхтаванага МВФ. Чэхія ў гэтым спісе апынулася на 38-м месцы ($ 29,9 тыс.), Польшча — на 46-м ($ 25,1 тыс.), Расія — на 49-м ($ 24,8 тыс.) і Беларусь — на 64-м ($ 18,1 тыс.). Здавалася б, эканамічныя поспехі краін павінны былі адбіцца на папулярнасці іх лідараў, але па факце залежнасць атрымалася адваротнай.

Чалавек савецкі расстаўляе прыярытэты, зыходзячы са сваёй сістэмы каштоўнасцяў, і ў гэтай сістэме палітычныя лідары ацэньваюцца не па эканамічнай эфектыўнасці, а па здольнасці атрымліваць вялікія перамогі. Менавіта таму ветэраны, якія перажылі мясарубку сталінскіх пяцігодак, і ходзяць з партрэтамі свайго вусатага куміра, а беларускае заканадаўства ім гэтага не забараняе.

Прыгледзімся больш уважліва да дзеянняў «моцных асобаў», якія ў нас прынята лічыць рэформамі. «Сапраўдная рэформа, — адзначае гісторык Юрый Піваваў, — не разбурае наяўны свет, а пераўтварае яго, удасканальвае. <…> Іншымі словамі, сапраўдная рэформа стварае інстытуты і працэдуры, у якіх актуалізуецца схаванае ў старых формах новае, патэнцыйнае. Рэформа — гэта ўпарадкаванне новых магчымасцяў, новага балансу сіл і іншае».

Пры такім падыходзе кіпучая дзейнасць Пятра I не падпадае пад характарыстыку рэфарматарства. Усе яго навацыі мелі сваім галоўным вынікам далейшае закабаленне насельніцтва Расійскай імперыі.

Але вернемся ў сучаснасць. У снежні 2014 года 20% рэспандэнтаў былі згодныя з тым, што рэформы ў Беларусі паспяхова развіваюцца. Пры гэтым 28% успрымалі АП як палітыка, які «павольна, але рашучае ідзе па шляху рэформаў». У студзені 2007 года такую ацэнку падзялялі 39% (НІСЭПД).

Сапраўдныя рэформы, нагадаю, ствараюць інстытуты і працэдуры. Хто б спрачаўся. Возьмем, да прыкладу, Дэкрэт №5. Яго асноўная ідэя — прымусіць кіраўнікоў працаваць. Па меркаванні АП, яны ў нас занадта разбоўталіся: *«Хочу делаю, хочу не делаю, выгонят, там где-то у меня структурки частные, под кого-то зарегистрированы, у кого-то детки, у кого-то еще кто-то в частных структурах, не пропаду»*.

Дэкрэт №5 і закліканы закрыць гэтую дзірку. Ён дазваляе «нахіляць» кіраўніка любога ўзроўню, адначасова надзяляючы яго правам «нахіляць» сваіх падначаленых.

Улічваючы, што колькасць занятых у эканоміцы склала ў красавіку бягучага года 4 459,7 тысячы чалавек, і практычна ўсе яны трапляюць пад катэгорыі альбо начальнікаў, альбо падначаленых, можна смела гаварыць пра ўвядзенне ў Беларусі інстытута «нахілення». Працэдуры, якія рэгламентуюць яго працу, і пералічаныя ў Дэкрэце № 5.

**Даведка**: паводле аднаго з заснавальнікаў сучаснай інстытуцыйнай тэорыі, нобелеўскага лаўрэата Дугласа Норта, «інстытуты — гэта набор фармальных правілаў, нефармальных абмежаванняў і механізмаў іх прымусовага ажыццяўлення».

### Дысцыпліна — гэта важна

Паводле азначэння, якое прыпісваецца Уінстану Чэрчылю, Сталін прыняў Расію з сахой, а пакінуў з атамнай бомбай. У перакладзе на мову «Азбукі паліталогіі» сталінізм — гэта шлях расійскай цывілізацыі з традыцыйнага свету да масавага грамадства, г. зн. у сучаснасць. Гэты шлях у складзе дружнай сям'і савецкіх народаў прайшлі і беларусы.

У працэсе руху і быў сфармаваны чалавек новага тыпу («чалавек савецкі» ў тэрміналогіі Лявада-Цэнтра). Няздольнасць прымаць чужую пазіцыю — адна з яго базавых характарыстык.

Чалавек савецкі выдатна зарэкамендаваў сябе на лесапавале, перамяшчэнні грузаў з дапамогай тачкі і ў цэхах прамысловых гігантаў пры выкананні элементарных тэхналагічных аперацый. Але па меры ўскладнення вытворчых працэсаў ён сутыкнуўся з непераадольнымі праблемамі. Заадно праблемы сталі памнажацца ў дзяржавы, якая першапачаткова імкнулася «дагнаць і перагнаць Амерыку». Прыйшлося ёй зніжаць планку да «падтрымання ядзернага парытэту з верагодным праціўнікам».

Распад СССР чалавек савецкі ў яго беларускім варыянце не толькі змог паспяхова перажыць, але і правесці свайго кандыдата на вышэйшую дзяржаўную пасаду ў 1994 годзе.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што ўдзячны АП прыклаў максімум намаганняў для ўзнаўлення «чалавека савецкага» — павелічэння сваіх прыхільнікаў. Няпростая гэта задача — веславаць супраць мэйнстрыму. Інакш уладу не ўтрымаць.

Але калі колькасць «чалавека савецкага» робіцца празмернай, варта чакаць непрыемнасцяў. Попыт на перасоўванне грузаў з дапамогай тачкі ўпаў, а выконваць тэхналагічную дысцыпліну наш герой так і не навучыўся. Тут я зноў дазволю сабе цытаванне: *«Это очень важно: производственная дисциплина, а в основе ее лежит технологическая дисциплина. Не будет этой дисциплины — ни один руководитель ничего не сделает»*.

Адзін не зробіць. Аднак кіраўнік, чый патэнцыял шматкроць узмоцнены Дэкрэтам №5, здольны вырашыць задачы любога ўзроўню.

***

Скончу гэту «Азбуку паліталогіі», як і пачаў, цытатай аднакласніцы: «На жаль, ты не паказваеш ніякага шляху пераадолення цяжкасцяў у нашай краіне. Ты не дапамагаеш знаходзіць правільныя шляхі і рухацца па іх…»

Грэшны. Каюся. Да знаходжання правільных шляхоў я не дарос. Вось і даводзіцца здавольвацца спробамі зразумець рэальнасць, у якой выпала жыць. А разуменне — «гэта таксама дзеянне, прычым больш істотнае, чым удзел у тых ці іншых прамых грамадзянскіх акцыях» (Леў Гудкоў).



# Рускія ў Эстоніі: інтэграцыя — гэта не асіміляцыя

Яўгенія ХОЛАД



**Мне даводзілася бываць у Эстоніі досыць часта, але, акрамя як на рынку, я ніколі не размаўляла тут па-руску: не хацела адчуваць на сабе пагарду, якую, на маю думку, выказваюць эстонцы да сваіх рускамоўных жыхароў. Аднак пазней высветлілася, што гэты страх — звычайны комплекс беларусаў, якія баяцца быць зблытанымі з рускімі за мяжой. Ніякай пагарды даўно няма, а адзіная праблема — неразуменне эстонцамі (асабліва маладымі) рускай мовы — вырашаецца адразу пасля таго, як ты ветліва пераходзіш на англійскую.**

## «Ніякага рускага пытання няма»

Калі я шукала людзей для інтэр'ю сярод рускамоўнага насельніцтва Эстоніі, прадстаўляючыся як журналіст, які хоча разабрацца ў «рускім пытанні», многія накіравалі мне адказы з выказваннем здзіўлення: «Паводле нашага глыбокага перакanання, ніякага рускага пытання, проста кажучы, няма».

Справа ў тым, што эстонцы пад «рускім пытаннем» часта маюць на ўвазе нежаданне рускамоўнага насельніцтва інтэгравацца, у той час як самі рускія разумеюць пад гэтым дыскрымінацыю, якую яны адчуваюць. Тут паўстае іншае пытанне: калі неаднаразова прагучала думка аб адсутнасці «рускага пытання», ці існуе насамрэч гэтая дыскрымінацыя, і наколькі яна залежыць ад нежадання рускіх эстанізавацца?

Дзіўная справа: калі я пыталася ў рускамоўных, ці адчуваюць яны на сабе дыскрымінацыю, каля паловы давалі станоўчы адказ, але на просьбу ўдакладніць, у чым гэтая дыскрымінацыя заключаецца, проста губляліся.

## Не панаехаўшыя



Актывістка арганізацыі «Руская школа Эстоніі» Аліса Блінцова

Аліса Блінцова, актывістка арганізацыі «Руская школа Эстоніі», паскардзілася на новую школьную рэформу, паводле якой 60% выкладання павінна адбывацца на эстонскай мове. Праблему спадарыня Блінцова бачыць у тым, што рэформа сама па сабе з'яўляецца незаконнай. Паводле Алісы, любы чалавек павінен мець права атрымліваць адукацыю на сваёй мове. «Можна падумаць, што дзяржава проста не зможа забяспечыць навучанне кожнай этнічнай меншасці на роднай мове. У Эстоніі, Латвіі і Літве сітуацыя зусім іншая: нам тут не трэба ствараць новыя школы, набіраць выкладчыкаў, праграму складаць. У нас гэта ўсё ўжо ёсць, у нас гэта было спакон вякоў тут: рускай адукацыі ў Эстоніі больш гадоў, чым самой Эстонскай Рэспубліцы! Проста не трэба парушаць тое, што тут існавала стагоддзямі. Рускія тут жывуць, прабачце, з XVI стагоддзя. Яны тут не панаехаўшыя. Яны тут жылі заўсёды, гэтак жа, як і немцы і шведы».

Складаецца ўражанне, што гэта эстонцы нейкім чынам захапілі кавалачак паўночна-ўсходняй Расіі і пачалі там насаджаць сваю культуру. Пытаюся, ці не задумваліся незадаволеныя рэформай рускамоўныя бацькі рускамоўных дзяцей, што гэтая рэформа з'яўляецца, у першую чаргу, дапамогай у вывучэнні мовы краіны, у якой яны жывуць, а з больш прагматычнага пункту гледжання — натуральна, у атрыманні вышэйшай адукацыі ў Эстоніі і працы. «Так, існуе думка, што гэта нібыта дапаможа вывучэнню эстонскай мовы, аднак гэтае меркаванне нічым не пацверджана, ніякіх даследаванняў на гэтую тэму не праводзілася».

Трэба адзначыць, што на Алісу ў свой час была заведзена справа па фальсіфікацыі дакументаў, паводле якіх бацькі апякунскага савета адной з талінскіх рускамоўных школ не пагаджаюцца, каб іх дзеці навучаліся на эстонскай мове.

Большасць маіх рускамоўных знаёмых, якія жывуць у Эстоніі, добра валодаюць эстонскай мовай, маюць эстонскае грамадзянства, хтосьці нават адслужыў у эстонская арміі. Анастасія Драчова, менеджэр па камунікацыі эстонскага культурнага партала kultuur.ee, кажа, што была неверагодна здзіўлена, калі яе, рускамоўную дзяўчыну з рускімі імем і прозвішчам, узялі на працу. Аднак, насамрэч, такіх прыкладаў — процьма.

## Экзамен па эстонскай мове



Журналіст і тэлевядучы Уладзіслаў Капылкоў

Улічваючы дадзеныя некаторых статыстык, рускамоўныя лічаць экзамен на валоданне эстонскай мовай неверагодна і неапраўдана складаным і дыскрымінуючым. Хтосьці кажа, што ім прасцей і «практычней» вывучыць англійскую. «Навошта? Я навіны і па-руску прачытаць магу», — адказваюць другія. І толькі трэція прызнаюцца: «Было няцяжка, я эстонскую з дзяцінства вучыў». У асноўным гэта тая праслойка рускамоўнай моладзі, якая нарэшце пачынае інтэгравацца ў эстонскае грамадства і нейкім чынам даказваць самім эстонцам, што не ўсе рускамоўныя — закрытыя і «неінтэграбельныя».

«Інтэграцыя — гэта такі працэс, калі два бакі ідуць насустрач, — каментуе журналіст Уладзіслаў Капылкоў. — Самі дзеячы інтэграцыі прызнаюць, што інтэграцыя — гэта не асіміляцыя. Мы не павінны асіміляваць рускамоўную меншасць, мы павінны захаваць яе культуру, нейкія сацыякультурныя коды, але адначасова мы павінны пабудаваць адзінае грамадства і знаходзіць нейкія пункты дотыку». Журналіст сцвярджае, што ўсе інтэграцыйныя механізмы ў Эстоніі даволі развітыя: гэта і курсы эстонскай мовы, і культурная праграма, розныя семінары і лекцыі. Дастаткова мець жаданне імі скарыстацца.

Неабходнасць здачы экзамену па эстонскай мове да цяперашняга часу застаецца адным з найбольш папулярных адказаў на пытанне аб тым, у чым жа заключаецца дыскрымінацыя рускамоўных Эстоніі. Маўляў, трэба валодаць такім узроўнем мовы, якім не валодаюць самі эстонцы. Самі эстонцы пагаджаюцца, што гэта не найлягчэйшы іспыт, аднак складанасць яго залежыць ад складанасцяў самой мовы, ніякага дыскрымінацыйнага характару гэта не нясе. Экзамен аднолькавы для ўсіх, хто жадае атрымаць эстонскае грамадзянства, то бок не толькі для рускіх.

Юрыст і публіцыст Яўген Цыбуленка расказвае, што для атрымання эстонскага грамадзянства трэба здаць два іспыты. «Першы — эстонская



Юрыст-міжнароднік і публіцыст Яўген Цыбуленка

мова на ўзровень B1 — базавы ўзровень. Другі іспыт — на веданне асноў канстытуцыі і асноў закона аб грамадзянстве. Прытым, падчас другога іспыту і канстытуцыя, і закон аб грамадзянстве ляжаць на стале. Экзамены элементарныя». Яўген кажа, што вельмі шмат людзей гэтыя экзамены паспяхова здаюць.

З часоў атрымання Эстоніяй незалежнасці, колькасць асобаў без грамадзянства, так званых «шэрапашпартнікаў» змяншылася з 30% да 7%. Гэта быў вольны выбар людзей: хтосьці прыняў расійскае грамадзянства, хтосьці ўкраінскае, хтосьці застаўся без грамадзянства, але збольшага людзі, у якіх было моцнае жаданне атрымаць эстонскае грамадзянства, яго атрымалі.

«У адным з сацапытанняў значыцца, што 68% рускамоўных, якія не прайшлі іспыт на валоданне нацыянальнай мовай, лічаць гэты іспыт зневажальным. Але калі чалавек лічыць, што вывучэнне мовы той краіны, у якой ён жыве, лічыцца зневажальным, то гэта асабістая праблема самога чалавека», — кажа Яўген.

## «Вы бачылі іх вёскі?»

Іншая справа — калі чалавек адмыслова не прымае ні расійскае, ні эстонскае грамадзянства. Прычына: бязвізавы рэжым з Расіяй, а там сваякі, радзіма продкаў і танныя тавары. Мяжа Эстоніі і Расіі ў горадзе Нарва — гэта доўгі мост праз аднайменную раку. Цэлы дзень на машынах, пехатою, на веласіпедах, людзі туды-сюды мітусяцца ўздоўж усяго пераходу.

Апытваем людзей, якія толькі прасеклі памежны пункт. Збольшага гэтыя людзі падтрымліваюць расійскую палітыку, ганарацца Пуціным і ставяцца з пагардай да эстонскай дзяржавы, збольшага, але не ўсе. Але вось на пытанне, ці хочуць яны пераехаць у Расію, большасць адказала прыкладна так: «А вы бачылі іх вёскі? Там жа галота і бардак, з законам ніхто не сябруе». Адзін маргінальнага выгляду мужчына нават адзначыў, што «тэрміны ў турмах Эстоніі больш справядлівыя і гуманныя». А анексіі Нарвы пажадаў толькі адзін чалавек, і тое пасля некаторых роздумаў выдаў сумнеўнае: «Магчыма так».

Былы мэр Нарвы Тарма Тамістэ падкрэслівае, што вельмі малы працэнт нарвіцянаў хоча змяніць сваё становішча. Большасці з іх падабаецца, якія ў Эстоніі створаны магчымасці. Нягледзячы на тое, што пасля дазволу неграмадзянам уязджаць у Расію без візы, многія жыхары, у асноўным сталага веку, проста згубілі матывацыі атрымліваць грамадзянства.



Былы мэр Нарвы Тарма Тамістэ

«Рускія, якія жывуць у Расіі, і рускія, якія жывуць у Эстоніі, — гэта розныя рускія. У нейкім сэнсе, у іх ужо нават мова адрозніваецца. Падыход да жыцця і паняцце «радзіма» ў іх таксама розныя. Падыдзіце да любога нарвіцяніна на вуліцы. Для іх радзіма — гэта Эстонія, і яны не хочуць ніякага ўз'яднання», — упэўнены Тарма Тамістэ.

Працяг будзе

# Міхась Кутас: Чым глыбей пазнаеш Бацькаўшчыну, тым больш яе любіш



Марат ГАРАВЫ

**Здаецца, ніхто так не любіць свой край, як краязнаўцы. Гэта пацвердзіла і маё знаёмства з краязнаўцам са Стоўбцаў, падпалкоўнікам міліцыі ў адстаўцы Міхасём Кутасам.**

Я даведаўся, што ў Стоўбцах ёсць такі апантаны бацькаўшчынный чалавек не так даўно, на пачатку красавіка. Менавіта ў гэты час ініцыятарамі кампаніі #brukavanka — актывістамі аргкамітэту «Мінскага гарадскога таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага» і грамадскай ініцыятывы «Еўраперспектыва» Віктарам Яўмененкам і Дзянісам Кобрусевым быў арганізаваны прэс-тур, удзельнікам якога я і стаў.

Цікавасць да гісторыі з маленства прывіла Міхасю ягоная бабуля Альжбета з заможнага роду Салохаў, якая жыла ў хаце продкаў у вёсцы Шэшкі, што на Стаўбцоўшчыне, была вельмі набожнай і ніколі не маніла. Яе бацька Пятрусь працаваў аканомам у мясцовых паноў Гаціцкіх, і бабуля шмат чаго распавядала з былых часоў.

Так, менавіта ад яе Міхась даведаўся, што паны Гаціцкія былі адукаванымі, выхаванымі і неблагімі людзьмі, якія з павагай ставіліся да вяскоўцаў, кожнага ведалі па імені і з кожным віталіся за руку. Вось чаму потым у школе хлопчыку было дзіўна чуць пра нейкіх дрэнных паноў, якія прыгняталі людзей... Альжбетавыя пераказы містычных легендаў і паданняў сівой даўніны, а таксама яе ўспаміны дапаўняла мноства старадаўніх рэчаў у бабулінай хаце, якой на той час было не менш за 150 гадоў.

Сярод хатніх цікавостак былі пацямнелыя друкаваныя абразы і вяршаліна драўлянага прыдарожнага крыжа, цудоўна ўпрыгожанага разьбою і каваным металам на грошы пані Гаціцкай. Менавіта бабуля выратавала гэтую самую прыгожую частку вясковай святыні пасля наведвання Стаўбцоўшчыны ў 1959 годзе першым сакратаром ЦК КПСС Мікітай Хрушчовым, які заявіў, што ў Заходняй Беларусі засталося шмат храмаў...

Цікавасць да мінуўшчыны падагравалі і школьныя настаўнікі гісторыі — былая партызанка Любоў Давыдаўна Ткачова і былы афіцэр Савецкай Арміі Уладзімір Рыгоравіч Разумкоў. Удзельнікі Другой сусветнай вайны, яны добра ведалі свой край — радзіму народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, людзей і славутасці Стаўбцоўшчыны. Дарэчы, расповед Уладзіміра Рыгоравіча пра расстрэл у 1941 годзе бязвінных слухачоў пашскораных афіцэрскіх курсаў па бязглуздаму абвінавачванню ў дэзерцірстве прымусіў Міхася больш удумліва паглядзець на гісторыю мінулай вайны.



Міхась Кутас з сынам Аляксеем і старадаўнімі абразамі, што засталіся ў спадчыну ад бабулі Альжбеты



Срэбраныя лыжкі з Нясвіжскага палацу Радзівілаў

Паколькі за польскім часам Стоўбцы знаходзіліся ўсяго за 15 кіламетраў ад мяжы з БССР, у горадзе шмат што нагадвала пра даваеннае мінулае. Гаворка ідзе пра будынак гарадской турмы з дотам (зараз музычнай школы), адкуль у жніўні 1924 года вызваліла вязняў група вядомага савецкага разведчыка, будучага героя Савецкага Саюза Станіслава Ваўпшасава, будынак мясцовага суду (зараз — райвыканкаму), дзе доўгі час месціліся геадэзічныя знакі з выявай гербу Польскай дзяржавы — белага арла на чырвоным полі. Увогуле, сам памежны статус Стаўбцоўшчыны ў 1921–1939 гадах і па сённяшні прываблівае да гэтага краю цікавасць аматараў гісторыі, прыгодаў і вандраванняў.

Першае знаёмства са сведчаннем мінулага адбылося ў Міхася яшчэ падчас вучобы ў школе, калі ён бавіў час у хаце другой бабулі — Ядвігі. Менавіта тады хлопчык упершыню ўбачыў сапраўдную зброю — расцісн утны кожух ад савецкага аўтамата ППШ, які з каскай і штыком ад вінтоўкі СВТ знайшлі ў ваколіцах Шэшкаў ягоныя старэйшыя стрыечныя браты. Гэтыя рэчы і паклалі пачатак збору краязнаўцы.

А вось што распавёў сам Міхась Кутас пра найбольш цікавыя экспанаты сваёй калекцыі.

### Кавалак старажытнага скрутку Торы

Дзесьці ў 1978 годзе, калі адзінаццацігадовым хлопчыкам быў на летніх вакацыях у Шэшках, на гарышчы хаты Альжбеты каля коміну ў саломе сярод усялякай старызны знайшоў кавалак пергаменту з тэкстам на іўрыце — старажытнай габрэйскай мове. А калі ў 1990 годзе бабуля Альжбета памерла і хату разбіралі, захаваў гэты фрагмент манускрыпту — габрэйскай Торы (Пяцікніжжа Майсея, што складаюць першыя пяць кніг біблейскага Старога Запавету — Быццё, Выхад, Левіт, Лічбы і Другі закон). Так у маёй калекцыі апынуўся гэты рукапіс, якому не менш за 400 гадоў. Дзеля захавання гэтага рарытэту мяркую змясціць яго паміж двух лістоў шкла. Адкуль фагмент Торы апынуўся ў бабулінай хаце? Не выключана, што падчас вайны на гарышчы хаваліся мясцовыя габрэі.

### Срэбраныя лыжкі Радзівілаў

Мой сябар працаваў таксістам і прыкладна ў 1996 годзе пазнаёміў мяне з чалавекам, якому ў спадчыну дасталіся чатыры срэбраныя лыжкі 1889 года вытворчасці з нясвіжскай ардынацыі князёў Радзівілаў. Гэтыя лыжкі — дзве сталовыя і дзве для гарбаты — раней належалі ягонай бабулі, якая да 1939 года працавала кухаркай у Нясвіжскім замку Радзівілаў. І калі ў Заходнюю Беларусь прыйшлі Саветы і занялі радзівілаўскую ардынацыю, бабуля ўцякла ад бальшавікоў і прыхапіла з сабою на памяць чатыры срэбраныя лыжкі з манаграмай сваіх гаспадароў. Каб гэтыя рарытэты апынуліся ў маёй калекцыі, мне давялося за іх выкласці амаль свой тагачасны месячны заробак.



Кінжал «бебут»

### Залаты ордэн імператара Франца-Ёсіфа

Мясцовы прадпрымальнік і калекцыянер Леанід Клінцоў напрыканцы Другой сусветнай вайны нарадзіўся ў Аўстрыі ў сям'і савецкага афіцэра. У спадчыну ад бацькі, які ў акупаванай краіне кватараваў у нейкім замку, Леаніду дастаўся і гэты цудоўны залаты з эмаллю імператарскі аўстрыйскі ордэн Франца-Ёсіфа — дзяржаўная ўзнагарода Аўстра-Венгрыі. На ордэне — асабісты дэвіз імператара Франца-Ёсіфа I «Viribus unitis» (з латыні — «Аб'яднанымі намаганнямі»), літары «FJ», лічбы «1849», двухгаловы чорны аўстрыйскі арол з імператарскай каронай і рэліквары. Узнагарода была зацверджана Францам-Ёсіфам 2 снежня 1849 года, у дзень гадавіны каранацыі манарха, і існавала да 1918 года, калі Аўстра-Венгерская імперыя Габсбургаў прыпыніла сваё існаванне. Калі Леанід Клінцоў збяднеў, ён распрадаў сваю калекцыю. Менавіта тады я і прыдбаў гэты ордэн.

### Кінжал «бебут»

Гэты крывы каўказскага ўзору кінжал «бебут», па-майстэрску скаваны ў 1915 годзе ўральскімі збройнікамі з гораду Златавуст, быў на ўзбраенні казакаў-артылерыстаў у войску Расійскай імперыі падчас Першай сусветнай вайны. Кінжал быў знойдзены недзе гадоў 20 таму мясцовымі жыхарамі ў прыпечку аднога з закінутых хат вёскі Кнотаўшчына, што ў Мікалаеўшчынскім сельсавеце на Стаўбцоўшчыне.

### Савецкія даваенныя манеты

У Стоўбцах жыве краязнаўца, мой сябра Іван Жыцкі, які шмат гадоў займаецца ўшанаваннем памяці воінаў Савецкай Арміі, загінуўшых на Стаўбцоўшчыне ў гады Другой сусветнай вайны. У лясным урочышчы каля чыгуначнай станцыі Коласава спадар Іван на свае грошы ўзвёў помнік палеглым, сабраў вялікі архіў дадзеных пра вайсковыя часткі і злучэнні, якія прымалі ўдзел у абароне і вызваленні нашага краю ад нацыстаў. Іван Жыцкі распавёў, што 28 чэрвеня 1941 года савецкія войскі ў ваколіцах Стоўбцаў збілі варожую заслону і паспрабавалі прарвацца на Мінск. Аднак нацысты акружылі савецкія часткі і амаль поўнасцю знішчылі агнём артылерыі і мінамётаў. У красавіку 2008 года мы знайшлі ў раёне гэтых баёў парэшткі савецкага салдата Рыгора Сямёнавіча Сямёнава з Ленінградскай вобласці Расіі. Гэтыя парэшткі ў чэрвені 2008 года былі перапахаваныя ў брацкую магілу на плошчы Неўміручасці ў Стоўбцах. А тры савецкія даваенныя манеты, знойдзеныя разам з парэшткамі Рыгора Сямёнава, нагадваюць мне пра гэтага рускага салдата, які загінуў на беларускай зямлі.



Міхась Кутас з фрагментам Торы

TV

## 29 ЧЭРВЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча на Дзень святых апосталаў Пятра і Паўла.
**09.00** Навіны.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Дэтэктыўная меладрама «Не жаночая справа» (Расія).
**11.00** 90 секунд.
**11.05** Псіхалагічная меладрама «Маша».
**12.00** Навіны.
**13.00** 90 секунд.
**13.10** Дэтэктыўная меладрама «Племяшка» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.35** Дэтэктыўная меладрама «Племяшка» (Расія). 3. і 4-я, заключная, серыі.
**16.00** 90 секунд.
**17.35** «Белорусское времечко».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Арэна.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Не жаночая справа» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Форум з Дзмітрыем Бачковым.
**22.40** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**00.10** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**00.30** Навіны.
**00.45** Дзень спорту.

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здорава!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**15.05** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субцітрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Зваротны адлік.
**19.30** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Справа прынцыпу».
**22.15** Танцуй!
**00.45** «Вячэрні Ургант».
**01.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.25** «Вялікі сняданак» з Ірынай Рамбальскай.
**10.05** «Далёкія сваякі».
**10.40** «Салдаты 6». Серыял.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Эліксір маладосці».
**14.50** «Дарагая перадача».
**15.00** «Чыстая работа».
**15.50** «Іншая краіна».
**16.50** «Вялікі горад».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Самыя шакавальныя гіпотэзы».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Ваенная таямніца з Ігарам Пракапенка».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Тыдзень спорту».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Дыверсант. Канец вайны» (Расія).
**10.05** Тэлебарометр.
**10.35** Азбука густу.
**11.10** Навуковае шоу прафесара Адкрывашкіна.
**12.00** Зразумець і абясшкодзіць.
**12.30** Крымінальны баявік «Моцны арэшак» (ЗША).
**14.45** Крымінальны баявік «Моцны арэшак 2» (ЗША).
**16.50** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Дыверсант. Канец вайны» (Расія).
**17.55** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль «Вавілон» Вялікабрытанія.
**19.10** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.00** Рэальны свет.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** КЕНО.
**21.40** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.35** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.30** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**23.55** Містычны серыял-фэнтэзі «Быць чалавекам» Вялікабрытанія.
**00.55** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль «Вавілон» Вялікабрытанія.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Размовы пра духоўнае».
**08.20** «Пацалунак Сакрата». Дэтэктыўны серыял. Фільм чацвёрты «Чысты лёд». 1-я і 2-я серыі (Беларусь, 2011 г.).
**10.00** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**10.30** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**11.25** «Наперад у мінулае».
**11.50** Мультфільмы.
**12.25** Калейдаскоп.
**12.35** «Размовы пра духоўнае».
**12.45** «Свой сярод чужых, чужы сярод сваіх». Прыгодніцкі баявік (СССР, 1974 г.).
**14.20** «АРТиШОК». Музычны гурт «Pe1ikt».
**14.45** «Таямніца душы». Ікона Мінскай Божай Маці.
**15.15** «Планета Бурштын». Дак. фільм.
**16.45** «Дняпроўскі рубеж». Ваенная драма. 1-я і 2-я серыі (Беларусь, 2009 г.).
**19.00** Калейдаскоп.
**19.10** «Размовы пра духоўнае».
**19.20** «Ваш сын і брат». Кінааповесць (СССР).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Партызаны супраць Вермахта». 1-я і 2-я серыі. Дакументальны фільм.
**22.00** «Замах». Ваенны дэтэктыў. 1-я і 2-я серыі (Беларусь, 2009 г.).
**23.25** Калейдаскоп.
**23.35** «Размовы пра духоўнае».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Вынікі дня.
**07.50** Спорт-мікс.
**08.10** PRO спорт. Навіны.
**08.30** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Фінал.
**10.30** Футбол. Беларусбанк - чэмпіянат Беларусі. Белшына (Бабруйск) - Дынама (Мінск).
**12.35** Спорт-мікс.
**12.55** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015.
**15.00** Тэніс. Уімблдон. Прамая трансляцыя.
**23.00** Час футбола.
**23.40** Еўрапейскі покерны тур.
**00.35** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Каханне ля поплаву, тэлесерыял.
**07.50** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**08.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.05** Ізгоі, д/ф.
**10.00** Невядомая Беларусь: Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп, д/ф.
**10.40** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Бітва пад Грунвальдам: ч. 1.
**10.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Бітва пад Венай.
**11.05** Загадкі беларускай гісторыі: Жыццё і смерць Рамана Скірмунта.
**11.20** Мова нанова: Спорт.
**11.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**11.55** Скрадзеныя вочы, гіст. драма.
**16.00** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**16.45** Наша Родина, д/ф.
**18.25** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма): Леанід Заіка.
**18.45** Побач з намі (зборнік рэпартажаў)
**19.00** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Бітва пад Грунвальдам: ч. 2.
**19.10** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.20** Бяссонная плынь, д/ф.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** 54 % (публіцыстычная праграма): Дыеты ці здаровае харчаванне?
**21.50** Надзея Саўчанка. Наша Надзея, д/ф.
**22.40** Скрадзеныя вочы, гіст. драма.
**00.25** Студыя «Белсат».

## 30 ЧЭРВЕНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**10.55** Дэтэктыўная меладрама «Не жаночая справа» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-5».
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.05** Біяграфічная драма «Евангелля» (Расія-Беларусь-Балгарыя). Заключная серыя.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Ваенная драма «Снайперы. Каханне пад прыцэлам» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.35** «Сямейныя меладрамы-5» (Украіна).
**17.35** «Белорусское времечко».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Дэтэктыўная меладрама «Не жаночая справа» (Расія). Заключная серыя.
**21.00** Панарама.
**21.40** Буйным планам.
**22.15** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**00.10** Сфера інтарэсаў.
**00.25** Навіны.
**00.45** Дзень спорту.
**00.55** Ваенная драма «Снайперы. Каханне пад прыцэлам» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**15.05** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субцітрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай гавораць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Тэлесерыял «Старэйшая дачка».
**23.05** Тэлесерыял «Рані».
**00.05** «Мужчынскае / Жаночае».
**01.00** Сам-насам з усімі.
**01.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Няпрошаныя госці». Мастацкі фільм.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Салдаты 6». Серыял.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Эліксір маладосці».
**14.55** «Турысты». Серыял.
**16.50** «Цэнтральны рэгіён».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Самыя шакавальныя гіпотэзы».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Тэрыторыя памылак з Ігарам Пракапенкам».
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.25** «Турысты». Серыял.
**01.05** «Жыццю насуперак». Дак. праект.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Дыверсант. Канец вайны» (Расія).
**10.10** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**11.25** «Экстрасенсы- дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**12.20** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**13.20** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.10** «Хачу ў тэлевізар». Рэаліці-шоў.
**15.45** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма Расія.
**16.45** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Дыверсант. Канец вайны» (Расія).
**17.55** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль «Вавілон» Вялікабрытанія.
**19.10** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.00** Рэальны свет.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Спортлато 6 з 49, КЕНО.
**21.40** «Экстрасенсы- дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.35** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.30** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**23.55** Містычны серыял-фэнтэзі «Быць чалавекам» Вялікабрытанія.
**00.55** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль «Вавілон» Вялікабрытанія.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Замах». Ваенны дэтэктыў. 1-я і 2-я серыі (Беларусь, 2009 г.).
**09.40** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Рыжы, сумленны, закаханы».
**10.05** «Рыжы, сумленны, закаханы». Казка. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1984 г.).
**12.30** Калейдаскоп.
**12.40** «Ваш сын і брат». Кінааповесць (СССР, 1965 г.).
**14.10** «Ніхто, акрамя нас». Ваенная драма (Расія, 2009 г.).
**16.00** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Рыжы, сумленны, закаханы».
**16.25** «Рыжы, сумленны, закаханы». Казка. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1984 г.).
**18.50** Калейдаскоп.
**19.00** «Камісар». Ваенная драма (СССР, 1967 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Партызаны супраць Вермахта». 3-я і 4-я серыі. Дакументальны фільм.
**21.55** «Замах». Ваенны дэтэктыў. 3-я і 4-я серыі (Беларусь, 2009 г.).
**23.20** С.Пракоф'еў. «Маддалена». Опера Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.
**00.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага дзеяча навук Беларусі, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктара фізіка-матэматычных навук Фёдара Фёдарава.
**00.30** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Спорт-мікс.
**07.50** PRO спорт. Навіны.
**08.10** Час футбола.
**09.00** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Італія - Беларусь.
**10.50** Футбол. Чэмпіянат свету (U-20). Матч за трэцяе месца.
**12.50** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015.
**15.00** Тэніс. Уімблдон. Прамая трансляцыя.
**23.00** Спорт-кадр.
**23.30** Еўрапейскі покерны тур.
**00.20** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**09.20** Наша Родина, д/ф.
**11.00** Бяссонная плынь, д/ф.
**11.40** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Бітва пад Грунвальдам: ч. 2.
**11.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**12.05** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма): Леанід Заіка.
**12.25** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**12.40** Час гонару, серыял.
**16.00** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**16.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.15** Беларусь – адзін верш, дак. цыкл: Ігар Бабкоў.
**17.25** Надзея Саўчанка. Наша Надзея (Надія Савченко: Наша Надія), д/ф.
**18.15** Пераемнікі, дакументальна-публіцыстычны цыкл: Раман Падаляка.
**18.35** Аўтаспынам па Беларусі.
**18.50** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Гарадзельская унія 1413 года. Прапанова Вітаўту зрабіцца каралём. Смерць гаспадара ў Троках.
**19.05** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.20** Невядомая Беларусь: Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп, д/ф.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.50** Загадкі беларускай гісторыі: Жыццё і смерць Рамана Скірмунта.
**22.05** Я люблю дэмакратыю. Турцыя, д/ф.
**23.00** Глыбокая вада, серыял.
**23.50** Семя, д/ф.
**00.20** Студыя «Белсат».

TV

## 1 ЛІПЕНЯ, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**10.55** Дэтэктыўная меладрама «Не жаночая справа» (Расія). Заключная серыя.
**12.00** Навіны.
**12.10** Меладраматычны серыял «Сямейныя меладрамы-5».
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.05** Прэм'ера! Меладраматычны серыял «Дзявочае паляванне» (Россия-Украіна. 1-я серыя.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Ваенная драма «Снайперы. Каханне пад прыцэлам» (Расія). Заключная серыя.
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-5».
**17.35** «Белорусское времечко».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.45** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Камедыйная меладрама «Каханне не бульба» (Расія). 1-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.40** Урачысты сход і святочны канцэрт майстроў мастацтваў і творчай моладзі «Маладая Беларусь».
**23.30** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.50** Сфера інтарэсаў.
**00.10** Навіны.
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Ваенная драма «Снайперы. Каханне пад прыцэлам» (Расія). Заключная серыя.

### Н

**Серада, 1**
**06.00**, 08.30 Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**15.05** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субцітрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай гавораць»з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Тэлесерыял «Старэйшая дачка».
**23.05** Тэлесерыял «Рані».
**00.00** «Мужчынскае / Жаночае».
**00.55** Сам-насам з усімі.
**01.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Кіно»: «Герой яе рамана».
**10.15** «Далёкія сваякі».
**10.40** «Салдаты 6». Серыял.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Эліксір маладосці».
**14.50** «Турысты». Серыял.
**16.50** «Мінск і мінчане».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Самыя шакавальныя гіпотэзы».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Кіно»: «Пасажыр 57».
**21.55** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Турысты». Серыял.
**00.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### 2 Беларусь

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Дыверсант. Канец вайны» (Расія).
**10.10** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**11.25** «Экстрасенсы- дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**12.20** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**13.20** Я хачу гэта ўбачыць!
**13.55** Беларуская кухня.
**14.25** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**16.15** «Хачу ў тэлевізар». Рэаліці-шоў.
**16.50** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Дыверсант. Канец вайны» (Расія).
**17.55** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль «Вавілон» Вялікабрытанія.
**19.10** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.00** Рэальны свет.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**21.40** «Экстрасенсы- дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.35** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.30** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**23.55** Містычны серыял-фэнтэзі «Быць чалавекам» Вялікабрытанія.
**00.55** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль «Вавілон» Вялікабрытанія.

### 3 Беларусь

**07.20** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!».Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Замах». Ваенны дэтэктыў. 3-я і 4-я серыі (Беларусь, 2009 г.).
**09.40** «Дванаццатая ноч». Камедыя (СССР, 1955 г.).
**11.05** Мультфільмы.
**12.05** «Святло далёкай зоркі».Памяці мастака Леаніда Дубара.
**12.30** Калейдаскоп.
**12.40** «Камісар».Ваенная драма (СССР, 1967 г.).
**14.25** «Наперад у мінулае».
**14.50** «Трафей сяржанта Багамолава». Дакументальны фільм пра ветэрана Аляксея Багамолава, які прайшоў усю вайну.
**15.15** «Навальніца». Драма (СССР, 1933 г.).
**16.35** Мультфільмы.
**17.35** «Дванаццатая ноч». Камедыя (СССР, 1955 г.).
**19.00** Калейдаскоп.
**19.10** «Развітанне з Пецярбургам». Музычная драма (СССР, 1971 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Партызаны супраць Вермахта». 5-я і 6-я серыі. Дакументальны фільм.
**21.55** «Замах». Ваенны дэтэктыў. 5-я і 6-я серыі (Беларусь, 2009 г.).
**23.20** «Славянскі базар-2011». Канцэрт народнага артыста Расіі Вячаслава Дабрыніна.
**00.40** «Святло далёкай зоркі».Памяці мастака Леаніда Дубара.
**01.05** Калейдаскоп.

### 5 Беларусь

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Пра футбол.
**07.45** PRO спорт. Навіны.
**08.05** Спорт-кадр.
**08.35** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Беларусь - Польшча.
**10.05** Футбол. Чэмпіянат свету (U-20). Фінал.
**12.36** Спорт-мікс.
**12.55** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015.
**15.00** Тэніс. Уімблдон. Прамая трансляцыя.
**23.00** Тэніс. Уімблдон.
**01.05** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Ізгоі, д/ф.
**09.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.50** Я люблю дэмакратыю. Турцыя, д/ф.
**10.50** Невядомая Беларусь: Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп, д/ф.
**11.25** Назад у будучыню: Гарадзельская унія 1413 года. Прапанова Вітаўту зрабіцца каралём. Смерць гаспадара ў Троках.
**11.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Бітва пад Венай.
**11.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**12.15** Глыбокая вада, серыял.
**13.05** Аўтаспынам па Беларусі.
**13.20** Семя, д/ф.
**16.00** Сенсацыі ХХ стагоддзя, серыял: Двубой у Вэнлё.
**16.50** Басаног па свеце.
**17.15** Апантаныя, дак. цыкл.
**17.25** Загадкі беларускай гісторыі: Жыццё і смерць Рамана Скірмунта.
**17.35** Я люблю дэмакратыю. Турцыя, д/ф.
**18.30** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Ці лёгка беларусы паддаюцца модзе?
**18.55** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Найбуйнейшая ў Еўропе дзяржава. Гарадзельская унія 1413 года.
**19.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Барская канфедэрацыя.
**19.15** Невядомая Беларусь: Беларусь пад нямецкай акупацыяй, д/ф: ч. 1.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Людскія справы: Чаго больш у Беларусі: міліцыянтаў ці «мянтоў»?
**22.00** Кітай і рэальнасць, д/ф.
**23.00** Золата дзэрціраў, м/ф.
**01.05** Студыя «Белсат».

## 2 ЛІПЕНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча на дзень Будслаўскай іконы Божай Маці-апякункі Беларусі.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Камедыйная меладрама «Каханне не бульба» (Расія). 1-я серыя.
**12.10** МСерыял «Сямейныя меладрамы-5».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.05** Меладраматычны серыял «Дзявочае паляванне» (Расія-Украіна). 2-я серыя.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Трагікамедыя «РэПэПэ. Рэжым поўнага апускання» (Расія).
**17.35** «Белорусское времечко».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Камедыйная меладрама «Каханне не бульба» (Расія). 2-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.40** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.15** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.35** Сфера інтарэсаў.
**23.55** Навіны.
**00.10** Дзень спорту.
**00.25** Трагікамедыя «РэПэПэ. Рэжым поўнага апускання» (Расія).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**15.05** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субцітрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай гавораць»з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера АНТ «Трэба разабрацца».
**21.30** Тэлесерыял «Старэйшая дачка».
**23.30** Тэлесерыял «Рані».
**00.30** «Кароткае лета Валерыя Прыёмыхава».
**01.30** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Кіно»: «Пасажыр 57».
**10.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**10.40** «Салдаты 6». Серыял.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Эліксір маладосці».
**14.50** «Турысты». Серыял.
**16.50** «Прыгоды дылетанта».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Самыя шакавальныя гіпотэзы».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Кіно»: «Купі, займі, выкрадзі».
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.25** «Турысты». Серыял.
**01.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».

### 2 Беларусь

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Дыверсант. Канец вайны» (Расія). Заключная серыя.
**10.10** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**11.20** «Экстрасенсы- дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**12.15** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**13.20** Капейка ў капейку.
**13.50** Беларуская кухня.
**14.25** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**16.15** «Хачу ў тэлевізар». Рэаліці-шоў.
**16.45** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Дыверсант. Канец вайны» (Расія). Заключная серыя.
**17.55** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль «Вавілон «Вялікабрытанія.
**19.15** Рамантычная камедыя «50 першых пацалункаў» (ЗША).
**21.00** Рэальны свет.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Спортлато 6 з 49, КЕНО.
**21.40** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Тры дні лейтэнанта Краўцова» (Украіна). 1-я-4-я серыі.
**01.05** «Сакрэтная зброя». Дак. фільм (Беларусь).

### 3 Беларусь

**07.15** «Дабраранак».
**07.45** «Хачу ўсё ведаць!».Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**07.55** Калейдаскоп.
**08.05** «Размовы пра духоўнае».
**08.15** «Замах». Ваенны дэтэктыў. 5-я і 6-я серыі (Беларусь, 2009 г.).
**09.45** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Незвычайныя прыгоды Дзяніса Караблёва».
**10.10** «Незвычайныя прыгоды Дзяніса Караблёва». Камедыйна-прыгодніцкі тэлефільм. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1979 г.).
**12.15** «Святло далёкай зоркі». Памяці опернага спевака, народнага артыста БССР Зіновія Бабія.
**12.45** Калейдаскоп.
**12.55** «Размовы пра духоўнае».
**13.05** «Развітанне з Пецярбургам». Музычная драма (СССР, 1971 г.).
**14.35** «Сустрэчы ў «Букваедзе». Людміла Уліцкая.
**15.15** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Незвычайныя прыгоды Дзяніса Караблёва».
**15.40** «Незвычайныя прыгоды Дзяніса Караблёва». Камедыйна-прыгодніцкі тэлефільм. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1979 г.).
**17.50** Калейдаскоп.
**18.00** «Размовы пра духоўнае».
**18.10** «Сіла веры».
**18.35** «Розныя лёсы Тацццяны Пілецкай». Дакументальны фільм.
**19.05** «Розныя лёсы». Меладрама (СССР).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Партызаны супраць Вермахта». 7-я і 8-я заключная серыі. Дакументальны фільм.
**21.55** «Замах». Ваенны дэтэктыў. 7-я і 8-я заключная серыі (Беларусь, 2009 г.).
**23.25** «Подых струн». Песні нашага стагоддзя.
**00.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці опернага спевака, народнага артыста БССР Зіновія Бабія.
**01.00** Калейдаскоп.
**01.10** «Размовы пра духоўнае».

### 5 Беларусь

**07.30** PRO спорт. Навіны.
**07.45** сэлф.
**08.05** PRO спорт. Навіны.
**08.20** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Беларусь - Турцыя.
**10.00** Пляжны футбол. Еўраліга. Беларусь - Францыя.
**11.10** Формула-Е. Гран-Пры Лондана.
**12.30** Спорт-мікс.
**12.50** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015.
**15.00** Тэніс. Уімблдон. Прамая трансляцыя.
**23.00** Тэніс. Уімблдон.
**01.05** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Сенсацыі ХХ стагоддзя, серыял: Чырвоная капэла.
**09.20** Басаног па свеце.
**09.50** Кітай і рэальнасць, д/ф.
**10.50** Невядомая Беларусь: Беларусь пад нямецкай акупацыяй, д/ф: ч. 1.
**11.35** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Найбуйнейшая ў Еўропе дзяржава. Гарадзельская унія 1413 года.
**11.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Барская канфедэрацыя.
**12.00** Людскія справы: Чаго больш у Беларусі: міліцыянтаў ці «мянтоў»?
**12.30** Золата дзэрціраў, м/ф.
**16.00** Ваенныя гульні, д/ф: ч. 5.
**16.50** Басаног па свеце (спазнавальная праграма).
**17.20** Кітай і рэальнасць, д/ф.
**18.20** Мярлінская малітва, рэпартаж.
**18.40** Мова нанова: Крама.
**18.50** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Вайна Свідрыгайлы з Жыгімонтам. Гаспадар Казімір Ягайлавіч. Статут 1468 года. Паўстагоддзя міру.
**19.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Бітва пад Венай.
**19.15** Невядомая Беларусь: Беларусь пад нямецкай акупацыяй, д/ф: ч. 2.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Два на два (тэледыскусія): Юрый Варонежцаў і Марат Афанасьеў.
**21.55** Жыццё ў лепшым свеце, д/ф.
**22.50** Навеньская, дэтэктыўны серыял.
**23.40** Дэкалог-89+, цыкл кароткаметражных фільмаў: фільм 5: Справа Януша В.
**00.05** Студыя «Белсат».

Літаратурная Беларусь

Выпуск №6 (106)
(чэрвень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info

## Змест



# Эпітафія кніжнай нацыі

*Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ,*
*блогі «Радыё Свабода»*



**Нядаўна зайшоў у нашу пасялковую бібліятэку — зачынілі чарговую кніжную кропку на раёне, і новая партыя прыйшла на макулатуру. Стосы звязаных вяроўчынай кніг, на жаль, торты не нагадвалі. Хутчэй — «магілкі хатніх гадаванцаў», якія пакутавалі перад смерцю на нястачу цёплага стаўлення гаспадароў. Абымшэлыя старонкі з аўтографамі Ватацы, Законнікава, Бураўкіна і нават — раптам! — даваенны том «містэра Піквіка» мінскага выдання.**

Усталіцы — тое самае, толькі ў больш брутальным варыянце. Настала пара адпачынкаў і рамонтаў, а таму шнурам пацягнуліся шчаслівыя ўладальнікі бабуліных кватэраў да найбліжэйшых сметнікаў, і грувасцяцца побач са смярдзючымі кантэйнерамі зборы твораў расійскіх і прагрэсіўных заходніх класікаў, дэтэктывы і савецкія вытворчыя раманы, беларусіка, нават і новыя кнігі, што перасталі ўпісвацца ў інтэр'ер.

Відаць, кожная краіна мае свой нацыянальны інтэр'ер, бязлітасны і прагматычны: зойдзеш у мінскую мэблевую краму, а там на кожную сценку, на кожны драўляны «катэдральны сабор» добра калі «паложана» тры-чатыры невялікія паліцы. Разлюбіў паспаліты народ хатнія бібліятэкі. Што з іх возьмеш, акрамя пылу і рэйдэрскага захопу жыллёвай плошчы? Парадачак трэба каб быў: чысціня, спакой і плазменны тэлевізар на белай сцяне. Хочаш чытаць — купі чыталку і радуйся. А лепш глядзі БТ, хадзі на парад і «ў Суперлато гуляй», як Міхалок спявае.

Рэч нават не ў кнізе як аб'екце, пра які апошнім часам так любяць гаварыць калякультурныя чынушы ў пінжаках з сталёвым адлівам (шэлест старонак, пах друкарскай фарбы і іншага кшталту «цёплы лямпавы гук»). А ў тым, што бібліятэка — абавязковая прыкмета рацыянальнага мыслення, якое не церпіць неўпарадкаванасці й прымітыўнасці. Хатні кнігазбор — тваё ўласнае «сім сіці», ты будуеш яго дзесяцігоддзямі, развіваеш, абрабляеш, як той векапомны сад, бо і тут жа можна абразаць старое ссохлае голле і прышчапляць новыя гатункі. Разам з бібліятэкай расцеш і ты, яна ў нейкім сэнсе твой люстраны адбітак, і няхай не ўсе кнігі бярэш у рукі, але кожная ведае сваё месца і з'яўляецца часткай агульнай кампазіцыі — тунэлем у лабірынце альбо разыходнай сцежкай, куды, можа, толькі аднойчы ступіла твая думка, аднак жа след ад таго даўняга ўчынку застаўся ў выглядзе кнігі. Радуешся знойдзенай рэдкасці — прыжыццёваму зборнічку Купалы, напрыклад. Менавіта такі некалі прывезлі з друкарні дзядзьку Янку — ды ён і сам ведаў смак кніжнага захаплення, не раз заміраў у цішыні кнігарні, бібліятэкі ці пецярбурскай кватэры Шыпілы з выпадкова знойдзенай цытатай у невыпадкова раскрытым фаліянце. І не ён адзін, зрэшты. Бо як і самому кнігу ствараць, калі не бачыш за ёй каштоўнасці?

Нядаўна разгаварыліся мы з віленскім беларусам Андрэем Антонавым і пачалі меркаваць, чаму ў Вільні ў букіністах летувіскамоўнай даваеннай кнігі хоць валізамі вынось, а ў беларускіх — дзве-тры беларускамоўныя кніжачкі, ды і тыя ляжаць блізка тры гады, нікім не купленыя. Здаецца, адны на дваіх з Літвой былі тыражы (не надта каб ужо і вялікія, а часам — мізэрныя), рэпрэсіі, савецкія галоўлітаўскія «спісы на знішчэнне», вайна і немцы, натуральныя працэсы знікнення кніг і іх гаспадароў, аднак жа вось, на двары 2015 год, і віленчук можа спакойна выбраць у краме ўпадабаную кнігу 1920-х гадоў з 500 прапанаваных, а беларус нават і аднаго працэнта такога выбару не мае.

Мне падаецца, прычына судакранаецца з шыхтамі кніг каля смеццевых кантэйнераў і з масіўнымі пінскдрэваўскімі шафамі ў ракакошніцкім стылі «Гэй, славяне» — без кніжных паліцаў. Прычына ў тым, што сама беларуская кніжка (і бібліятэка — як больш развітая ступень) перастала бачыцца беларусу сапраўднай рэліквіяй. Наогул, у XX стагоддзі апантаны калекцыянер клаў палову жыцця на збіранне беларускай бібліятэкі, а пасля ягонай смерці гэты скарб у дзевяці выпадках з дзесяці знікаў без следу — не тое, што не апісваўся навукоўцамі, ён нават не перадаваўся ў спадчыну, як было раней, у дамадэрную эпоху. Былі ж вялікакняжскія кнігазборы — на цэлы будынак! — і сціплейшыя, але ахайна ўпарадкаваныя, поўныя рэдкасцяў зборы ў сотнях шляхецкіх маёнткаў (канечне, дзякуючы летапісу, усе ведаюць пра калекцыю Аляксандра Быхаўца, але колькі было такіх Быхаўцоў?), «прафесарскія» зборы — абавязковыя для кожнага вучонага, нават і маладога.

**Беларуская кніжка перастала бачыцца беларусу сапраўднай рэліквіяй. У XX стагоддзі апантаны калекцыянер клаў палову жыцця на збіранне беларускай бібліятэкі**

Пасля ўсё пасыпалася: на гора ўсім буржуям з бібліятэк раздзьмулі пажары. А тады культура савецкай нішчымніцы натуральным чынам сцішыла апетыты й мажлівасці, хоць мадэлі мэблі ўсё яшчэ пакідалі месца для шасці-сямі паліц, запаўненне якіх было тым яшчэ квэстам пры татальным дэфіцыце. Сапраўдных жа збіральнікаў перавялі ў разрад блазнаў і камедыянтаў, таму й бібліятэка як з'ява замкнулася на адным чалавеку, разарваліся перадатачныя звёны. Абрынулася й сама культура кнігі, назаўсёды пахаваўшы пад сваімі заваламі кволае нацыянальнае калекцыянерства — пайшлі прахам і дымам, развеяліся ў прасторы зборы Эпімаха-Шыпілы, Гальляша Леўчыка, Рамуальда Зямкевіча, нашаніўцаў і віленскіх беларусаў, узвышэнцаў і эмігрантаў. І далёка, далёка не заўсёды былі вінаватыя ў гэтым віхуры гісторыі. Бо што такое старыя кнігі паводле няпісаных беларускіх канстытуцый? Макулатура, пыл, рахапецце — на сметнік гэта ўсё, каб дзеці не чхалі.

А можа, таму і маем тое, што маем? Летувісы — еўра з «Пагоняй» і «лабас вакарас» у кавярні, а мы — чэмпіянат свету па футзале, лінію Сталіна і «прэд'яўляйце плату за праезд».

# Аўдыёкніга Генадзя Бураўкіна

**Студыя «Гукапіс» кампаніі «ПРАСТОРА БАЙ» сумесна з Саюзам беларускіх пісьменьнікаў і Арт-Сядзібай выпусціла аўдыёкнігу Генадзя Бураўкіна ў серыі «Голас Паэта» з запісамі вершаў розных гадоў, а таксама паэмаў «Хатынскі снег» і «Узнясенне» ў аўтарскім выкананні.**




Гэта амаль тры гадзіны незабыўнага голасу паэта, які запісалі Алесь Калоша і Валер Мазынскі.

Яшчэ адной добрай навіной з'яўляецца тое, што кружэлку можна атрымаць бясплатна! Дзеля гэтага трэба набыць у інтэрнэт-краме www.prastora.by кнігі ці дыскі з наступных серый: усе кнігі і аўдыёкнігі Генадзя Бураўкіна і Рыгора Барадуліна; выданні з серыі «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў выдавецтва «Кнігазбор»; часопіс «Дзеяслоў».

У сталічнай галерэі «Ў» прайшла прэзентацыя аўдыёкнігі. Вечарына стала добрай нагодай для сяброў, калег, паплечнікаў, сваякоў паэта яшчэ раз успомніць, якім быў Генадзь Мікалаевіч.

У сваім уступным слове Барыс Пятровіч адзначыў: «Мінулы год не быў высакосным, але ён стаў для Беларусі і для ўсіх нас чорным. Літаральна за некалькі вясновых месяцаў мы страцілі слаўных сыноў Беларусі Рыгора Барадуліна, Анатоля Кудраўца, Уладзіміра Дамашэвіча, Давіда Сімановіча, Генадзя Бураўкіна... Але сёння мы пра іх памятаем. Праводзім сустрэчы, вечарыны, ходзім да іх магіл. Літаральна некалькі дзён таму мы былі на магіле Генадзя Мікалаевіча. Варта памятаць, што пісьменнікі жывуць у сваіх творах, іх чытаюць і паважаюць сёння. Словы Барадуліна і Бураўкіна будуць гучаць, іх песні будуць спяваць, а памяць пра іх у Беларусі будзе жыць».

Асаблівую атмасферу стваралі на вечарыне слайд-шоў з фотаздымкамі Генадзя Бураўкіна, зробленымі ў розныя гады, песні на вершы творцы ў выкананні Тацццяны Матафонавай і яе сына Адася. Выступоўцы (Анатоль Вярцінскі, Зінаіда Бандарэнка, Уладзімір Някляеў, Валерый Мазынскі, Віктар Казько, Васіль Зуёнак, Міхась Скобла і іншыя) распавядалі пра сваё знаёмства з творцам, прыгадвалі адметныя моманты, смешныя, сумныя, нечаканыя. Падчас імпрэзы гучалі вершы паэта ў яго ўласным прачытанні, гучаў яго голас.

# Аўтару аб праве

**На сайце Саюза беларускіх пісьменнікаў з'явіўся новы раздзел, прысвечаны аўтарскаму праву і адрасаваны літаратарам, сябрам творчай арганізацыі.**

Раздзел «Аўтару аб праве» ўтрымлівае прававую інфармацыю, падрыхтаваную прафесійным юрыстам, і адказвае на асноўныя пытанні, якія могуць узнікнуць у аўтара адносна існавання, выкарыстання і распаўсюду ягонай інтэлектуальнай уласнасці на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі.

Акрамя таго, у раздзеле свабодна даступныя для спампоўвання ў фармаце .doc афіцыйныя дакументы, якія вызначаюць і ўстанаўліваюць дзеянне аўтарскіх правоў як з пункту гледжання заканадаўства Рэспублікі Беларусь, так і згодна з міжнароднымі канвенцыямі па ахове інтэлектуальнай уласнасці.

Члены Саюза беларускіх пісьменнікаў па пытаннях рэалізацыі і абароны сваіх аўтарскіх правоў могуць звяртацца на электронную пошту арганізацыі: litbel.law@gmail.com. Сакратарыят СБП гатовы аказаць інфармацыйную і прававую падтрымку сваім аўтарам-членам арганізацыі.

**Прэс-служба СБП**

## ЛІПЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



Людміла Іванаўна Рублеўская (нар. 5.07.1965)
Віктар Васільевіч Вабішчэвіч (нар. 9.07.1960)
Ніна Сямёнаўна Загорская (нар. 16.07.1940)
Яўген Змітравіч Тумас (нар. 28.07.1940)

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!




# «Экслібрыс» імя Рыгора Барадуліна

**24 лютага, у дзень, калі Народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну споўнілася б 80 гадоў, Саюз беларускіх пісьменнікаў абвесціў пра пачатак прыёму прац на конкурс «Экслібрыс», які сёлета мае імя класіка і прысвечаны вершам і паэтычнаму перакладу.**

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца паэты і перакладчыкі паэзіі на беларускую мову ва ўзросце ***да 30 гадоў.***

Журы конкурсу: Раіса Баравікова, Леанід Дранько-Майсюк, Вольга Іпатава, Наталля Кучмель, Уладзімер Някляеў.

Пераможцы будуць вызначаны ў дзвюх намінацыях: «Паэзія» і «Паэтычны пераклад на беларускую мову».

Свае вершы і пераклады на конкурс, калі ласка, дасылайце адным файлам у фармаце .doc да 1 жніўня 2015 года на адрас sbp@lit-bel.org, пазначыўшы тэмай ліста «Конкурс». Файл назавіце сваім прозвішчам лацінскімі літарамі. У лісце мусіць быць наступная інфармацыя: імя, прозвішча, дата нараджэння ўдзельніка, кантактны нумар тэлефона і e-mail.

За ходам конкурсу сачыце на сайце lit-bel.org.

## ПАЛІЦА

### У кнігарні закаціўся «Гарбузік»

**Новы літаратурна-забаўляльны, яркі і пазнавальны дзіцячы альманах «Гарбузік» выйшаў у бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка».**




Яго прыдумалі вясёлыя бацькі для дапытлівых дзетак, неабыякавых выхавальнікаў ды іншых мам і тат!

Новы папяровы сябра «Гарбузік» падрыхтаваў для цікаўных, разумненькіх і актыўных маленькіх беларусаў найлепшыя спосабы прабавіць вольны час. Ён навучыць лічыць і выразаць аўтарскія выцінанкі Вольгі Бабурынай, майстраваць папяровыя замкі і рашаць касмічныя задачкі, апавядзе, як адрозніць правую руку ад левай і лёгка засвоіць новыя англійскія словы!

«Гарбузік» паўстаў колькі гадоў таму як бацькоўскі самвыдат для беларускамоўных дзетак, — кажа рэдактар альманаха Вольга Мазурава. — Мы дзяліліся на форумах dzietki.org уражаннямі наконт дзіцячых выданняў і аднойчы зразумелі, што для сваіх дзяцей можам і мусім зрабіць нешта сваё, вясёлае і радаснае.

Назву прыдумлялі ўсім сайтам (дагэтуль на «Нашых дзетках» можна знайсці галасаванку з варыянтамі, якія прапаноўвалі натхнёныя ўдзельнікі: «Сябрынка», «Веселінка», «Чамучак», «Жэўжык», «Апалонік»...) Уласна «Гарбузік» прыдумала Крысціна Вітушка. Мы з Палінай Грынчанкай узяліся ўкладаць і рэдагаваць выданне, Ірына Бурносенка — вярстаць і рабіць дызайн, Алена Царашкова шчодра навыдумляла вершаў. Нехта маляваў гульні, нехта складаў рэбусы, нехта перакладаў дзіцячыя цікавосткі з іншых краін. Жаданні і просьбы нашых маленькіх чытачоў мы чулі адразу, гартаючы разам з імі старонкі новых нумароў. Загалоўнага персанажа — няўрымсліка Гарбузіка — урэшце стварыла мастачка Вольга Раманюк, яна ж намалявала для яго ўтульны і таварыскі свет».

«Бацькі, аб'яднаныя сайтам «Нашыя дзеткі», шчыра захаплялі мяне, — прызналася сябра рэдакцыйнай калегіі альманаха і пісьменніца-казачніца Алена Масла. — Бо замест скаргаў на тое, што для беларускамоўных дзетак нічога няма, запачаткавалі і рабілі харошую справу. Калі з'явілася задума выдаваць альманах для дзяцей у Саюзе беларускіх пісьменнікаў, пачалі думаць над назвай, канцэпцыяй, магчымай камандай. Я прапанавала арганізацыі «ўсынавіць» «Гарбузіка». Пры альманаху створаная прадстаўнічая рэдкалегія з вядомых аўтараў. Упэўненая, кожны з творцаў паможа «Гарбузіку» чым зможа: і падкорміць яго ўласнымі выбітнымі творамі для дзяцей, і творчым калегам дарогу да выдання падкажа, і слоўца рэкламы не забудзецца сказаць у розных аўдыторыях».

«Гэты нумар «Гарбузіка» — такі cabe the best of папярэдніх нумароў, — адзначыў Анатоль Івашчанка, сябра рэдакцыйнай калегіі і малады беларускамоўны бацька. — Галоўнай задачай укладальнікаў было, каб гэты выпуск неператварыўся ў стракаты вінегрэт, а выглядаў цэласным і канцэптуальным. І я лічу, што каманда з гэтай задачай справілася бліскуча! Нумар атрымаўся гарманічным і арганічным як па змесце, так і па афармленні.

Пры заяўленай ад пачатку арыентацыі на дашкалятаў і малодшыя класы, здаецца, што аўдыторыя ў «Гарбузіка» шырэйшая. Прынамсі, мая 9-гадовая дачка, узяўшы ў рукі гэты альманах, была ў захапленні. А цяпер яна з нажніцамі майструе макет Лідскага замка, каб засяліць туды яго гаспадара –– вялікага князя Гедыміна».

У каманды стваральнікаў вялікае мноства задумак: «Хочам рабіць выпускі як для дашкольнікаў, так і для малодшых школьнікаў, — дзеліцца планамі Вольга Мазурава, — А таксама разгорткі з настольнымі гульнямі. Тэматычныя выпускі (найбліжэйшы — «Цуды свету»). Самаробкі, галаваломкі, творы беларускіх аўтараў і пераклады сусветнай дзіцячай класікі, вершы і прозу, энцыклапедычныя старонкі, тэсты, конкурсы... Як той казаў, дай Бог чутае пабачыць!»

Набыць карыснага і забаўляльнага «Гарбузіка» можна ў сталічных кнігарнях «Акадэмкніга» (пр-т Незалежнасці, 72); кнігарня «логвінаЎ» (пр-т Незалежнасці, 37А); «Кніжны салон» (вул. Калініна, 5); «Кнігарня пісьменніка» (вул. Казлова, 2); «Веды» (вул. К. Маркса, 36); «Светач» (пр-т Пераможцаў, 11); «Цэнтральны кніжны» (пр-т Незалежнасці, 19); «Кнігі & кніжачкі» (пр-т Незалежнасці, 14); Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг» (вул. Янкі Купалы, 27); «Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75).

А таксама ў інтэрнэт-крамах knihi.by і prastora.by.

Неўзабаве шукайце дзіцячы альманах і ў рэгіёнах!

**budzma.by**

### «Скрыжалі» Тамары Аўсяннікавай




У Бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў у выдавецтве «Кнігазбор» пабачыў свет зборнік выбраных вершаў паэткі, філолага, кіраўніцы Магілёўскага гарадскога літаратурнага клуба «Святліца» Тамары Аўсяннікавай.

Спадарыня Тамара — аўтарка трох паэтычных выданняў і аднаго празаічнага. Пад вокладкай яе новай кнігі «Скрыжалі» змясціліся выбранае, аб'яднанае ў трох раздзелах пад назвамі «Родныя вобразы», «У квецені вясны» і «Зямное кола».

# Масла маслянае



Алена МАСЛА

## Чысціня прозвішча

Завуся я Алена Ма́сла.

Не Масла́, не Масло́, а менавіта Ма́сла.

Нічога, здаецца, складанага, каб запомніць: маслам мажуць хлеб, каб зрабіць бутэрброд.

Масла кладуць у кашу.

Маслам падмазваюць бліны.

«Масла дадаюць у салаты», — падказваюць мне адны, і памыляюцца, бо салаты запраўляюцца сланечнікавым, аліўкавым, льняным, канапляным альбо іншымі алеямі.

Разабраўшыся з механізмамі і салатай, можна зрабіць натуральную выснову пра тое, да якога гатунку масла належыць маё прозвішча. Відавочна, сметанковае!

Толькі вось ніхто не дадумаецца ў краме папрасіць пачку масла́ ці масло́. А вось прозвішча маё беларусы перарабляюць з настойлівасцю зайздроснай, таксама, як перарабляюць Бара́на ў Ба́рана, Казла́ ў Ко́зла, Жа́бу ў Жабо́, Камара́ ў Ко́мара…

Не ведаю, як пачуваюцца Жабо і Козлы з перайначанымі на загранічны манер прозвішчамі, а мне што Масло́, што Масла́ — заўжды гарчыла. Тым больш, калі даведалася, што такія канкрэтныя прозвішчы, як маё, сведчаць пра старажытнае паходжанне роду сваіх носьбітаў.

Я за чысціню свайго прозвішча змагаюся. Настойліва прашу людзей, з якімі знаёмлюся, называць мяне правільна. І праз сваё прозвішча маю цікавых гісторый.

## Булка з маслам

Аднаго разу запрасілі мяне ў тэлеперадачу. Перадача выходзіць у прамым эфіры, і на тое, каб перамовіцца з вядоўцамі, ёсць пару хвілінаў — не болей.

Вядоўца, занурыўшыся ў паперы, пераглядае сцэнар, а я, нібы той дзяцел, сяджу і дзлубаю яго: «Назавіце мяне правільна! Я не Масло́, а Ма́сла…»

Хлопец, заняты



сцэнарам, не азываецца. Урэшце абвяшчаюць стартавую гатоўнасць, і я кажу яму з дакорам: «Вось назавеце ж мяне няправільна, а я страшна гэтага не люблю!»

Вядоўца, нарэшце сфакусіраваўшы на мне свой погляд, усміхаецца шырока і кажа: «Ды не хвалюйцеся вы! Я ўсё зразумеў! Я ж таксама не Булко́, а Бу́лка!»

Вось такім смачным дуэтам выйшлі мы ў эфір, нямала пацешыўшы і ўсю здымачную групу, і гледачоў ранішняй праграмы — бо Яўген Булка, не будзь журналіст і шоумэн — адразу абыграў у эфіры гэты факт.

Пасля прыдумалася і сумесная перадача пра паспяховых людзей «Булка з Маслам», якую б мы сваім смачным дуэтам і рабілі… Ідэя пакуль застаецца ідэяй, а вось гісторыя пра Булку з Маслам вандруе са мной усюды, дзе даводзіцца бываць на сустрэчах.

## Беларускі бутэрброд

І вось падчас правядзення акцыі «Чытаем разам, чытаем па-беларуску!», арганізаванай часопісамі для дзяцей «Бярозка» і «Вясёлка» ў 2010 годзе, едзем мы ў Рэчыцу, на радзіму пісьменніка Уладзіміра Ліпскага. У групе — прадстаўнік з Дзяржынска. Едзе з тым, каб перадаць эстафету акцыі Рэчыцы, бо стартавала акцыя ў Дзяржынску. Ад Рэчыцы эстафету перанялі Мёры, пасля — іншыя гарады… Аднак у маёй «Маслабойцы» самы значны і пакуль не агучаны факт — прозвішча прадстаўніка з Дзяржынска. Спадарыню зваць Людміла ПАЎХЛЕБ! Ужо не кепская кампанія для паездкі з Маслам!

Ладзім выступы ў Рэчыцы і накіроўваемся ў Шоўкавічы, на радзіму Уладзіміра Ліпскага. А там удзельнікаў акцыі і свайго земляка сустракае старшыня сельсавета БУЛКА!..

Так і з'явіўся здымак «Беларускі бутэрброд», а ў маёй «Маслабойцы» — яшчэ адна гісторыя.

## «Літаратурная масленіца»

Каб атрымаць ком масла, трэба настойліва калаціць смятанку. Вось і мае масляныя гісторыі калаціліся-збіваліся ў ком, пакуль аднойчы не стрэльнула: у мяне ж ёсць цэлае фамільнае свята! Масленіца!

Каб яго «прыватызаваць», звыклае рэчышча традыцыйнага свята давялося пашырыць. Цяпер, пачынаючы з 2011 года, на масленічны тыдзень я праводжу «Літаратурную Масленіцу».

Абавязкова на гэтым святе пякуцца бліны — маю адмысловую мабільную электрапячурку, на якой ужо шмат хто з літаратараў-выступоўцаў меў магчымасць пакінуць «блінны аўтограф» — спячы блін. І, натуральна, шчодра падмазваем бліны маслам — і сметанковым, і — што самае істотнае — надзвычай спажыўным, творчым.



## Правільнае прозвішча

Масла — маё дзявоцкае прозвішча. Муж вельмі з яго цешыцца і любіць выхваляцца перад знаёмымі, што ён — уладальнік ці не самага важкага кавалка масла! А знаёмыя яму зайздросцяць, што хораша жыве. Бо нехта мае клопат зарабіць на хлеб з маслам, а мой чалавек — адно на хлеб. Масла ж у нас і так не выводнае!

## Фамільная рэліквія

Маслабойка, у якой збівала масла мая бабуля Аміля, пераехала ў сталіцу і пасялілася ў маёй кватэры. Сябры кажуць, што чуюць у гэтым пабытовым прадмеце характарыстыку майго нораву «Масла-бойка (я)».

А я прыдумала маслабойнаму агрэгату новае жыццё. У маёй гарадской кватэры ён служыць вазай пад вялікі букет з прыгожых галінак і сухацвету. На Каляды гэты букет упрыгожваецца па-калядному, да Вялікадня — па-вялікоднаму… А цяпер рыхтуюся пачапіць на яго галінкі пастаянную экспазіцыю — міні-здымкі сваіх родзічаў па мячы, Маслаў. Ці як яшчэ называюць нас у сям'і — Маслят.

## Масла маслянае

Гэта гісторыя адбылася з маім татам, Маслам Сцяпанам Сцяпанавічам, за далёкім ужо савецкім часам і нават, мне здаецца, мае нейкае кармічнае адценне. Бо давялося яму, Маслу, неяк заграznуць у «маслянай» гісторыі па самыя вушы. А было так.

Бацькі мае — вясковыя настаўнікі. Яны трымалі гаспадарку, у гаспадарцы была карова. А значыць, быў даведзены план па здачы малака, а яшчэ — масла. Не выканаць плану было немагчыма, бо тады гаспадарка не надзяляла сенакосам. Нарыхтоўка сена і так давалася штогод пакутліва, асабліва настаўнікам — за шмат кіламетраў ад вёскі, на нейкіх няўдобіцах, куды не даехаць ні дайсці. Сена для каровы не нарыхтоўвалася — здабывалася неймавернымі высілкамі. І гэта нават калі гаспадар не праштрафіўся і выканаў усе даведзеныя яму нормы, у тым ліку і па здачы масла.

Дык вось адужаць тую масляную норму было не пад сілу вяскоўцам. А сенакос патрэбен быў усім. Таму ў краме куплялася масла, гаспадыні надавалі яму выгляд «хатняга» — і здавалі нарыхтоўшчыкам. Людзі гэты абсурд трывалі моўчкі, па-беларуску: «А раптам так і трэба!» За спінай начальства лаялі, але нормы выконвалі.

Адзін за ўсіх узяўся даказаць праўду мой тата. Пагаварыўшы з саўгасным начальствам і не здабыўшы разумення, напісаў ліст у раён — ён то думаў, што гэткі абсурд толькі ў нашай гаспадарцы! А высветлілася — гэтак выконваліся планы, даведзеныя вышэйшымі інстанцыямі, не толькі па ўсім раёне — па вобласці.

Натуральна, нагарэла не таму, хто арганізаваў гэткі працэс масланарыхтоўкі, а таму, хто запытаўся, як жа можа быць.

Тату давялося перажыць шмат непрыемнасцяў праз той масляны бунт. І да яго прыязджалі ўсчуваць за «несазнацельнасць», і самому даводзілася ездзіць у раён на «раз'ясніцельную работу» — длубалі чалавека як маглі… Пакуль аднойчы так не дапяклі, што напісаў тата ліст у Маскву, у газету «Известия» — бо, падобна на тое, пад пагрозай быў не толькі наш сенакос, а і татава настаўніцтва.

Прыязджаў да нас карэспандэнт з самой Масквы. Уважліва выслухаў тату, пасля правёў нямала часу з астатнімі «фігурантамі» гэтай нязвычайнай Масленіцы. Адвітваючыся, падзякваў тату за прынцыповасць і наказаў працаваць спакойна, бо «ва ўсім разабраўся і лічыць, што праўда на яго, татавым, баку».

## Маслы з Філіпінаў і гістарычная загадка

Alena Masla — так зарэгістравана я на Фэйсбуку. І вось аднойчы пастукаўся да мяне з просьбай дадацца ў сябры чалавечак з Саудаўскай Аравіі, ураджэнец Філіпінаў Kamad Masla. Абсалютна філіпінскага выгляду — умеру шакаладны. Шакаладнае масла, адным словам. Націск у прозвішчы — як і ў мяне, я высвятляла. Адкуль Маслы на Філіпінах браліся — во загадка?!

А тут сяброўка падзялілася здабытай у архівах інфармацыяй пра аднаго з першых казацкіх атаманаў Карпа Масла. У часы фарміравання Запарожскай Сечы мой аднафамілец з Чаркасаў (паводле звестак) праз свае асабістыя якасці выбіўся ў атаманы з шэрагаў радавога казацтва, верхаводзіў у 1568 годзе і кантраляваў пэўны час крэпасць Ачакаў.

Я ж якраз чытала біяграфію Мікалая Судзілоўскага, беларуса, прэзідэнта Гавайскіх астравоў, які апошнія гады свайго жыцця правёў на Філіпінах… І такое масла цяпер б'ецца-збіваецца ў маёй галаве — пра нашчадкаў Карпа Масла, які ваяваў з туркамі, хадзіў па моры, аднойчы дасягнуў далёкіх зямель і асеў там, стварыў сям'ю, каб праз стагоддзі яго нашчадкі працягнулі руку падтрымкі першаму прэзідэнту Гаваяў!.. Адназначна — толькі падтрымкі! Інакш не варта было і карані ў тых Філіпінах пускаць!

Можа, і праўда — у гэтым факце разгадка роду Маслаў з Філіпінаў?

## Жыццё як па масле

Зычэнняў і тостаў можна казаць багата. Але ў мяне, натуральна, ёсць каронныя, фамільныя, якімі абавязкова завяршаю ўсе свае выступы і сустрэчы.

НЯХАЙ У ВАШЫМ ЖЫЦЦІ ЎСЁ ІДЗЕ ЯК ПА МАСЛЕ!

ЯК СЫР У МАСЛЕ КАТАЙЦЕСЯ!

Бо, як вядома, КАШЫ МАСЛАМ НЕ САПСУЕШ!

Таму Маслабойка мая будзе шчыраваць і найдалей!

# Пах волі



Анатоль ІВАШЧАНКА



**З нізкі «Тытры»**

*Саша очень любит книги про героев и про месть,*
*Саша хочет быть героем, а он такой и есть.*
*Саша носит шляпу, в шляпе страусиное перо,*
*Он хватает шпагу и цепляет прямо на бедро.*

*Віктар Цой, «Саша».*

**Дзіўная рэч — успаміны. Асабліва — згадкі дзяцінства. Гэтыя часам стракатыя, часам бясколерныя сполахі памяці... Гэты погляд адначасова і знутры, і збоку. Вяртаючыся ва ўспамінах у мінулае, мы згадваем сябе такім чынам, быццам бы ўжо тады й захоўвалі, адкладалі гэты ўспамін дзеля таго, каб пасля ў пэўны момант яго згадаць, пераглядзець на ўнутраным прайгравальніку. У які момант? Ці не ў той — самы адказны й вырашальны...**

Аднойчы я бачыў сон, які скончыўся тытрамі. Магчыма, і жыццё зямное ў фінале будзе мець штосьці падобнае — такі сабе спіс-перапік усіх дзейных персанажаў. Ад галоўных роляў да другасных і эпізадычных. Магчыма, у канцы будзе стаяць імя Рэжысёра.

Ну і няблага б, каб усё гэта суправаджалася якойсьці добрай музыкай.

Саша гадаваўся без бацькі. Як падавалася нам, дванаццаці-трынаццацігадовым, гэты факт, пры ўсіх сваіх мінусах, меў адзін вельмі вялікі й неаспрэчны плюс: ступень свабоды, якая нам і не снілася.

Сярод мінусаў галоўным было татальнае безграшоўе. Сашава маці, якая працавала, здаецца, рэстаўравальніцай у мастацкім музеі, у час, калі краіна працягвала жыць па прынцыпе «скажы, дзе працуеш, і я скажу, што крадзеш», ледзь дацягвала ад авансу да заробку. Праўда, амаль ніхто з нас, хлопчыкаў з сем'яў шараговых ітээраў, работнікаў розных НДІ, заводаў, сфераў харчавання й сацыяльнага абслугоўвання, не раскашаваў. За вельмі рэдкім выняткам (дзеці супрацоўнікаў мянтоўкі, цырульні ці мясакамбіната).

Газеты стракацелі выкрывальніцкімі нарысамі пра наменклатуршчыкаў, што панабудавалі шыкоўныя фазэнды пад Мінскам у час, калі народ пухне з голаду, пра фірмачоў, якія бессаромна нажываюцца на вачах у чэсных працаўнікоў, пра валютных спекуляцыі, пра з грязі ў князі й іншую трасцу... Бацькі на кухнях абмяркоўвалі ўсё гэта, лаялі фірмачоў і спекулянтаў, чыталі «Огонёк», выпісвалі «Новый мир» і «Химию и жизнь», гадзінамі слухалі Ельцына й Кашпіроўскага, чакаючы ад іх нейкага цуду. Да з'яўлення ж цуду ўласнага заставаліся лічаныя месяцы.

Мы ж, пакаленне джынсаў «Мальвіна», гурта «Наутілус», магнітафонаў «Інтэрнэшнл» і камп'ютараў «Байт», ведалі два адносна хуткія спосабы «азалаціцца» — памыць альбо павартаваць. Адразу ж пасля школы мы кіраваліся наўпрост да адзінага ў ваколіцах рэстарана, дзе акурат на абед з'язджаліся крутыя па тых часах іншамаркі альбо, на скрайняк, апошнія «Лады». «Помыть или посторожить?» — такім пытаннем мы віталі наведнікаў. Згода на «памыць» успрымалася як сапраўднае шчасце й здаралася дужа рэдка. На «павартаваць» — хутчэй як міласціна. Найбольш частым адказам было грэблівае маўчанне альбо, як варыянт, штосьці накшталт: «Не надо. Но если с машиной что-то случится, я тебе глаз на жопу натяну».

Саша ніколі не працаваў з намі.

Тыя кішэнныя грошы, што выдаваліся бацькамі «на булачку», чым далей тым меней скарыстоўваліся па прызначэнні. Яны ішлі ў «абшчак», і на іх таму з нас, хто выглядаў самым дарослым, мы даручалі набыць пачак цыгарэт альбо, зрэдку, — парнаграфічную літаратуру, якая запоўніла тады паліцы кнігарняў. Абгорнутыя ў непразрыстую падручнікавую вокладку, гэтыя кнігі чыталіся па чарзе; той, хто чытаў першы, падкрэсліваў чырвоным стрыжнем патрэбныя мясціны. Дзеля канспірацыі мы называлі гэта «геаметрыяй». Калі падыходзіла чарга, ты казаў: «Дай геаметрыю пачытаць».

Саша «геаметрыю» не чытаў.

Цыгарэты. Гэтае страшнае слова, якім нас палохалі ледзь не з садка... Так, гэта быў забаронены і, адпаведна, дужа салодкі плод. П'янлівы смак і пах першых сігаў згадваецца з вастрынёй, параўнальнай са згадкай мо толькі пра першую выпадкова-спантанную эякуляцыю...

У адрозненне ад нас, Саша паліў па-даросламу. І крышку пазней, калі ў яго выявілі загану сэрца, — кінуў. Таксама па-даросламу, з ломкай ці чымсьці падобным.

Зрэдку, можа раз на паўгады, Саша сустракаўся з бацькам. Пасля гэтых сустрэч ён мог зрабіцца ўладальнікам «Байту» альбо «Інтэрнэшнлу». Альбо, бывала, — недзіцячай сумы грошай. Гэтыя грошы ішлі выключна на ягоныя ўласныя патрэбы, і нават калі ў маці не заставалася ні капейкі, яна не звярталася да яго па фінансавую дапамогу. Хаця — хто цяпер можа з пэўнасцю пра гэта сказаць?..

Калі табе трынаццаць, калі ты раптам у пэўны момант пачынаеш бачыць і адчуваць усё па-іншаму, калі свет паўстае перад табою стракатай гамай гукаў, пахаў, перажыванняў, спакусаў і г.д.... Зрэшты, можна не працягваць. Гэты пяшчотны ўзрост шмат разоў апісаны да нас іншымі спыняльнікамі імгненняў...



**Калі табе трынаццаць, ты яшчэ нічога не ведаеш пра сябе, пра тое, хто ты й навошта**

Але калі табе трынаццаць, ты яшчэ нічога не ведаеш пра сябе, пра тое, хто ты й навошта. Ты не аналізуеш. Жывеш сабе й жывеш. А вось Саша, здаваласа, ведаў.

Мы любілі прыходзіць да яго на госці. Сашава маці не была ў захапленні ад гэтых частых візітаў. Яна ніколі не распытвала пра вучобу ці пра нешта з кола падлеткавых зацікаўленасцяў. Але асабліва й не замінала гэтым візітам.

Сашаў пакойчык, адгароджаны ад матчынай паловы сценкай з кардонных яйкавых латкоў, быў сакральным месцам. Тут захоўваўся ўзорны парадак, і сюды не запрашаўся абы-хто. Сам факт дазволу на госці ўспрымаўся як гэткі акт ініцыяцыі.

Тут былі ўсе атрыбуты, неабходныя для культавае пабудовы. Са сценаў пазіралі боствы, на падваконні дыміла духмянасць. Дзесьці ў сярэдзіне пакоя, з люстры, на вышыні Сашавага росту звісаў званочак. Маленькі рыбацкі званочак, што выкарыстоўваецца для лоўлі на донку. Калі ў гаспадара пыталіся, навошта тут гэты званочак, ён моўчкі падыходзіў і махам роўнай нагі (не адрываючы пятку ад падлогі) паказваў — навошта.

Што да боставў, то галоўнае месца на «яйкавай» сцяне адводзілася каляровым вывявам кітайца, імя якога тады дарэмна не вымаўлялася, а цяперака хіба падзабылася. Яго агіяграфію ва ўсіх дэталях ведаў кожны з нас. Найбольш нам падабалася яго дзіцячая мянушка — Маленькі Дракон. Маленькі Дракон узнёсся ў трыццаць тры гады, пакінуўшы па сабе вучэнне, назву якога таксама не будзем згадваць дарма.

Ён быў выяўлены ў кананічных паставах, напружаных абарончых ці ўдарных атакавальных, з нунчакамі, узнятымі да вачэй, у скачку... Гэта было вярхоўнае боства. Бог-айцец. З супрацьлеглай сцяны на яго пазіраў «сын». Той меў кароткае карэйскае прозвішча і, як і належыць, быў страшэнна падобны да бацькі. Яго ўзнясенне адбылося ўжо на нашых вачах. На кніжнай паліцы стаяў яго «абраз» у рамцы з чорнай стужкай. Сярод яго атрыбутаў былі чорная акустычная гітара альбо белая электрычная, запаленая цыгарэта, чорная кашуля... Вядома ж, на свае сцены я не наважваўся вешаць выяваў боства (тым больш з цыгарэтай!); мой пакой аздабляў сціплы плакацік, з якога сувора пазіраў будучы губернатар Каліфорніі...

Сашу я шмат чым абавязаны. У прыватнасці, без яго я наўрад ці даведаўся б, што шляхі да асалоды не абавязкова звязаныя з працэсам паверхневага трэння. Саша слухаў «Мэдвін гудал» і тонамі паглынаў кнігі фэнтэзі. Узімку, нават у моцныя маразы, ён апранаў лёгкую асеннюю куртачку. Магчыма, ён проста не хацеў марнаваць свае асабістыя сродкі на пухавік, але падносілася гэта як загартоўка. У адрозненне ад большасці з нас, ён не застаўся вучыцца ў дзясятым класе, а пайшоў працаваць. Зрэдку мы сустракаліся ў пераходзе, дзе ён гандляваў індыйскімі духмянасцямі, касетамі й духоўнай літаратурай. Дзе ён цяпер і што робіць — не ведаю ні я, ні сацсеткі.

...Пасля розныя вехі маёй біяграфіі асвечваліся рознымі першымі- знакавымі-пахамі (незабыўна шчымлівыя водары жанчыны, бульбы-фры, першага мадэму, кіславаты пах дзіцячых экскрэментаў у падгузніку...). Але тады, у дванаццаць ці трынаццаць гадоў, у Сашавым сакральным пакоі я зведаў яшчэ адзін.

Рэч у тым, што ў іх з маці была дамоўленасць: усю хатнюю працу, звязаную з уласнай жыццядзейнасцю, — мыццё посуду, гатаванне ежы Саша выконваў. Сюды ж, натуральна, уваходзіла і пранне сваёй бялізны. Гэта быў кошт самастойнасці, дарослацці. Так бы мовіць, кошт незалежнасці... У той дзень, зайшоўшы ў яго пакой, мы не адчулі знаёмага тонкага водару сандалу. Яго перабіваў рэзкі смурод. Маці дома не было, а пасярэдзіне пакоя стаяў пластмасавы таз, у чорных водах якога плавалі Сашавы брудныя скіслыя шкарпэткі, майкі ды майткі. Некалькі дзён таз стаяў у лазенцы — чамусьці ў Сашы ўсё не даходзілі да яго рукі — пасля чаго маці, пэўна, гэта надакучыла, і яна перанесла таз у сынаву палову. У мэтах большае нагляднасці...

Саша, нічога не сказаўшы, узяў таз і пайшоў у ванны пакой. А я застаўся ў пакоі-«храме», сам-насам з «яйкавымі» сценамі, юнацкімі «абразамі» ды агідным пахам нявымытае бялізны — пахам волі...

# Мазаіка



Фелікс БАТОРЫН

* * *

*Жывы баіцца, што памрэ,*
*І шмат чаго яшчэ баіцца.*
*Шалее люта на двары,*
*Грымотна блішча навальніца.*

*І кідаецца ў жаху ноч*
*Па закутах і па захацці,*
*І не перастаю благаць я,*
*Каб смерць пранесла міма нож.*

*Але спакойныя глядзяць*
*З партрэтаў тата і матуля.*
*Ім штосьці таемнае відаць*
*З пары, калі навек заснулі.*

*Што́ ім адкрылася, яны*
*Хаваюць ад мяне старанна*
*І паўтараюць: «Нашы сны*
*Табе глядзець, сыночак, рана».*

*Засну я — вернуцца у сне*
*Яны з адной відочнай мэтай,*
*Каб зразумеў я: трэба мне*
*Запомніць сёння фразу гэту.*

* * *

*Лагі, раўніны, ўзвышшы, горы,*
*Жарства, што не ўваб'ецца кол —*
*Атрутны корань мандрагоры*
*Пусціў атожылкі наўкол.*

*Яго ты выкарчуеш, спаліш,*
*Апусціш прах у плынь ракі,*
*Каменнем рэчышча заваліш…*
*А як жа ў сэрцах караньі?*

*О, тое, што на відавоку,*
*Адолець лёгка ў барацьбе,*
*А ты карэнне зла і змроку*
*Знайдзі і вынішчы ў сабе!*

### Мазаіка

*Пад мазаічным небам з вясёлкай наўскос*
*Пасвіць дзед глянцавіты мазаічных коз.*
*Не ўгадаць, што ў рагатых свавольніц наўме;*
*Скаланаюць паветра мазаічным «ме».*
*А чырвона-блакітненька-вохраны луг*
*Аж звініць і гудзе ад мазаічных мух:*
*Тут і чмель, і пчала, авадзень і аса,*
*І буйная гнаёвая муха-краса.*
*Глянь, на глянцавым бруху вясёлка ў яе,*
*Пастуху назаляць ёй трывання стае —*
*Так і вабіць гарэзніцу глянцавы плех.*
*Ёй забава, а беднаму дзеду — не смех!*
*Намахаўся рукамі на коз і на мух,*
*А даўно не дзяцюк, і даўно ўжо не зух.*
*У блакіце вясёлку працяў навылёт*
*Глянцавіты мазаічны крыж-самалёт,*
*І двайнік мільгануў, не скрануўшы вады,*
*У балоце, чый бераг ад моху руды.*
*Дзед заўважыў мяне, павітаў: «Як жывеш*
*І што робіш?» — «Складаю мазаічны верш».*

* * *

*Што засталося ад былога?*
*Паштовак стосік, крах асноў*
*Ды стома неадвязных сноў,*
*А болей, пэўна, і нічога.*

*Што маем сёння? Мітусню,*
*Адчужанасць і адзіноту*
*Ды непазбыўную гаркоту,*
*Ману чужых, сваю хлусню.*

*Што будзе? Думаць не хачу,*
*Бо вось дала прагноз «Вячорка»,*
*Што будзе суш, ды з панадворку*
*Чуваць журботны шум дажджу.*

* * *

*Ссівеламу саду баляць карані,*
*І круціць галіны ссівеламу саду.*
*А лаўка пад ліпаю мокне ўсе дні.*
*Нічога не зробіш — такая пасада.*

*На лысую клумбу злятае лісцё,*
*Бы хоча прыкрыць яе шапкай хоць нейкай,*
*І ледзь валюхаецца з кульбай жыццё*
*Няўтульнай, настылай і глейкай алейкай.*

*Мы топчам размытыя нашы сляды*
*Без пафасных слоў, без надрыўных істэрык.*
*І што нас так вабіць штодзённа сюды*
*З дагледжаных, цёплых, абжытых кватэрак?*

* * *

*Вось і ноч ужо насоўваецца.*
*На насоўцы — два вузлы.*
*Зрок да змроку прыстасоўваецца,*
*Як сумленне да хвалы.*

*Але ёсць вузлы для памяці —*
*Муляюць і ў цемнаце.*
*Сорам вугалем распаліцца*
*У душы — спярша ў куце,*

*А затым і ўся ахопіцца*
*І свядомасць апячэ,*
*І смала хвалы растопіцца*
*І на брудны дол сцячэ.*

*Каб смалой хвалы не пляміцца*
*І лакцей не абгрызаць,*
*Мулкіх вузлікаў для памяці*
*Мушу болей навязаць.*

* * *

*У полі сасмяглым самлела калоссе,*
*Каршун выглядае мышэй з вышыні.*
*Стаім мы на ўзлессі, нібыта на ўзлёссі.*
*Мінаюць апошнія школьныя дні.*

*У сінь углядаемся дальняга свету —*
*І як здагадацца, што зычыць той свет:*
*Ці будзе ўсё гэтак, як пішуць газеты,*
*Ці ўжытку быць іншаму ў гэтых газет?*

*О, памяць, твае ўсё глыбее прадонне,*
*З яго не вярнуць ані явы, ні мар.*
*У лёсе, бы ў лесе, блукаю я сёння,*
*Дзе блізкую строму хавае гушчар.*

* * *

*Хаваючы ад ветру і залевы,*
*Праменьчык свечкі выпешчу ў руках.*
*Быў час грашыць направа і налева —*
*І час настаў раскаяцца ў грахах.*

*Каго пакрыўдзіў, прагну памагчы вам,*
*Даць нейкай рады болю і слязам.*
*А ўсё, чаго паправіць немагчыма,*
*Даруе Бог, ды не дарую сам.*

* * *

*То дзідай, то рапіраю*
*Пратнула дол трава.*
*Прывет вяртання з выраю*
*Струменіць сінява.*

*Пазней сутонне сочыцца,*
*Начамі не заснуць,*
*І нават дзеду хочацца*
*Бабуленьку ўшчыкнуць.*

### Мацеева балада

*Дзесь недалёка гром грукоча,*
*Згарнула краскі сенажаць.*
*Ты не спяшай, Гальяш-прарочча,*
*Каня шалёнага кілзаць.*

*Я выбраўся ў дарогу рана,*
*Калі развіднела траха,*
*Але далёка шчэ Жупраны*
*І ратавальная страха.*

*Па траскай каменцы глыжовай*
*Я ў дрогкай брычцы прабраджу,*
*А ты пакуль не асвяжоўвай*
*Хмурыны, поўнае дажджу.*

*Спытаеш, чым табе аддзячу,*
*Што ад мяне адвёў бяду?*
*Пытанне я тваё прадбачыў:*
*Верш беларускі я складу.*

*І слухаць будуць верш мой людзі,*
*Ён простых сэрцаў дасягне.*
*І, можа быць, някепска будзе*
*Калісь у нашай старане…*

### Урывак з эклезіяста ў вольным пераказе з каментарам

*О, гэты густы і цягучы заход,*
*Віно, што не хмеліць, нектар, што не поіць,*
*Халодная чырвань няморшчаных вод*
*І чорнага лесу размохраны пояс.*

*О, гэтая багна глухой цішыні,*
*Якую не зрушаць ні словы, ні ўздыхі,*
*І кволыя ў зыбкім сутонні агні,*
*І першыя бледныя зорныя крыхі.*

*О, гэтая з прысмакам скрухі журба*
*Па згубленым дні і па страчаным часе,*
*Між стомленых плеч адчуванне гарба*
*І след паміж пальцаў працеклага шчасця.*

*О, гэты палын шкадавання сябе*
*І боль па ўсіх блізкіх, і крыўда за бліжніх,*
*Якіх, як траву, непазбежнасць зграбе,*
*А след іх прадоннае цемрыва зліжа.*

*І марнай была за жыццё барацьба*
*І восеньскі плён, і вясновая квецень,*
*А гэтая з прысмакам скрухі журба*
*І ёсць наймарнейшая марнасць на свеце.*

### Каментар

*Світання водарная парнасць —*
*І смачны свет, такі, хоць еш.*
*А ўсё ў тым смачным свеце марнасць*
*Адно тады, калі памрэш!*

* * *

*У катухах пражытага жыцця,*
*У гулкіх залах непражытых жыццяў —*
*Паўсюль блукаюць здані неадкрыццяў,*
*Знікаючы ў чарнотах небыцця.*

*Ва ўсёй неспасцігальнай прастаце*
*Пачварына ўстае неразумення,*
*І ява, памяшаная са сненнем,*
*Сухім карэннем дагары расце.*

*Але рамонкі, пчолы, салаўі*
*Аднекуль жа прыходзяць ва ўспаміны,*
*Калі даўно памерлыя хвіліны*
*Збіраюцца ў ажылыя раі?*

* * *

*Пацешылі чорта рабога*
*Бязвер'ем сваім напаказ.*
*Цяпер быццам верым у Бога,*
*Ды неяк няшчыра, убога, —*
*Дык як Яму верыць у нас?*

### Ка́зань

*І грымнуць трубы.*
*Яны грымнуць грозна і суладна.*
*І так суладна грымнуць трубы,*
*Што разам з імі грымне абшар.*
*І калі грымне суладна з трубамі абшар,*
*Ён успомніць, як падалі сцены Ерыхона.*
*Гэта сцены таго Ерыхона,*
*Што страціў іх два тысячагоддзі таму.*
*Але ўзводзяць штодзень аж пасёння*
*Новыя і найноўшыя Ерыхоны.*
*Дык дзьміце ж у спрадвечныя трубы,*
*І ўдзімайце ў тыя трубы не паветра —*
*Свой дух магутны ўдзімайце*
*Вы ў іх.*

### Янка Купала. Год 1930

*Вуліц вачастых вушастыя сцены…*
*Дзе, каб схавацца, гусцейшыя цені?*
*Дзе, каб не чулі, глухія пячоры?*
*Дзе лабірынт ад рукастай канторы?*
*Дзе — хай і цёмна, і глуха, і вузка —*
*Але адхланне душы беларускай?*
*Можа, сябе напалам разваліць,*
*Каб паглядзець, што ж там гэтак баліць?*





# Водпаведзь

Уладзімір ВАСЬКО

**Скрундзь, калі не лічыць ката, жыве на хутары адзін. Яму ўжо пяцьдзясят два гады, і варта было б прыдбаць жонку, якая варыла б яму ўсялякія стравы, мыла б кашулі і бялізну і разам спала б на адным ложку.**

Але дзе яе ўзяць? У бліжэйшых вёсках прыдатнай для сябе адзінокай жанчыны ён не знайшоў. У горадзе іх, канечне, хапае. Ці не пахіліцца ў райцэнтр? У Лідзе ён некалі працаваў і многіх ведае, а нядаўна, знаходзячыся на рынку і сустрэўшыся там са сваім былым напарнікам па рабоце, дазнаўся ад яго, што ў былым кінатэатры «Кастрычнік» па суботах праходзяць вечары для тых, каму ўжо за трыццаць.

У адзін з выхадных Скрундзь і падаўся ў горад. Пакуль звечарэла, пахадзіў па вуліцах, па крамах, а калі ў вокнах «Кастрычніка» засвяціліся агні, накіраваў туды. Перад гэтым, для храбрасці, кульнуў стаграмовую бутэлечку бальзама, узбадзёрыўся, павесялеў. І як толькі ўвайшоў у танцавальную залу, адразу як навічок звярнуў на сябе ўвагу жанчын. А былі тут усялякія: і тыя, каму ўжо каля сарака, і тыя, каму ўжо за семдзесят. Скрундзь пастаяў і агледзеў публіку, прыкідваючы, каго запрасіць на танец. Яму кінулася ў вочы адна самая маладая і самая прыгожая брунетка са ўзбітай, як капа сена, прычоскай. Яна таксама шчодра залыпала ў яго бок іскрыстымі вачыма.

Зайграла музыка. Ён ляўшою расправіў вусы і цераз усю залу накіраваў да яе. А чаго там губляцца? Няхай бачаць, што ён, Скрундзь, не з баязлівага дзясятка. У часе танца ён без усялякай падрыхтоўкі і запытаў:

— Як вас зваць?

— Таня. А вас?

— Скрундзь. Ай, не. Скрундзь — гэта прозвішча. А зваць мяне Мацей.

Пасля танца Мацей прывёў Таню на тое самае месца, дзе яна стаяла. І не адыходзіўся ад яе. Ды і яна сваімі далікатнымі цёплымі размовамі трымала яго каля сябе, як на прывязі. Старыя дзевы і ўдовы зайздросцілі Тані. Як яна з першага вечара заваявала такога элегантнага кавалера? Па заканчэнні вечара Таня і Скрундзь разам выйшлі на вуліцу.

— Я жыву на хутары, — прызнаўся ён. — Аўтобус у наш бок ужо не пойдзе. А мне няма дзе начаваць...

— Бедненькі... Не гаруй, пераначуеш у мяне. Толькі спаць будзем на розных ложках.

— Воля твая.

Падняліся на чацвёрты паверх дома, які стаяў не так і далёка ад «Кастрычніка». У кватэры не тое, што быў беспарадак, тут проста царыў вэрхал. Па ложках, па крэслах раскіданы нейкія старыя лахманы, абутак.

— Гэта не мая кватэра, — паспяшыла апраўдацца Таня. — Тут жыла мая сяброўка, але яе пасадзілі нядаўна ў турму. Перад ад'ездам яна аддала мне ключы і папрасіла назіраць за яе дабром. Прабач, я зараз сёе-тое прыбяру.

Яна хутка пасхоплівала з падлогі адзенне, абутак і перанесла ўсё ў суседні пакой.

— Як ты глядзіш на тое, калі мы па кілішку вып'ем чаго-небудзь мацнейшага за чай? — запытаў Мацей.

— Станоўча, — адказала Таня.

— Тады я збегаю ў «Ластаўку» і куплю бутэльку «чарніла». А закуска ёсць?

— Вазьмі і закускі. Хоць ліверкі.

У магазіне ён доўга не бавіўся і даволі хутка вярнуўся назад. І калі на стол паставіў бутэльку 0,7 «чарніла», Таня павесялела. А тут яшчэ поруч паклаў абадок ліверкі і паўбуханкі хлеба. Што яшчэ для пачатку трэба? Чокнуліся, прыгубілі смярдзючую атруту. Гамана ажывілася. Мацей у роспыты асабліва не лез: не хацеў быць назойлівым. Так, размаўлялі абы пра што ды ўсміхаліся адзін аднаму. Пасля леглі спаць на розных ложках. Мацей, паварушыўшыся, не гучна кашлянуў у жменю, загаварыў:

— А можа... перайсці ўсё-такі да цябе?

— Зараз! Толькі памкніся — адразу выстаўлю за дзверы.

Ён замаўчаў і неўзабаве заснуў. А раніцай прапанаваў ёй паехаць на хутар і там застацца жыць разам з ім. Гэта яе заінтрыгавала. Але сваю згоду выказала не адразу.

— А як жа гэтае дабро? — прамовіла Таня. — Яго могуць зладзеі раскрасці. Што я тады скажу сяброўцы?

— Каму гэтыя лахманы патрэбныя. Іх ні адзін чалавек задарам не возьме. Ды і мы калі-нікалі будзем наведвацца сюды.

Праходзячы каля «Еўраопта», ён папрасіў Таню пачакаць, а сам забег у магазін, каб купіць пяць буханак хлеба і кавалак сала.

— У мяне дома ёсць сушаныя грыбы, наварым супу, засквараным салам, — мовіў ён, калі выйшаў на вуліцу. — Смаката.

Дома Мацей, сапраўды, не ўпаў тварам у гразь. Уключыў газавую плітку, паставіў на яе немалы чыгун з вадой, укінуў некалькі жменяў грыбоў...

— А цяпер ідзем, я пакажу табе свае ўладанні, — звярнуўся ён да Тані. — Грыбы няхай варацца.

Праз другія, супрацьлеглыя веснічкі яны выйшлі з двара на прастор.

— Вось, бачыш, возера. У ім рыба проста кішыць. А з трох бакоў яго акаймоўвае лес. У лесе водзяцца дзікія вепрукі, ласі, казулі, вавёркі, куніцы — усякая дзічына. Вось каб дзе ружжо раздабыць... Восенню я б застрэліў вепрука. На ўсю зіму хапіла б сала і мяса.

— А дзе ты тое ружжо дастанеш? Яно ж не валяецца пад плотам.

— А ты ўкрадзі ў каго-небудзь.

— Ага... Я ўжо тры гады сядзела за крадзеж. Хочаш, каб яшчэ на тры гады пасадзілі?

Ішла другая палавіна сакавіка. Дзень быў цёплы і сонечны. Нераставала рыба. На вярбе распушыліся жаўтавата-белыя коцікі.

— Мы рыбу ловім разам з кошкаю, — пахваліўся Мацей. — Хочаш, я табе пакажу, як яна ловіць?

— Давай.

— Хомця, Хомця, Хомця! Ідзі сюды, — паклікаў Мацей.

І кошка тут жа прыбегла. Каля берага, выціскаючы ікру, церлася аб мінулагоднюю азёрную траву і пясок платва.

— А ну, Хомця, цап-царап яе.

І кошка, як на мыш, накінулася на адну з плотак. Злавіла і ў зубах прынесла да Мацея, паклала каля яго ног. Дзесяць рыбін Мацей забірае сабе, астатнія дазваляе есці Хомці.

— Дык у цябе ж тут рай! — захаплялася наваколлем Таня.

— Лепш, чым рай, — задаволена адказаў Мацей.

Яна стаяла і любавалася лесам, возерам, удзячнымі вачыма глядзела на Мацея, пакуль той не прамовіў:

— Пайшлі, ужо нейдзе суп закіпеў. Хомця і адна справіцца з рыбай.

У чыгунку, і сапраўды, вуркатала. Мацей зрабіў меншы магеньчык, каб не перла варыва цераз край, і яны зноў выйшлі на двор. Гаспадар паказваў Тані хлявы, свіран, дрывотню, садок. Усё ёй тут было даспадобы. І, здавалася, Мацей неблагі характарам. Так здатна пра ўсё апавядае, усміхаецца, хоць да раны прыкладвай.

— А сабаку не трымаеш?

— Я не люблю сабак.

— Пры лесе не перашкодзіла б мець. Ад злодзеяў абарона.

— От, разумных сабак цяпер няма, а трымаць якога дурня, каб усю ноч на месяц брахаў, не хачу.



Калі грыбны суп быў гатовы, Мацей засквары ў яго дробнымі кавалачкамі сала, падсмажанага разам з цыбуляй, даў крыху астыць і наліў у дзве міскі; адну падсунуў да Тані, другую да сябе. Духмяны пах стравы напоўніў веранду, залу, разліўся па двары. Як толькі Таня высёрбала суп, прамовіла задаволена:

— А ты падобны на Сталіна. Такія ж вусы, твар.

— Многія так кажуць. А ў Ваверцы і Рулевічах некаторыя пляткараць, што я сын Васілія Сталіна, бо той служыў у Лідзе палкоўнікам на аэрадроме. Але кажуць, што я падобны не на Васю, а на яго бацьку Іосіфа. Аднак як я мог быць сынам Васілія, калі мяне падчас яго службы ў Лідзе на свеце яшчэ не было. Глупства. Не вер гэтаму.

— Але ты, сапраўды, падобны на старога Сталіна.

— Мала што...

Пасля абеду яны зноў прагуляліся вакол возера, пастаялі пад старым дубам...

Таня засталася жыць у Мацея.

У цэлым гэты год і два наступныя склаліся для іх няблага. Яны за лета і восень на ягадах і грыбах зараблялі добрыя грошы, якіх хапіла да наступнага ўраджаю дароў лесу. Да таго ж было нямала садавіны, гароднiны, рыба не зводзілася ні на дзень. А вось чацвёрты год выпаў для іх няўдалым. Ураджай на ягады і грыбы аказаўся слабым — і грошай у іх хапіла толькі да Новага года.

Мацей пайшоў у кантору СПК «Світанак», каб убачыць старшыню гаспадаркі ці заатэхніка і папрасіцца ў іх прыняць яго вартаўніком на ферму, бо цяжкай работы ён выконваць не мог: перашкаджала грыжа. Але заатэхнік, які трапіўся яму на вочы, сказаў, што месца вартаўніка занятае, а вось вакансія даяркі ёсць, і калі яго Таня хоча працаваць даяркай, дык няхай хоць заўтра выходзіць на работу.

Мацей угаварыў Таню, і яна, хоць і буркаючы, пайшла на ферму. А назаўтра забіла ў хамут:

— Не пайду я больш туды. Там смярдзіць гноем, каровы мукаюць, быкі равуць. Я іх баюся.

— Нікуды не дзенешся. Калі хочаш жыць, трэба працаваць.

— Я сказала — не пайду! І ўсё!

— Гультайка! На маю шыю ўзбаралася?! Хуценька збірайся — і ў дарогу.

— І не думаю!

— Ах, так?!

Ён расперазаў дзягу, ухапіў Таню левую рукою за каўнер, а праваю давай сцягаць па плячах, па мяккім месцы, па нагах. І пры кожным удары паўтараў:

— Ідзі на ферму! Ідзі на ферму!

А яна адказвала:

— Не пайду! Не пайду!

І так яны тузаліся з паўгадзіны.

Пасля Таня неяк выкруцілася з ягоных рук, адбеглася да парога і моцна выгукнула:

— Цьфу на цябе і на твой хутар, Мацюша ты недапечаны! Я паеду ў Ліду і больш сюды і носа не пакажу!..

# Пакінуты перон



Аляксандра ФАГОТ

## Новае крушэнне

*Мне падабаюцца Вашыя сумныя вочы.*
*У іх перламутр каштоўных жамчужын,*
*у іх адбіццё неспакойнага мора ўночы,*
*праменьчыкі майскай і цёплай лужы.*

*У іх муаравы і далікатны шоўк,*
*у іх дзікія кубавыя палі васількоў,*
*у іх рота жаўнераў, танкавы полк,*
*у іх выбухі незапаленых аганькоў.*

*У іх апалавы подых вясновых аблокаў,*
*у іх крушэнні нязрэйсненых караблёў,*
*у іх калючасць і прыцягненне чартапалохаў,*
*у іх патаемнасць маіх патаемных сноў.*

*У іх кобальтавы нявопытны ранак,*
*у іх блакіты нязнаных дагэтуль нябёсаў,*
*у іх маё ратаванне і мой прыстанак,*
*у іх рэшткі дзявочых згубленых лёсаў.*

*У іх лазурак маіх летуценняў,*
*у іх мой кемны няўчасны разлік,*
*у іх успамінаў маіх прыцяненні,*
*у іх птушыны нікому нязнаны клік.*

*Мне падабаюцца Вашыя сумныя вочы,*
*у іх смеласць пачуццяў і сіла мараў.*
*Мой дух прагне зменаў, бо ён сірочы.*
*Ці магу я ў іх згубіцца?..*
*...на адну катастрофу і шэраг вулканаў...*

## Начное падарожжа

*Дагарае маўклівасць сутоння.*
*Сотні знічак плануюць вандроўку.*
*Мой рамантык сабраўся ў пагоню,*
*Атрымаўшы начную пуцёўку.*

*Мой рамантык паправіў каўнер,*
*Прыхапіў зіхатлівы ліхтар,*
*І пабег у сузорны аер,*
*Да ракі, дзе трымціць ясакар.*

*Сеў у засені ён каля рэчкі,*
*Праганяе зацяты боль*
*І прыгадвае, як на сустрэчы...*
*ён збіраў пазалетась куколь.*

*Як рунела штодзённа пяшчота*
*З запаведным заранкам жыцця,*
*Як хацеў пачуць адзіноту*
*І хадзіў па шляхах забыцця.*

*Як ірвалася птушкай натхненне,*
*А трымалі зямныя рукі.*
*Прыгажосць у начным трызненні*
*На душы малявала карункі.*

*Аксамітнае неба іскрыцца,*
*Узрушае прасторы душы.*
*Можа, гэта рамантыку сніцца*
*Над ярмом звар'яцелай цішы?*

## A limine*

*Невясновае паветра. Халодная прастора.*
*Я іду па дарозе. Шукаю прыстанак.*
*У душы вар'яцеюць шалёных хвалі мора*
*І хістаюцца іскры выбуховых маланак.*
*Contra spem spero**.*

*Я па крузе блукаю, безнадзейна, у стоме.*
*Немы голас у пустэцы разносіцца мой.*
*Крык не чуюць, не бачаць дрыжачых*
*далоняў.*
*Зводзіць з розуму супакой.*
*Dum spiro spero***.*

*Незнаёмец, прашу, ты грамчэй пазаві.*
*Я прыйду да цябе скрозь зацвілую золь.*
*Стану побач ціхутка. Зірнем візаві —*
*І пазбавіцца моцы заінелы боль.*
*In spem adducti****.*

*Дзверы толькі дваім нам адчыняць*
*пенаты.*
*– Маё сэрца трымай. Пераможам імглу?*
*Хціва лёс не пасмее заблытаць нам*
*карты.*
*Я не прывід. Не знікну я і не памру.*
*In has spe vivo*****.*

* A limine — з парога, адразу ж.
** Contra spem spero — без надзеі спадзяюся.
*** Dum spiro spero — пакуль дыхаю — спадзяюся.
**** In spem adducti — акрыленая надзеяй.
***** In has spe vivo — гэтай надзеяй жыву.

## Іронія лёсу

*Вечар ма́я сплывае ў вясковым калоссі.*
*Далягляд закурыўся, бы хмарным экранам...*
*Я калісьці кахаю пісала ў двукоссі*
*І калісьці каханне лічыла заганным.*

*Кагадзе быць адкрытай здавалася явай.*
*Мой давер быў нясмелы і быццам бы*
*крохкі.*
*Я глытала пачуцці за ранішняй кавай,*
*І самота з крутнёй напаўнялі мне лёгкія.*

*Я ішла па жарстве, па лязе, па каменнях*
*І няспынна ганяла па кордзе свой боль.*
*Я стаяла на кручы на збітых каленях,*
*Каля скроні ментальна трымаючы кольт.*

*Надвячэрняя ціша... Чакаю світання.*
*Кругагляд зняў кашнэ. Выбухаюць масты,*
*Бо знайшла квінтэсенцыю і ратаванне:*
*У іманентным сусвеце з'яўляешся ты.*

*Даканаў у душы інтрыган малавер'ем,*
*І карміннавы захад — як нетравы знак,*
*Што душу пазычаю табе напавер я.*
*Дааастатку. Дарэшты. Імортэльна, так.*

*У душы непарадак, аднак цалкам творчы.*
*Але ў гэтым і ёсць мой нятленны спакой.*
*І без слоў кажуць праўду здраднікі-вочы:*
*Ты мора маё і збавіцель ты мой.*

## Памятаеш?

*Пакінуты перон —*
*эпізод з жыцця.*
*Мёртвы вагон —*
*мімалётныя сустрэчы.*
*Мінулае ў мінулым*
*і час...*
*Ён не лечыць.*

*Мінулае ў мінулым,*
*пераглядаеш даўнія фотаздымкі,*
*успаміны, як сняжынкі,*
*праляцяюць перад табой,*
*але... чамусьці няма турботы,*
*толькі спакой па нотах*
*кудысьці бяжыць.*

*Заплюшчваеш вочы —*
*і бачыш сябе такім маленькім і наіўным.*
*Памятаеш, як ноччу,*
*накрыўшыся коўдрай з галавой, бязвінна,*
*спадзяваўся, што яна схавае цябе ад*
*усяго...*
*Здаецца, колькі прайшло...*
*колькі хвілін, не, секунд, мінула з таго*
*часу?*

*Памятаеш... як са слоў «давай сябраваць»,*
*без непатрэбных пытанняў пачыналася*
*штосьці па-дзіцячы шчырае і добрае.*
*А як ты марыў навучыцца лётаць*
*і пераскокваў з ложка на ложак...*
*Табе падабалася*
*ажыццяўляць*
*свае думкі. Можа*
*менавіта таму не было праблем.*
*Усё здавалася вырашальным,*
*такім лёгкім і спасцігальным.*

*Памятаеш... як ты злаваўся,*
*калі хто-небудзь цябе праступаў,*
*а ты думаў, што не вырасцеш.*
*Як... каб ніхто не абураўся,*
*калі ішоў спаць, браў*
*з сабой адначасова некалькі цацак.*
*Як у школе скакаў*
*толькі па плітках аднаго колеру.*

*Памятаеш...*
*як марыў пайсці ў першы клас.*
*А потым не раз*
*хварэў на хітрасць*
*і спадзяваўся на матуліну літасць.*

*Як узімку*
*бег з языком на барадзе*
*на горку, лёд, дзе*
*мокрыя сябры будавалі крэпасць*
*і, асабліва,*
*чакалі менавіта цябе.*

*Памятаеш... Аднойчы,*
*зусім нечакана, адкрыў вочы*
*і прачнуўся.*
*Ужо падлетак.*
*Увесь сусвет перавярнуўся.*
*Вось так, непрыкметна,*
*пасталеў у адно імгненне.*

*Мінулае ў мінулым,*
*дзіцячыя фотаздымкі...*
*па пылінках*
*складваецца сучаснасць.*

*Бачыш у павуцінні перон,*
*забіты вагон,*
*шматзначнасць позіркаў*
*чарговых падарожнікаў.*

# На парозе вайны



Славамір АДАМОВІЧ

***

***«Наварасійцу»***

*Там, дзе цяпер ты гінеш,*
*па табе не паставяць помніка*
*і піянеры ў гальштучках*
*не прыйдуць аддаць салют,*
*усё, што ты атрымаеш, —*
*гэта ганебны фініш*
*і добра, калі на магілках*
*2 на 2 глыбінны рэдут...*

## На парозе вайны

***Зміцеру Захарэвічу***

*На парозе вялікай вайны за сваё*
*не садзі тымчасовыя кветкі,*
*не збірай і запасы, як птушка*
*ў валлё —*
*лепш правер, як працуе гашэтка.*

*Развітайся з усім, без чаго пражывеш,*
*перш за ўсё — з чалавечым баластам,*
*а ў кішэнь пакладзі самы ёмкі свой верш,*
*самы класны.*

*Не забудзься, правер, як сядзіць на табе*
*падагнаная швачкаю форма.*
*У люстэрка зірні: ці няма на ілбе*
*незаслужаных шнараў мінорных.*

*На парозе вялікай вайны за сваё*
*хай звініць не медалька, а зброя,*
*і ў яшчэ не асіплых салдацкіх грудзёх —*
*пераможная мроя!*

***

***Марыне з Бостану***

*Марына Алехнік з Бостану*
*піша мне: «Адгукніся!»*
*Усьцешана мною як Броснанам*
*наша ліцьвінка Марыся.*

*І я тэрмінова адклікнуўся*
*сучаснымі сродкамі сувязі,*
*даслаўшы ахапак пікселяў*
*пра тое, чым мы тут грузімся.*

## У электрычцы

*Рыжая-рыжая... За пяцьдзясят*
*гадоў. А такая свежасць*
*у позірку. І зрэнкі — як град,*
*што высыпаўся на нежыць.*




*Рабенькія плямы на белых руках,*
*злёгку прывялая скура*
*і пругкія ікры на стройных нагах*
*з няголенаю тэкстурай...*

## Пра сілу

*Ты моцны не гвалтам, не*
*(да гвалту рыхтуюцца ўсе,*
*гвалтам нікога не здзівіш).*
*Сіла твая ў тым,*
*на ш т о ты гатовы пайсці*
*у барацьбе за сваё,*
*і д а ч а г о*
*ты гатовы.*

***

*Беларусь... Як няпройдзены шлях,*
*як усход, што ніяк не заднее,*
*як для ворага вусцішны жах,*
*як чаканне Падзеі!..*

# Быліцы



Павел ЛЯХНОВІЧ

## Чупакабра

...Патэлефанаваў аператыўны дзяжурны і перадаў загад адкамандзіраваць камандзіра ЭНГ на тарпедалоў. На двое сутак. Як штурман ні скуголіў, што яму праз некалькі дзён на кантрольны выхад, што ў бэчэ-раз працы варочаць-не пераварочаць, адмазаць не атрымалася.

Затое дадому збегаў. Тыдзень ужо дома не быў, хоць «бідон» у роднай базе стаіць. Прыбег, дома нікога, жонка, відаць, дачку выгульвае. Чакаць няма калі. Схапіў кавалак паперы: «Людачка, я на два дні ў мора на тэўле. Цалую». Спартыўны касцюм пад форму апрануў, шынэль на канадку замяніў і да штаба — там праз дваццаць хвілінаў «скатавозка» ў Гаджыева ідзе, тарпедаловы ў Гаджыева базіруюцца. Сямнаццаць км ад Аленей. Ля штаба ўжо матрос-сакрэтчык з штурманскімі сакрэтнымі дапаможнікамі ў пераноснай шкатулцы-сейфе чакае. Сакрэты матросу давяраюць, а пісталет — не, пісталет прыйшлося Аркадзю на сябе начапляць. Сакрэтчык у дадзеным выпадку — проста насільшчык, адказнасць за захаванне на Аркадзю.

Нешта апошні год не шанцуе Аркадзю з гэтымі тарпедаловамі. Нібыта прапісаўся там штатным штурманам. Разоў мо трыццаць на іх выходзіў тарпедныя стрэльбы забяспечваць. Калі ўсё да кучы сабраць, цэлая аўтаномка назбіраецца. Але ж ад абавязкаў на родным жалезе гэтыя камандзіроўкі ніяк не вызваляюць.

На тэўле самы вялікі мараход — мічман, камандзір. Штурманская падрыхтоўка ягоная не дазваляе ў адкрытае мора ісці, вось і прыкамандзіроўваюць штурманаў з лодак.

...З Кольскай затокі выйшлі, а там увесь Кільдзінскі плёс у «баранчыках». Тры балы, гэта для тэўла як «амерыканскія горкі». А на траверз Рыбачага выйшлі, там усе чатыры. Праз гадзіну экіпаж з кіслымі тварамі зялёнага колеру. Апрача камандзіра, гэтаму хоць бы хны. Аркадзь у люстэрку свой твар убачыў — таксама зялёны, хоць у фільмах пра зомбі здымай. І млосна. Але працаваць трэба. Пазаўздросціў сакрэтчыку — заваліўся ў кубрыку на ложак і хоць трава не расці. Толькі пару разоў падымаўся — Аркадзю «Правілы выкарыстання палігонаў» спатрэбіліся.

Дзякуй Богу, усе тарпеды знайшлі і паднялі. Перад стральбою тарпедалоў займае пазіцыю ля паўднёвай мяжы палігона. Лодка страляе, усплывае і перадае па УКВ мяркуемыя каардынаты тарпеды. Поўным ходам туды, і глядзець ва ўсе вочы. Як заўважылі, пачынаецца сапраўднае радэо. Тарпедалоў на хвалях скача як мустанг, тарпеда гэтак жа, толькі ў проціфазе, ля лееўраў матрос з пятлёю на шасце спрабуе яе заарканіць. Як накіне пятлю, тэўл ход дае, і тарпеду лябёдкаю на борт зацягваюць.

Ляжаць на кільблоках, маячкамі міргаюць. Практычныя тарпеды, яны без выбухоўкі, пасля заканчэння мотарэсурсу ўсплываюць. Іх потым па-новай зарадзяць і зноў выкарыстаюць. Мінёр экіпажны, Іскандэр Бакуеў, казаў, што практычная тарпеда сорак тысячаў рублёў каштуе. Чатыры «Волгі»!

Чакалі, што дадому загадаюць ісці, ды куды там! Трэба ў губу Парчніху, нейкага капраза забраць. Калімантан-хальмахера! Усё далей і далей ад дому! Гэта ўздоўж мурманскага берага ў бок Ёканьгі. Каб ён здаровы быў, той капраз, эпістрахоз яму ў нырку!

Дацеляпаліся да Парчніхі, ашвартаваліся — няма ніякага капраза. Чакайце, кажуць. Ну добра, што хоць ад гойданкі адпачынак.

Спусціўся ў кубрык — паспаць. Штурманскі лёс такі, што ніколі ўволю выспацца не ўдаецца. Таму ўмеюць штурманы спаць седзячы, стоячы, ідучы... Абы магчымасць.

Спусціўся, а там усе ложкі занятыя, на адным нават двое — сакрэтчык Аркадзеў, і матрос з тэўла. Нічога не зробіш — спазніўся. У чым быў, на палубу лёг, шкатулку-сейф у сакрэтчыка забраў — пад галаву, і як праваліўся.

Шэсць гадзінаў праспаў! Прачнуўся ад тупату на верхняй палубе. Схадзіў у гальюн, там жа і ўмывальнік, рукі-твар памыў. У рубцы мічман, камандзір тэўла, мацюкаецца. Пасажыр прыбыў, капраз той, і адразу яго з камандзірскай каюты выпер. «Я — старэйшы на борце!» Ну і хрэн на цябе, што ты старэйшы... Заняў каюту, яшчэ чыстую бялізну патрабаваў — каб і была, не далі б! Распрануўся да блакітных кальсонаў і дрыхне. Туман апусціўся, «дабро» на выхад не даюць.

Выйшаў Аркадзь на верхнюю палубу — але ж і туман! Метраў трыццаць бачнасць, не болей. Калі гэтак і далей пойдзе, ён тут надоўга закукуе. Спаць болей не хочацца. Даўно ён столькі часу не спаў! Чым жа час пабавіць?

— Камандзір! У вас, можа, патроны для пээма ў заначцы ёсць? Хачу ў сопкі схадзіць — пастраляць. А то тут звар'яцееш, чакаючы, пакуль туман рассеецца.

— Штук трыццаць хопіць? Толькі далёка не адыходзьце, а то заблукаеце ў гэтым малацэ... Калі што — я сірэнай тры разы...

Кепскую ідэю прыдумаў. Снег паўсюль глыбокі, не сунешся нікуды. Добра, што адліў цяпер, па асушцы адышоў крыху ад прычалаў. Каменне слізкае, заледзянелае, можна і ногі паламаць.

Сярод смецця марскога алюміневыя шары на беразе валяюцца. Відаць, паплаўкі ад рыбацкіх тралаў. Добрыя мішэні будуць.

Так ужо гэты пісталет хваляць, Макарава! А пастраляў — і ніводнага разу алюмініевага шара не прабіў. Метраў з дзесяці патрапіць не мог. Ну — можа цалок кепскі. Тады пачаў з двух метраў. І што? Куля толькі ямку невялічкую на алюмініевай паверхні робіць. Не прабівае. Ужо з пары сантыметраў страляў — тое ж самае. Растраляў усе патроны — і на тэўл. Туман рассейвацца пачаў, спяшацца трэба.

Своечасова вярнуўся. «Старшы на борце» ўжо ў рубцы. «Вы чаму адсутнічалі?»

«Якая табе справа?», — падумаў і адказаў першае, што ў галаву прыйшло: «Вывучаў на мясцовасці сістэму навігацыйнага абсталявання». Задаволіла, здаецца. Засоп і маўчыць.

Завяліся, выйшлі з Парчніхі і давай наразаць уздоўж берага міляў з тры. На тэўлах гэтых навігацыйнага абсталявання — толькі гіракампас ды на мосціку нактоўз з пеленгатарам. Ды яшчэ радыёлакацыйная станцыя. Нават лага няма. Пройдзеную адлегласць па абаротах вінтоў улічваюць, ды і то гэтую інфармацыю — пра

**Адміралаў не возяць, іх дастаўляюць. Асенне-зімні перыяд, частае пагаршэнне бачнасці і ўсё такое... Без штурмана плавучым сродкам па затоцы забараняецца хадзіць. Уладзімер Рыгоравіч, «бычок», інструктаваў: «Ты, Аркадзь Паўлавіч, не дрэйфі**

адпаведнасць абаротаў і хуткасці — толькі са словаў камандзіра можна мець. Ніякай табліцы нават няма. Калі да Цярыберкі падышлі, туман рассеяўся. Узяў Аркадзь пеленг на маяк Цярыберскі, спускаецца ў рубку і напаўголаса — каб не збіцца лічбу — паўтарае: «Дзвесце пяцьдзясят шэсць і пяць... Дзвесце пяцьдзясят шэсць і пяць...» Капраз пачуў, як ён марнычa, і пачалося! «Што гэта за «Ойча наш» ты шэпчаш, капітан! А ну пакажы — дзе наша месца!»

Месца — то калі ласка. Ткнуў у мапу алоўкам — «Вось тут, таварыш палкоўнік». Хай паспрабуе праверыць. Месца добрае, хвілін пятнаццаць таму па радыёлакацыі абсерваnуўся. Хоць гэты, здаецца, з палітрабочых, калі «Ойча наш» узгадаў, не паспрабуе.

— Які я табе палкоўнік? Ты капітана першага рангу ад палкоўніка не адрозніваеш?!

— Дык і я капітан-лейтэнант, а не капітан... А калі вам вельмі тыкаць хочацца, то раю патыкаць швабрай сабе ў анус.

Асёкся капраз, вочы збялелыя, вуснамі плямкае і сказаць нічога не можа. Выціснуў праз хвіліну: «Ну ты ў мяне паскачаш! Усё жыццё ў капітанах будзеш...» І ў камандзірскую каюту палез. Больш да самага Гаджыева не паказваўся.

Дзверы на мосцік адчынены, мічман, камандзір, чуў усё. Спусціўся ў рубку задаволены, як кабель пасля вязкі: «Ну вы малойца! Дзякуй за помсту!» А Аркадзь ужо не рады. Вось заўсёды так, не ўмее стрымлівацца. Цяпер чакай — што там яму капраз учыніць? У аўтаномку б хутчэй, можа, рассмокчацца з часам...

У Гаджыева прыйшлі, развітаўся Аркадзь з камандзірам, пайшоў на КПП, патэлефанаваў дзяжурнаму па караблі, што вярнуўся, будзе ў Аленню дабірацца. Вечар, на «скатавозы» — то бок «Уралы» тэнтаваныя, што афіцэраў карабельных туды-сюды возяць — спазніліся. Аўтобус з Гаджыева ў Палярны пойдзе, ён паўз Аленню, можна было б на ім, але з сакрэтнымі дакументамі ў грамадскі транспарт нельга. «Ну, хлопец, чакаць тут да заўтра не хочацца. Пехатою пойдзем?» — сакрэтчыку кажа. — «Пойдзем!». Наддвор'е ціхае, чаго не пайсці. Тут усяго тры-чатыры гадзіны ходу, сямнаццаць кіламетраў.

Паварот ля «Нерпы» прайшлі, як дагнаў іх «козлік» начпо дывізіі. Узрадаваўся Аркадзь — употай ужо шкадаваў, што пехатою выправіўся і матроса пацягнуў. Лепей бы пераначаваў на тэўле, а раніцою «скатавозам» даехалі. Бо шкатулка жалезная, ды з фаліянтамі тоўстымі, з кожным кіламетрам усё цяжэй станавілася. Па чарзе неслі.

«Галаснуў» рукою. Ляціць «козлік» у снежным пыле, не збіраецца спыняцца. Скінуў тады Аркадзь шапку і давай кланяцца начпоўскай «карэце», паясныя паклоны біць. Абдало іх снегам і смярдзючым дымам, і ўжо толькі габарыты ў цемры.

А назаўтра пасля пад'ёма сцяга — Аркадзь з інжынерам толькі ў гірапост спусціліся — камандзір бэчэ-раз па «Каштане»:

— Аркадзь Палыч, сонца маё, што за прыгоду ты на маю старую задніцу гэтым разам прыдбаў?

— Не кажыце загадкамі, Уладзімер Рыгоравіч, а то я млею.

— Чаго цябе начпо перад свае вочы выклікае?

— О як! Я ўчора ягоную машыну галасаваў. Можа, хоча прабачыцца — не ўзяў. Мы пехатою з Гаджыева ўчора ішлі. З сакрэтамі.

— Нешта мне падказвае, што прабачэнняў не будзе. Давай — адна нага тут, другая там. Ты мне на караблі патрэбен. Задралі паркетнікі — то на лайбы адпраўляюць, то па кабінетах...

Сапраўды, дзе толькі не штурманіў — на тэўлах найбольш, потым на ўсялякіх пасажырскіх і грузавых катэрах, на буксірах. Дзе яшчэ? А! На белым адміральскім кацеры, амаль яхце.

Яшчэ лейтэнантам. Камандуючага флатыліяй трэба было з Гаджыева ў Североморск даставіць, у штаб флоту. Адміралаў не возяць, іх дастаўляюць. Асенне-зімні перыяд, частае пагаршэнне бачнасці і ўсё такое... Без штурмана плавучым сродкам па затоцы забараняецца хадзіць. Уладзімер Рыгоравіч, «бычок», інструктаваў: «Ты, Аркадзь Паўлавіч, не дрэйфі. Галоўнае — камандуючы перад выхадам будзе цябе правяраць на веданне затокі. Спытае, дзе знаходзяцца выспы Вялікі і Малы Бярозавы. Ведаеш? Ну і ўсё, я спакойны. Не, больш нічога ён не спытае. Падазраю — гэта адзінае, што ён сам ведае».

Аркадзь тады моцна мандражыраваў — а раптам адмірал штосьці іншае падрыхтаваў. Але ж даставілі камандуючага на борт, прыняў рапарт камандзіра, мічмана, і на мосцік. Аркадзь прадставіўся, а той адразу: «Далажыце-тка, таварыш лейтэнант, дзе знаходзяцца выспы Бярозавы?» І ўсё...

У Североморск тады хвілінаў за сорак дайшлі. Больш за трыццаць вузлоў катэр той дае, хоць па Кольскай затоцы абмежаванне — чатырнаццаць, але ж пад сцягам камандуючага флатыліяй...

Ашвартаваліся ля морвакзала, адмірала ўжо чорная «Волга» чакала, паехаў. Аркадзь па прычалу соваўся. І вось падыходзіць да яго кабета немаладая ўжо, гадоў мо трыццаць пяць, дагледжаная такая, і кажа, што пазнала кацер адміральскі, што яна жонка камандзіра падводнага чаўна, прозвішча называе і просіць, каб яе ў Гаджыева падкінулі, а то пасажырскі кацер толькі ўвечары. Аркадзь кажа — не ягоная воля пасажыраў браць, вось вернецца адмірал... А пакуль што, шаноўная спадарыня, адпачніце, калі ласка, у адміральскім салоне.

Падзякавала кабета, спусцілася ў салон. А праз дзесяць хвілін на прычал выскачыла. «А ў вас на падводных лодках — гэтакі ж пах?»

Параўнальна з лодачнымі адсекамі, дык на адміральскім катэры паветра як у лясным санаторыі. Ну, пах, натуральна, ёсць. Звычайны, карабельны. Крыху фарбай, крыху гумай, крыху саляркай. Таму глянуў на кабету няўцямна. А яна ўбачыла ягоныя здзіўленыя вочы і адразу зразумела: «Вы, мабыць, не чуеце тут ніякіх пахаў? Прынюхаліся. Там жа дыхаць немагчыма. Бедныя...» Потым, як ужо назад вярталіся, увесь час на мосціку прастаяла. Адмірал у салоне, а яна — на мосціку...

...Ад зоны, дзе падводныя чаўны стаяць, да ваеннага мястэчка недалёка. Ішоў і думаў, як сябе паводзіць. І ў чым начпо можа абвінаваціць? І неяк ва вылічыў, яйкаклад качканоса! Хоць што там складанага — афіцэр і матрос са шкатулкаю сакрэтнай. Спытаць аператыўнага — хто ў мора хадзіў, і ўсё следства.

Галоўнае — не ўступаць у спрэчку. «Вы што сабе дазваляеце!» — «Вінаваты!» — «Вінаватых б'юць!» — «Дакладна так!» І выгляд зрабіць дурнаваты.

...— Таварыш капітан першага рангу! Капітан-лейтэнант Муляр...

— Вы што сабе дазваляеце, Муляр?

— Вінаваты!

— Вы не прыдурвайцеся! — (Бач, раскусіў!) — Вы чаму ўчора на дарозе паяцнічалі?

— Вам, таварыш капітан першага рангу, што — цяжка было падвезці? Мы двое сутак на тэўле, а потым пехатою на базу... — Эх, не варта было. Зноў нястрымнасць.

— Ну вы нахабнік, Муляр! Я не павінен сабіраць па дарогах афіцэраў! Даслужыцеся, ну хоць бы як я, каб Радзіма выдзеліла вам персанальны аўтамабіль, тады паглядзім!

(Цікава — сам зразумеў, што сказаў? Што паглядзім? Ці будзе ён падвозіць, калі раптам займее персанальнае аўто? Ці вы-

казвае сумненне, што Аркадзь даслужыцца да гэткага гонару?)

— Перадайце памочніку камандзіра, што я аб'яўляю вам вымову. Хай запіша ў карту спагнанняў-заахвочванняў.

— За што, таварыш капітан першага рангу?

— А вы не разумееце — за што? — дагэтуль быў нібыта спакойны, зараз пачынае ўскіпаць.

— Разумею. Але ж у картку трэба запісваць прычыну спагнання.

— Хай запіша...: «За неахайнае вайсковае вітанне».

Апаціт яго хібіны гаць, чупакабра хрэнава!...

## Генерал-падпалкоўнік

Жоўты водбліск на нізкіх хмарах. Гэта не сонца, цяпер палярная ноч, гэта Североморск, ён там, за сопкамі. Вакол адзінай лямпачкі над трапам, перакінутым з плавучага крана на ракетную палубу, лётаюць, як машкара, калючыя сняжынкі. Атамны ракетаносец, пару гадзінаў назад прывязаны да плаўкрана, губляецца на фоне чорнай вады. Аркадзь, камандзір электранавігацыйнай групы, а сёння вахценны афіцэр, мерзне на мосціку ў чаканні змены. Тупае — адзін удар наском ялавага бота ў прыступку ля пеленгатара, адзін — падэшвай па палубе, потым адзін наском — два падэшвай. Бум-та! Бум-та-та! Бум-та! Бум-та-та! Жалеза звініць як літаўра, і не так маркотна.

На падыходзе да губы Акольнай, месца пагрузкі ракет, да гэтага вось зачуханага плаўкрана, абыходзілі вялікую «банку», абстаўленую дзеля бяспекі з усіх бакоў буямі. Аркадзь палічыў, што ідуць яны заблізка да небяспечнага месца, і парэкамендаваў камандзіру курс на тры градусы правей. Камандзір ніяк не адрэагаваў, і пасля нядоўгай перапалкі па трансляцыі ён запісаў у навігацыйны журнал, што рэкамендацыя праігнаравана, распісаўся і даклаў аб гэтым запісе на мосцік. Падзейнічала, курс падправілі. Уладзімір Рыгоравіч, камандзір бэчэ-раз з мосціка спусьціўся: «Дарэмна ты гэта. Хоць з іншага боку правільна — трэба кэпа прывучаць, каб прыслухоўваўся да штурманоў...» А пасля швартоўкі і адбою трывогі, што аб'яўлялася для праходу вузкасці, з вахты ў штурманскай рубцы ён адразу загрымеў вахценным афіцэрам на мосцік. «А як вы думалі!... Тут вам флот, а не маміна цыца!»

Аркадзь грукае ботамі па жалезе і ўзгадвае.

Як жа меў рацыю той старлей! Неяк, таксама ўначы, ён стаяў дублёрам вахценнага афіцэра. Якое там ужо дублёрства — так, абнюхваўся! Ноч была чорная-чорная, зорная-зорная. На мосціку толькі ён, Аркадзь, той старлей і матрос-стырнавы. Ён — курсант, толькі скончыў першы курс. Эсмінец, на якім яны праходзілі практыку, рассякаў уздоўж крымскага берагу. Усё навокал патыхала экзотыкай — і ветрык, што прыносіў пах незнаёмага, цудоўнага жыцця, і спёртае карабельнае паветра — сумесь саляркі, фарбы, гумы, камбуза, дызельнага выхлапу і людзей. На сэрцы было радасна і ўрачыста. А той старлей, вахценны афіцэр, быў прыгожы як Апалон, прынамсі гэткім здаваўся Аркадзю. У бездакорнай форме адзення, з тонкім прамым носам, акуратнымі дагледжанымі вусамі, з крыху грэблівым выразам твару. Пройдзе не так шмат часу, і Аркадзь абавязкова стане гэткім жа! І яму таксама давераць весьці карабель праз цемру!

— Зайздросціш? — спытаў старлей. — Бачу, зайздросціш... Дурань! Не варта тут нічога зайздрасці. Што? Думаеш: ага, мяне дурнем называеш, а сам... Гэткі ж як і ты быў, дурны. Ну што я тут — малады, здаровы мужык — раблю? У мяне жонка на беразе, а я яе бачу добра, калі раз на тыдзень. Кідай ты гэтую справу, хлопча!

«Ха! — падумаў тады Аркадзь. — Во праблема, жонку ён рэдка бачыць! Якая дробязь!» Старлей адразу страціў адсоткаў восемдзесят бляску. Не той аргумент для сямнаццацігадовага хлапца...

У люку запыхцела, і на мосьцік вылез зампаліт. Вылез у адным РБ, рабочай вопратцы, і адразу завойкаў: марозік градусаў пад дваццаць і ветрык метраў пяць у секунду...

— Ты, гэт-та, Аркадзь Палыч, не прамухай — тут да мяне генерал павінен прыехаць. З Галоўнай Палітуправы, з Масквы. На лодках ніколі не быў, дзівіцца будзе. Як «Волга» на сценцы з'явіцца, мяне высвіствай, я ў Цэнтральным.

— Чаго вы голы на мост вылезлі, Барыс Аляксандравіч! — няшчыра спачувае Аркадзь.

— Маглі па «Каштане»... Прастынеце!

— Надвор'е сам хацеў паглядзець. Іду апранацца. — З кракханнем палез уніз.

Па карме заміргаў ліхтар. Кропка-працяжнік, кропка-працяжнік... Там, здаецца, дывізіён дэсантных караблёў. Выклікаюць на сувязь. Уключыў сігнальны пражэктар, даў у той бок працяглы прамень. Заміргалі. От, халера, з гэтай ліхтарнай-пражэктарнай сувяззю ў падводнікаў заўжды праблемы. Не ўмеюць падводнікі. Пачаў падлічваць кароткія і доўгія праблескі, узгадваць марзянку, якую вучыў ажно на першым курсе і з-за непатрэбнасці напаўзабыўся ўжо. «Вы адкуль» — склаліся праблескі. Відаць там таксама маркоцяцца, і з нецярпеннем чакаюць змены.

«З Аленей губы» — адказаў і выключыў пражэктар. Не хапала толькі праблемаў з «энкавэдзістам».

Падла, але ж і холадна! Асабліва ногі мерзнуць. Анучы маракі не накручваюць, лічыцца непрыстойнасцю, а двое баваўняных шкарпэтак у боце грэюць слаба. Добра, што боцман сваю «канадку» і нагавіцы ватныя пазычыў, а то зусім было б кепска. Нагавіцы, праўда, малаватыя — прыйшлося матузком сьпераду зьвязаць, бо не сыходзяцца. Халодзіць крыху праз расхінутыя кліны, але, можа, нічога не адмерзне...

Дзіўная ў Радзімы «вопраткавая палітыка». Марак з Каспія, з паўпустыні, што на Апшэроне, дзе ўзімку снег адзін-два разы выпадае і адразу растае, атрымоўвае гэткі ж шынялёк, як і марак з Арктыкі. Праўда, падводнікі, каму ў моры часам на мосцік даводзіцца вылазіць, забяспечваюцца футравымі «канадкамі». Рэч гэта дарагая, і каб не скралі, шмат хто перахоўвае іх дома. Вось і Аркадзь гэтак... Бо як падыдзе час здаваць — не разлічышся.

Далёка на дарозе заскакалі фары. Можа, той замаўскі генерал едзе? Экскурсант, шашок яго тата...

— Цэнтральны — мосціку! Зампаліт у вас?

— Тут я... Што — прыехаў? — хрыпіць «Каштан».

— Нейкія фары. Далёка яшчэ.

— Ляту!...

Захэкаўшыся, выпаўз на мосьцік: «Дзе?» У «канадцы» і ў футравых нагавіцах. На пінгвіна падобен. Няблага экіпіраваны. Аркадзь пра такія нагавіцы толькі чуў, а бачыць упершыню.

— Ты ж глядзі, не забудзься «Смірна» падаць! — паклыпаў на ракетную палубу, трап з плаўкрана туды кінуты.

— Не забудуся...

Ідуць. Замуля ажно прыгінаецца, у твар генералу зазірае. Знізу ўверх. Ужо не на пінгвіна падобен, а на фазана, што ў траву шыецца. Спусціліся з ракетнай у агароджу рубкі.

— Дзе мне распрануцца? Але ж тут і холадна!

— Не-не, ташш генерал! Вось сюды, калі ласка. Асцярожна, трымайцеся за поручань, — лісьлівы голас, куды толькі падзелася заўсёдная замаўская самавітасць. На мосцік вядзе. Два «павукі» на пагонах, генерал-лейтэнант. Лампасы, светла-шэры шынэль, каракулевая папаха з чырвоным верхам, позірк востры, калючы.

— Таварыш генерал-лейтэнант, вахценны афіцэр капітан-лейтэнант Муляр!

Цесна на мосціку. Аркадзь на прыступцы стаіць, а генерал ніжэй, больш месца няма. Якраз вачыма насупраць расхінутых кліноў.

— Муляр... Бач ты, яўрэі і на стратэгічных служаць... — нібыта пра сябе мармыча генерал.

— Служаць, таварыш генерал-лейтэнант! Толькі я не яўрэй, я — беларус. «Муляр» — па-беларуску «каменшчык», — кажа Аркадзь.

— Спадзяюся — не «вольны муляр»! — гарэзліва прыжмурвае вочы генерал. — Вам не горача, капітан-лейтэнант Муляр?

Жартаўнік. («Ах ты хахуля маскалідонавая! Сам бы тут пастаяў пару гадзінак.»)

Замуля радасна хіхікае і цісне на педаль «Каштана»: «Цэнтра-а-альны! Мосціку! — Ёсць Цэнтральны! — Праверка сувязі!» — і кідае на генерала позірк, поўны трыюмфу.

Гэта ён дэманструе высокаму палітработніку сваё валоданне складанымі тэхнічнымі сродкамі.

— Дзе мне распрануцца?

— Зараз распранецеся, ташш генерал! Вось сюды спусцімся. Дазвольце, я наперад. Буду, так сказаць, страхаваць...

У час экскурсіі, замаскіраванай пад «Карабель да агляду», ці агляду, замаскіраванага пад «экскурсію», натрапіў генерал на Шурку Кучара па мянушцы «Чалавек без дзяцінства». Шурка — адзін з тых апошніх гаротнікаў, што з пятага класа быў нахімаўцам. Апошні набор. Пасля сталі браць з дзявятага. Так што са сваіх дваццаці васьмі гадоў Шурка сямнаццаць — у шынялі. І вось свідруе генерал вачыма-калючкамі Шуру, а той выцягнуўся (галава пад самым подвалакам), і прадстаўляецца:

— Таварыш генерал-падпалкоўнік, камандзір групы... капітан-лейтэнант Кучар!

Генеральскія калючкі ператвараюцца ў сподкі:

— Штосьці я не разумею... — жаласна мямліць генерал, а з-за яго спіны зам паказвае Шурку кулак. — Ці то вы мяне павысілі, ці то панізілі?... Гм... Генерал-падпалкоўнік... Ну, будзем лічыць, што павысілі. Бо падпалкоўнік жа вышэй за лейтэнанта?! Так жа?! Дзякуй, капітан!

Шурка потым, у час разбору «палётаў», апраўдваўся — ведаў толькі, што калі тры «павукі», то гэта генерал-палкоўнік. А тут — два! Ну і, маўляў, шляхам нескладанай логікі вылічыў.

Дуркаваў, мабыць? А мо і не...

Яшчэ генерал меў гутарку «за жыццё» з матросам трэцяга года службы Асташкіным. Разняволенасць простага матроса, адсутнасць трапятання, ягоныя разгорнутыя сказы ў гутарцы з ім генерала здзівілі:

— А што гэта вы, таварыш матрос, гэтак смела са мной размаўляеце? Нібыта кожны дзень з генераламі зносіцеся?

— Чаго баяцца, таварыш генерал? Танк клапа не раздушыць!

Барыс Аляксандравіч ледзьве прытомнасць не страціў ад такога адказу, але генерал вытрымаў паўзу і засмяяўся. Яму дробненька падхіхікнулі «суправаджаючыя асобы» — зам з партыйным сакратаром.

Штурманскую рубку наведаў, там у гэты час камандзір бэчэ-раз знаходзіўся. Прадставіўся і пачаў генерала лічбамі здзіўляць, параметрамі навігацыйнага комплексу, сярэднеквадратычнымі памылкамі, квазікаардынатамі... У таго ажно вочы да пераносіцы. Але пачуў больш-менш знаёмае слова і перабіў: «Таварыш штурман, а навошта падводнаму чаўну курс?»

Тут у штурмана вочы да пераносіцы. Гэта ж трэба генералу пачаткі навігацыі выкласці, ды пажадана ў трох словах. Пакуль паўзу трымаў, сам генерал выручыў: «Мабыць — каб не заблудзіцца ў моры?»

— Уф! Дакладна так, таварыш генерал! Каб не заблудзіцца!

Потым генерала кармілі ў кают-кампаніі запечанай куркай, паілі «Рыслінгам» і дарылі эбанітавы макет падводнага крэйсера. Але Аркадзь ужо змяніўся і дрых на цеснай канапцы ў штурманскай рубцы. У каюту не пайшоў — каб меней турбавалі.



# Лакаваная скрынка



Артур КОНАН ДОЙЛ

**Цікавая са мной адбылася гісторыя, расказваў хатні настаўнік, адзін з тых дзівосных і фантастычных выпадкаў, якія здараюцца з чалавекам у жыцці. Я страціў найлепшае месца працы, якое толькі мог атрымаць. Але я задаволены тым, што трапіў у Торп-Плэйс, бо прыдбаў... але пра тое, што я прыдбаў, вы даведаецеся з майго аповеду.**

Я не ведаю, ці знаёмая вам тая частка цэнтральных графстваў Англіі, якую прарэзвае Эйван. Гэта самая ангельская частка Англіі. Шэкспір, гэтая кветка на сцябле нацыі, нарадзіўся якраз у яе цэнтры. Гэта зямля ўзгорыстых пашаў, што ў заходнім кірунку робяцца вышэйшымі і ўрэшце ператвараюцца ў Малвернскія пагоркі. Тут няма гарадоў, а толькі шматлікія вёскі з шэрай нарманскай царквой у кожнай. Цагляныя будынкі паўднёвых і ўсходніх графстваў застаюцца за вашай спінай, паўсюль толькі камень: сцены і замшэлыя каменныя пліты дахаў. Усё тут змрочнае, суворае і масіўнае, як і мусіць быць у сэрцы вялікай нацыі.

У цэнтры гэтага краю, недалёка ад Іўшэма, у старым спадчынным доме Торп жыў сэр Джон Боламар, і менавіта туды я прыехаў вучыць двух ягоных малых сыноў. Сэр Джон быў удаўцом — ягоная жонка памерла тры гады таму, пакінуўшы яго з хлопчыкамі васьмі і дзесяці гадоў і чароўнай сямігадовай дзяўчынкай. Міс Ўізэртан, а цяпер мая жонка, была выхавацелькай дзяўчынкі. Ці магла існаваць больш відавочная прэлюдыя да заручынаў? Цяпер яна выхоўвае мяне, а я вучу двух нашых уласных малых хлапчукоў. Але вось я і выдаў, што менавіта прыдбаў у Торп-Плэйс!

Гэта быў стары, неймаверна стары дом, часткова яшчэ данарманскіх часоў, і Боламары сцвярджалі, што жылі тут задоўга да заваявання Англіі нарманамі. Калі я трапіў туды ўпершыню, маё сэрца праняў холад: гэтыя таўшчэзныя сцены, грубыя раскрышаныя камяні, пах, які ішоў ад старадаўняга занядбанага будынка, нібы ад хворай жывёліны. Але сучаснае крыло блішчэла, а сад быў добра дагледжаны. Дом, у якім жыве чароўная дзяўчына, а ля ўваходу буяюць ружы, не можа падавацца злавесным.

Акрамя поўнага набору слуг у доме нас было толькі чацвёра. Міс Ўізэртан, якой было тады дваццаць чатыры і якая здавалася такой жа прыгожай, як, бадай што, цяперашняя місіс Колмар, я — трыццацігадовы Фрэнк Колмар, ахмістрыня місіс Стывенс, сухая маўклівая жанчына, і містэр Рычардс, высокі, ваеннага выгляду мужчына, які кіраваў уладаннямі Боламараў. Мы чацвёра заўсёды харчаваліся разам, а сэр Джон звычайна еў асобна ў бібліятэцы. Часам ён далучаўся да нас за абедам, але мы адчувалі сябе не горш і без ягонага таварыства.

Быў ён асобай досыць злавеснай. Уявіце мужчыну ростам шэсць футаў тры цалі, з магутнай паставай, высокім носам, арыстакратычным тварам, валасамі з сівізной, калматымі бровамі, маленькай вострай мефістофелеўскай бародкай і нібы выразанымі сцізорыкам барознамі над бровамі і вакол вачэй. У яго былі шэрыя вочы, стомленыя і безнадзейныя, гордыя, але сумныя, вочы, што просяць вашай спагады і адначасова забараняюць яе паказваць. Ягоная спіна ад доўгіх вучоных заняткаў ссутулілася, але ў астатнім гэта быў вельмі прыгожы мужчына для сваіх, відаць, пяцідзесяці пяці гадоў — любáя жанчына ахвотна звярнула б на яго ўвагу.

Але ягоная прысутнасць не радавала. Ён быў заўжды ветлівым, заўжды прыязным, але надзвычай маўклівым і замкнёным. Ніколі я не жыў так доўга з чалавекам, ведаючы пра яго так мала. Калі ён быў дома, то бавіў час у сваім маленькім пакойчыку ва ўсходняй вежы ці ў бібліятэцы ў сучасным крыле. Ягоны штодзённы распарадак быў такім аднастайным, што ва ўсякую пару можна было дакладна сказаць, дзе ён цяпер. Двойчы ў дзень ён наведваўся ў свой кабінет, першы раз пасля снедання і другі — каля дзясятай вечара. Па груку ягоных цяжкіх дзвярэй можна было звяраць гадзіннік. Рэшту дня ён праводзіў у бібліятэцы, і толькі гадзіну-другую апоўдні шпацыраваў ці катаўся на кані — самотна, як усё ягонае існаванне. Дзяцей сваіх ён любіў і ахвотна цікавіўся іх поспехамі ў навучанні, але іх палохала гэтая маўклівая фігура з кудлатымі бровамі, і яны пазбягалі яе, калі маглі. Так, папраўдзе, рабілі мы ўсе.

Я далёка не адразу даведаўся хоць пра якія абставіны жыцця сэра Джона Боламара, бо місіс Стывенс, ахмістрыня, і містэр Рычардс, які кіраваў маёнткам, былі занадта адданымі слугамі, каб свабодна размаўляць пра справы свайго гаспадара. Што да гувернанткі, то яна ведала не больш за мяне, і нашая агульная цікавасць, акрамя іншага, прыцягвала нас адно да аднаго. Аднак нарэшце здарыўся выпадак, дзякуючы якому я бліжэй пазнаёміўся з містэрам Рычардсам і больш даведаўся пра жыццё таго, каму служыў.

Прычынай гэтага зрабілася падзенне Персі, малодшага з маіх вучняў, у запруду перад млынавым колам, праз што ў небяспецы аказаліся і хлопчык, і я, бо мне давялося рызыкнуць сабой і ратаваць яго. Змоклы і стомлены — бо я выдыхнуўся нашмат больш, чым малы, — я скіраваў у свой пакой, калі сэр Джон, пачуўшы шум, адчыніў дзверы свайго маленькага кабінета і спытаў, што здарылася. Я паведаміў пра здарэнне, але запэўніў яго, што цяпер хлопчыку нішто не пагражае. Ён слухаў мяне з нерухомым каменным тварам, і яго эмоцыі выдавалі хіба што пільныя вочы і сціснутыя вусны.

— Пачакайце хвілінку... зайдзіце! Раскажыце мне падрабязнасці, — сказаў ён, паварочваючыся ў адчыненых дзвярах.

Вось так я і трапіў у той невялікі кабінет, куды, як даведаўся пазней, апошнія тры гады не ступала ніводная душа, акрамя старой прыбіральшчыцы. Гэта быў круглы (у адпаведнасці з формай вежы, у якім месціўся) пакой з нізкай столлю, адным вузкім акном, абвітым плюшчам, і самай сціплай мэбляй. Стары кілім, адно крэсла, пісьмовы стол і невялікая кніжная паліца — вось і ўсё, што ў ім было. На стале стаяла фатаграфія жанчыны ў поўны рост — я не разгледзеў рысаў яе твару, але запомніў уражанне ціхмянасці і дабрыні. Побач ляжала вялікая чорная лакаваная скрынка і адзін-два стосы звязаных стужкай лістоў ці папераў.

Наша гутарка была кароткай, бо сэр Джон Боламар разумеў, што я змок і мушу як мага хутчэй пераапрануцца. Аднак пазней мяне чакала павучальная размова з Рычардсам, які ніколі не быў у пакоі, куды выпадкова трапіў я. У той жа самы дзень ён, сама цікаўнасць, падышоў да мяне, і мы прагуляліся садовай сцежкай, пакуль мае навучэнцы гулялі побач на лузе ў тэніс.

— Вы наўрад ці ўяўляеце, якое выключэнне для вас зрабілі, — сказаў ён. — Гэты пакой трымаецца ў такой сакрэтнасці і сэр Джон так рэгулярна і часта яго наведвае, што ў доме да яго ставяцца амаль прымхліва. Будзьце ўпэўненыя: як толькі я перакажу вам плёткі пра гэты пакой, гісторыі пра яго таямнічых візіцёраў і пра падслуханыя слугамі галасы, вы адразу ж западозрыце, што сэр Джон зноў узяўся за старое.

— Што значыць «за старое»? — спытаў я.

Ён здзіўлена паглядзеў на мяне.

— Няўжо вы нічога не ведаеце пра мінулае сэра Джона?

— Зусім нічога.

— Вы мяне здзіўляеце. Я думаў, уся Англія хоць нешта ведае пра ягоныя подзвігі. Я б не стаў чапаць гэтую тэму, калі б вы не былі адным з нас, і калі я прамаўчу пра гэтыя факты, яны ўсё адно дойдуць да вас у больш грубай форме. Я заўсёды лічыў, што вы ведаеце, каму служыце — Д'яблу Боламару

— Але чаму Д'яблу? — спытаў я.

— Ах, вы яшчэ малады, а свет хутка змяняецца! Дваццаць гадоў таму імя Д'ябла Боламара было адным з самых вядомых у Лондане! Ён быў галавой кампаніі закаранелых шалапутаў, баксёрам, аматарам коней, гульцом, выпівохам — нашчадкам старога тыпу людзей і не лепшым за найгоршага з іх.

Я здзіўлена паглядзеў на яго і ўсклікнуў:

— Як?! Такі ціхмяны, працавіты чалавек з сумным тварам?..

— Найвялікшы распуснік і дэбашыр у Англіі! Але ўсё гэта толькі паміж намі, Колмар. Цяпер вы разумееце, што я маю на ўвазе, калі кажу, што жаночы голас у яго пакоі дагэтуль можа выклікаць падазрэнні.

— Але што магло так яго змяніць?

— Маленькая Бэрыл Клэр, калі рызыкнула стаць ягонай жонкай. Гэта быў паваротны пункт. Ён зайшоў так далёка, што яго адрынула нават яго бязладная кампанія. Вы ж ведаеце, паміж выпівохам і п'яніцам велізарная розніца. Яны ўсе выпіваюць, але п'яніцу ў сваё кола не дапусцяць. Ён зрабіўся рабом бутэлькі — безнадзейным і бездапаможным. Тады з'явілася яна, убачыла магчымасці выбітнага чалавека, з якім здарылася бяда, і пагадзілася на рызыку выйсці за яго замуж, хаця магла выбіраць з тузіна іншых. Яна прысвяціла яму сваё жыццё і вярнула чалавечую годнасць. Вы заўважылі, што ў доме зусім няма алкаголю? Яго й не было з таго моманту, як яна пераступіла гэты парог. Нават цяпер яго кропля была б як кроў для тыгра.

— Значыць, яе ўплыў дагэтуль яго стрымлівае?

— І ў гэтым якраз сапраўдны цуд. Калі яна тры гады таму памерла, усе мы чакалі і баяліся, што ён возьмецца за старое. Яна сама баялася гэтага больш, чым смерці, бо была для мужа анёлам-абаронцам і ў гэтым бачыла сэнс свайго жыцця. Дарэчы, ці бачылі вы ў ягоным пакоі чорную лакаваную скрыначку?

— Бачыў.

— Думаю, там лісты ад яе. Кожны раз, калі ён хаця б на адну ноч некуды з'язджае, ён абавязкова бярэ скрынку з сабой. Ох, Колмар, мабыць, я сказаў вам больш, чым трэба, але я чакаю ад вас таго ж, калі вы раптам дазнаецеся пра нешта цікавае.

Было відаць, што гэты добры чалавек проста памірае ад цікаўнасці і крыху пакрыўджаны на тое, што я, прыбыш, першы пабываў у забароненым пакоі. Затое я вырас у яго вачах, і з таго часу мы з ім сталі больш адкрытымі адзін з адным.

Так я больш зацікавіўся маўклівай і магутнай постаццю майго гаспадара. Я пачаў разумець той дзіўна чалавечны выраз яго вачэй, тыя глыбокія барозны на яго ўстурбаваным твары. Гэты чалавек з ранку да вечара вёў сам-насам бясконцую вайну з жудасным ворагам, які заўжды быў гатовы на адлегласці выцягнутай рукі — ворагам, які знішчыў бы яго цела і душу, калі б толькі змог яго апанаваць. Калі я заўважаў у калідоры або ў садзе яго змрочную згорбленую фігуру, мне здавалася, што блізкая пагроза набывае фізічную форму, і я амаль бачыў, як агідны і небяспечны вораг крадзецца проста ў ягоным цені, быццам напалову ўтаймаваны драпежнік, што сочыць за гаспадаром, гатовы напасці ў першы ж момант, калі той аслабіць пільнасць. Яшчэ я ўяўляў мёртвую жанчыну, якая аддала жыццё, каб адвесці ад яго небяспеку. Я адчуваў яе цьмяную, але прыгожую прысутнасць — яна нібы ўвесь час стаяла, раскінуўшы рукі, каб абараніць каханага.

Неяк незаўважна ён здагадаўся пра маё спачуванне і ў сваёй маўклівай манеры выказаў сваю ўдзячнасць. Аднойчы ён нават запрасіў мяне на паабедзенны шпацыр, і хаця тады мы не прамовілі ні слова, гэта быў знак даверу, якога ён ніколі не выказваў да іншых. Да таго ж ён папрасіў мяне праіндэксаваць яго бібліятэку (адну з найлепшых прыватных бібліятэк у Англіі), і я шмат гадзін правёў побач з ім ці нават у яго кампаніі, бо калі ён чытаў за сталом, я ў нішы ля акна ператвараў хаос яго кніг у парадак. Нягледзячы на такія блізкія адносіны, мяне больш ніколі не запрашалі ў пакой у вежы.

Але аднойчы маё стаўленне да яго змянілася: адзінае здарэнне ператварыла маю сімпатыю ў нянавісць. Я зразумеў, што мой працадаўца застаўся ранейшым, прыдбаўшы дадаткова загану крывадушнасці. А адбылося вось што.

Аднойчы вечарам міс Ўізэртан паехала ў суседнюю вёску Бродуэй спяваць на канцэрце для адной дабрачыннай арганізацыі, а я, выконваючы дадзенае ёй абяцанне, выправіўся па яе, каб праводзіць дадому. Дарожка агінала ўсходнюю вежу, і, ідучы там, я заўважыў, што ў круглым пакоі гарыць святло. Быў летні вечар, і трохі вышэйшае за нашыя галовы акно было адчыненае. Як гэта звычайна бывае, мы заглыбіліся ў размову і прыпыніліся на лужку, што атачаў старую вежу, але раптам адна акалічнасць забрала нашую ўвагу і адцягнула думкі ад тэмы гаворкі.

Мы пачулі голас — несумненна, гэта быў голас жанчыны. Ціхі, такі ціхі, што яго можна было пачуць толькі ў такую бязветраную ноч, — але, нягледзячы ні на што, было ясна, што ён належаў жанчыне. Голас паспешліва і з цяжкасцю прамаўляў некалькі фразаў, а пасля замаўкаў — жаласліва, задыхана, умольна. Міс Ўізэртан і я адзін момант стаялі і глядзелі адно на аднаго. Затым мы хутка пайшлі да ўваходных дзвярэй.

— Голас чуўся з акна, — сказаў я.

— Мы не маем права падслухоўваць, — адказала яна. — Мы мусім забыць, што ўвогуле яго чулі.

Яна не здзівілася, і гэта падштурхнула мяне да новай думкі.

— Вы чулі яго раней! — закрычаў я.

— Я не магла не чуць. Мой пакой знаходзіцца ў той жа вежы вышэй. Такое здараецца часта.

— Кім можа быць гэтая жанчына?

— Не ведаю. І не хачу гэта абмяркоўваць.

Па яе голасе я зразумеў, што яна пра ўсё гэта думае. Але калі наш гаспадар вёў падвойнае сумнеўнае жыццё, кім магла быць загадкавая жанчына ў старой вежы? Я сам бачыў, якім маркотным і пустым быў

гэты пакой. Там яна дакладна не жыла. Але адкуль тады яна з'явілася? Гэта не мог быць нехта з прыслугі. Усе яны знаходзіліся пад пільным вокам місіс Стывенс. Візіцёрка мусіла прыходзіць звонку. Але як?

І тут я раптам успомніў, які стары гэты дом — а значыць, у ім можа быць сакрэтны ход. Без такога падземнага ходу не абыходзіцца ніводны стары замак. Загадкавы пакой размяшчаўся ў сутарэнні вежы, і калі нешта такое існавала, уваход туды вёў праз падлогу. Зусім побач месцілася шмат катэджаў. Сакрэтны ход мусіў выходзіць на зямлю недзе ў зарасцях ажыны ў суседнім лесе. Я нікому нічога не сказаў, але адчуў, што таямніца гаспадара ў маёй уладзе.

І чым больш я пераконваўся ў сваіх здагадках, тым больш дзівіўся таму, як ён хаваў сваю сапраўдную сутнасць. Часта, гледзячы на ягоную змрочную постаць, я задаваўся пытаннем, ці мог такі чалавек весці падвойнае жыццё, і стараўся запэўніць сябе, што мае падазрэнні могуць аказацца памылковымі. Але быў жа той жаночы голас, былі таемныя спатканні ў вежавым пакоі! Ці можна знайсці тут нявіннае тлумачэнне? Я ўяўляў сабе жудасную сутнасць гэтага чалавека. Мяне напаўняла нянавісць да такой глыбокай паслядоўнай крывадушнасці.

Толькі аднойчы за тыя месяцы я бачыў яго без маскі стрыманасці і суму, у якой ён заўсёды паказваўся людзям. На імгненне я заўважыў у яго вачах бляск вулканічных агнёў, якія ён так даўно патушыў. Выпадак быў непрыгожы, бо яго гнеў выліўся на пажылую прыбіральшчыцу — як я казаў, яна адна магла ўваходзіць у таямнічы пакой. Я ішоў калідорам, які вёў у вежу (у тым кірунку знаходзіўся мой уласны пакой), калі раптам пачуў крык жаху і потым адразу — грозны рык мужчыны, які ад злосці страціў здольнасць гаварыць па-чалавечы. Гэта быў рык яраснай дзікай жывёліны. Затым я пачуў яго голас, які зрываўся ад гневу. «І вы... — крычаў ён, — вы набраліся нахабства парушаць мае загады?!» Праз імгненне прыбіральшчыца, дрыжучы, са збялелым тварам, прабегла перада мной цераз пераход, а жудасны голас грымеў ёй услед: «Вы атрымаеце разлік у місіс Стывенс! Каб нагі вашай больш не было ў Торп-Плэйс!» Паміраючы ад цікаўнасці, я не стрымаўся, пайшоў за ёй і знайшоў яе за рогам: яна прыхінулася да сцяны і дрыжала, як напужанае зайчанё.

— Што здарылася, місіс Браўн? — спытаў я.

— Гаспадар! — сказала яна. — О, як ён мяне напалохаў! Калі б вы бачылі яго вочы, містэр Колмар, сэр! Я думала, ён мяне заб'е.

— А што вы зрабілі?

— Што я зрабіла, сэр? Прынамсі, нічога такога, каб рабіць столькі шуму. Я толькі паклала руку на тую яго чорную скрыначку, нават не адчыняла яе, і тут ён увайшоў. Вы чулі, што было далей. Я страціла працу, і дзякуй Богу, бо я нізашто не хацела б зноў аказацца з ім сам-насам.

Значыць, прычынай гэтай успышкі гневу была лакаваная скрынка, тая самая, якую ён заўжды трымаў побач. Якая сувязь была, і ці была ўвогуле, паміж ёю й таемнымі візітамі дамы, чый голас я выпадкова падслухаў? Ярасць сэра Джона Боламара была доўгай і моцнай, бо з таго дня місіс Браўн, прыбіральшчыца, знікла з дома, і ў Торп-Плэйс яе больш не бачылі.

А цяпер я хачу расказаць пра незвычайнае здарэнне, якое дапамагло знайсці адказы на гэтыя заблытаныя пытанні і раскрыла таямніцу майго працадаўцы. Гісторыя гэтая можа прымусіць вас засумнявацца, ці не ахвяраваў я гонарам дзеля цікаўнасці і ці не выступіў у сумнеўнай ролі шпіёна. Калі вы прыйдзеце да такой высновы, я нічога не змагу зрабіць, але магу вас запэўніць, што ўсё было менавіта так, як я вам расказваю.



**У маё жыццё ўвайшла самая пяшчотная і ціхмяная душа, якую Бог пасылае з нябёсаў, як анёла-абаронцу. Яна кахала мяне, кахала такога зламанага, якім я быў**

Першым этапам развязкі было тое, што маленькі пакой у вежы стаў нежылым. Да гэтага спрычыніліся падзенне з'едзенай чарвякамі дубовай бэлькі, што падтрымлівала столь. Струхлелая ад часу, аднойчы раніцай яна зламалася і ў пыле тынкоўкі абрынулася ўніз. На шчасце, сэра Джона там тады не было. Ён выцягнуў сваю каштоўную скрынку з-пад абломкаў і перанёс у бібліятэку, дзе замкнуў у стале. Сэр Джон нічога не зрабіў, каб выправіць шкоду, і я так і не атрымаў магчымасці адшукаць патаемны праход, існаванне якога западозрыў. Што да лэдзі, то я быў вырашыў, што яе візіты скончыліся, але аднойчы вечарам пачуў, як містэр Рычардс пытае місіс Стывенс, з якой жанчынай сэр Джон размаўляў у бібліятэцы. Я не пачуў яе адказу, але з таго, як яна сябе паводзіла, зразумеў, што ёй не ўпершыню даводзіцца ўнікаць адказу на такія пытанні.

— Вы чулі голас, Колмар? — спытаў містэр Рычардс.

Я прызнаўся, што чуў.

— І што вы пра гэта думаеце?

Я паціснуў плячыма і сказаў, што гэта не мая справа.

— Ну-ну, вы ж не менш цікаўны, чым любы з нас. Гэта жанчына ці не?

— Безумоўна, жанчына.

— У якім пакоі вы яе чулі?

— У вежы, перад падзеннем столі.

— А я ў бібліятэцы мінулай ноччу. Ішоў у сваю спальню міма дзвярэй і пачуў нейкі крык і маленне гэтак жа дакладна, як чую цяпер вас. Гэта магла быць жанчына...

— Ну а што яшчэ гэта магло быць?

Ён цяжкім позіркам паглядзеў на мяне.

— Ёсць болей з'яў на свеце [1], — сказаў ён. — Калі гэта сапраўды жанчына, як яна сюды трапляе?

— Не ведаю.

— Вось і я не ведаю. А калі гэта тое, пра што я думаю... але для практычнага дзелавога чалавека ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя трохі смешна пра такое гаварыць.

Ён пайшоў, але я зразумеў, што ён падзяліўся толькі часткай сваіх сумневаў. Да ўсіх гэтых гісторыяў пра прывідаў Торп-Плэйс проста на нашых вачах далучылася яшчэ адна. Магчыма, такой яна і засталася, бо ўсю праўду дазнаўся толькі я і ніхто іншы.

І вось як я пра ўсё дазнаўся. Праз неўралгію я пакутаваў на бяссонніцу і прыкладна апоўдні прыняў вялікую дозу хларадыну, каб суцішыць боль. Тады я завяршаў індэксаванне бібліятэкі сэра Джона і звычайна працаваў там з пяці да сямі. У гэты дзень я адначасова змагаўся з бяссонніцай і лекам. Я ўжо адзначаў, што ў бібліятэцы была ніша, у якой я меў звычку працаваць. Я грунтоўна ўладкаваўся, каб заняцца сваёй справай, але мяне адолела стома, і я моцна заснуў.

Не ведаю, колькі я спаў, але калі прачнуўся, было ўжо зусім цёмна. Затлумлены прынятым хларадынам, я нерухома ляжаў у паўпрытомным стане. Вакол мяне маячылі высокія сцены вялікага пакоя з кнігамі. У святле слабых промняў месяца, што прабівалася праз аддаленае акно, я ўбачыў сэра Джона Боламара, які сядзеў за сваім пісьмовым сталом. Яго прыгожая галава і вытачаны профіль рэзка выдзяляліся на фоне бліскучага квадрата за ім. Раптам ён нахіліўся, і я пачуў рэзкі паварот ключа і скрыгатанне металу аб метал. Нібы ў сне, я ўсвядоміў, што перад ім стаіць лакаваная скрынка і што ён дастаў з яе нешта тоўстае і дзіўнае — цяпер гэта ляжала перад ім на стале. Я нічога не разумеў, і ў затлумленую і млявую галаву не прыходзіла думка пра тое, што я ўмешваюся ў яго прыватныя справы, што ён не ведае пра маю прысутнасць. І калі я гэта зразумеў і жахнуўся, калі ўжо прыўзняўся, каб паведаміць пра сябе, то пачуў дзіўны хруст, металічнае шчоўканне, а затым і голас.

Так, гэта быў голас жанчыны, у гэтым не было сумневу. У гэтым голасе чулася столькі мальбы, суму і кахання, што ён заўсёды будзе гучаць у маіх вушах. Разам з голасам я чуў нейкі дзіўны аддалены звон, але кожнае слова было ясным, хаця і слабым, бо гэта былі словы жанчыны, якая памірала.

— Не вер, што я адышла, Джон, — сказаў ціхі прыглушаны голас. — Я тут, побач з табой, і буду з табой, пакуль мы не сустрэнемся зноў. Я паміраю шчаслівай ад думкі, што ранкам і ноччу ты будзеш чуць мой голас. О, Джон, будзь моцным, будзь моцным, да самай нашай новай сустрэчы.

Як я казаў, я ўжо прыўзняўся, каб паведаміць пра сябе, але не змог гэтага зрабіць, пакуль гучаў голас. Я мог толькі застыць, напаўлежачы, напаўседзячы, здранцвелы, здзіўлены, і слухаць гэтыя сумныя і далёкія музычныя словы. А ён... ён быў так заглыблены ў сябе, што не пачуў бы мяне, нават калі б я загаварыў. Але калі голас змоўк, я прамармытаў словы выбачэння і тлумачэння. Ён ускочыў, імгненна праляцеў праз увесь пакой і ўключыў электрычнае святло, у белым мігценні якога я ўбачыў, што вочы сэра Джона гараць ад гневу, а твар перакасіўся ад хвалявання, як некалькі тыдняў таму.

— Містэр Колмар! — закрычаў ён. — Вы тут! Што ўсё гэта значыць?

Запінаючыся, я ўсё растлумачыў: і пра сваю неўралгію, і пра хларадын, і пра нечаканы сон, і пра незвычайнае абуджэнне. Пакуль ён слухаў мяне, ярасны выраз знікаў з яго твару, які зноў хаваўся за маскай суму і стрыманасці.

— Мая таямніца ў вашых руках, мстэр Колмар, — сказаў ён. — За нядбайнасць я магу вініць толькі сябе. Адкрыць палову сакрэту горш, чым увесь сакрэт, а таму, калі вы ўсё роўна столькі ведаеце, то можаце даведацца і пра астатняе. Калі мяне не стане, можаце расказваць пра гэта каму заўгодна, але да таго часу я спадзяюся на вашую годнасць, на тое, што ніводная жывая душа ні пра што не ад вас не дазнаецца. Я яшчэ маю гонар — Божа, дапамажы мне! Мяне, прынамсі, абурае шкадаванне, якое можа выклікаць да мяне гэта гісторыя. Я смяяўся з зайздрасці, пагарджаў нянавісцю, але шкадаванне — гэтага для майго цярпення зашмат.

Вы бачылі крыніцу гэтага голасу, які, як я разумею, абудзіў у маім доме столькі цікаўнасці. Мне вядомыя чуткі, якія ён выклікаў. Гэтыя чуткі, скандальныя або забабонныя, я магу не заўважаць і дараваць. Вось чаго я ніколі не дарую, дык гэта здрадніцкага падглядвання і падслухоўвання дзеля задавальнення нездаровай цікаўнасці. Але ў гэтым, містэр Колмар, я вас не абвінавачваю.

Калі я быў малады, значна маладзейшы, чым вы цяпер, я трапіў у Лондан без адзінага сябра або дарадцы і з такой колькасцю грошай, якая прыцягнула да мяне безліч ілжэсяброў ды ілжэдарадцаў. Я прагна піў віно жыцця — калі ёсць чалавек, які выпіў яго больш, я яму спачуваю. Мае грошы марнаваліся, характар псаваўся, здароўе пагаршалася, я больш не мог жыць без спіртнога, я быў істотай, пра якую агідна ўспамінаць. І вось у гэты час, у час майго найгоршага падзення, у маё жыццё ўвайшла самая пяшчотная і ціхмяная душа, якую Бог пасылае з нябёсаў, як анёла-абаронцу. Яна кахала мяне, кахала такога зламанага, якім я быў, і прысвяціла жыццё таму, каб зноў пераўтварыць у чалавека таго, хто апусціўся да ўзроўню жывёлы.

Але яе адолела смяротная хвароба, і яна чэзла на маіх вачах. У час сваіх найгоршых пакутаў яна думала не пра сябе, не пра свой боль і смерць. Яна думала пра мяне. Лёс палохаў яе толькі адным: яна думала, што без яе ўплыву я зноў зраблюся такім, як быў. Дарма я абяцаў ёй, што ў маім роце ні кроплі віна не будзе. Яна занадта добра ведала, як моцна гэты д'ябал трымае мяне, бо зрабіла столькі намаганняў, каб паслабіць ягоную хватку. Дзень і ноч яе мучыў страх, што мая душа зноў акажацца пад яго ўладай.

Ад адной сяброўкі, што прыходзіла наведаць хворую, яна пачула пра новае вынаходніцтва, фанограф, і адразу з імклівай кемлівасцю закаханай жанчыны зразумела, як яго можна выкарыстаць. Яна адправіла мяне ў Лондан набыць найлепшы і найдаражэйшы апарат. Ужо паміраючы, яна прашаптала ў яго словы, якія з таго часу ахоўваюць мяне. Самотны і зламаны, якую я яшчэ маю ва ўсім свеце падтрымку? Але досыць. Калі будзе на тое Божая воля, мне не будзе сорамна сустрэць яе, калі Ён вырашыць зноў злучыць нас! Вось мой сакрэт, містэр Колмар, і пакуль я жыву, я давяраю вам яго захоўваць.

**Каментар**

[1] *«Ёсць болей з'яў на свеце...» — цытата ўзятая з «Гамлета, прынца дацкага» Ўільяма Шэкспіра. Цытуецца паводле перакладу Юркі Гаўрука.*

**«Прайдзісвет», №15**
**Пераклаў з ангельскай**
**Зміцер Давыдзенка**

# Францішак Багушэвіч: з верай у будучыню

**Сёлета споўнілася 175 гадоў з дня нараджэння Францішка Багушэвіча, выбітнага беларускага паэта, паўстанца і адваката.**



Гледзячы на яго партрэты, можна падумаць, што на іх паслядоўнік філасофіі Фрыдрыха Ніцшэ: чорны гарнітур, доўгія чорныя вусы, нейкая лёгкая стомленасць. Яны былі сучаснікамі, жылі ў адзін час, але, у адрозненне ад вялікага немца, Ф. Багушэвіч адстойваў свае ідэалы не толькі словам, але і справай — не цураўся брацца зброю ў рукі.

Ф. Багушэвіч атрымаў добрую адукацыю: скончыў з адзнакай Віленскую гімназію, у якую паступіў разам з малодшым братам Валяр'янам.

Пасля гімназіі ён паступае ў Пецярбургскі ўніверсітэт, з якога будзе амаль адразу ж выключаны за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. Багушэвіч вярнуўся ў Беларусь і працаваў настаўнікам на Лідчыне, дзе вучыў дзяцей сялянаў. Прадказальна, што ён бярэ актыўны ўдзел у паўстанні 1863—1864 гг. Для маладога Багушэвіча, добра знаёмага з гісторыяй, гэтае паўстанне — лагічны працяг барацьбы за аднаўленне Рэчы Паспалітай. Ён лічыў сябе спадкаемцам паўстанцаў 1794 і 1830-1831 гадоў, што засведчыў пазней ва ўласным вершы «Да 100-годдзя»:

*Ты прымі ад нас пашану,*
*О, Тадэвушавы ценю,*
*Абудзі у сэрцах раны,*
*Павяртай іх з амярцвення.*

*Хай з былога ўстануць воі,*
*Хай на бой натхняць нашчадкаў;*
*Праз любоў да вольнай волі*
*Мы палюбім нашу Матку!..*

Падчас бою ў Аўгустоўскіх лясах Ф. Багушэвіч быў паранены. Дзякуючы надзейным людзям ён не трапіў у лапы карнікаў. Яго сям'я — бацька Казімір, сястра Ганна і брат Апалінар — за актыўную падтрымку паўстанцаў больш за год знаходзіліся ў Ашмянскай турме. Хаваючыся ад пераследу ўладаў, Ф. Багушэвіч бяжыць з Беларусі.

Спачатку ён жыве ў краі вечнай вольніцы — ва Украіне, якая ў тыя часы, як і цяпер, надавала прытулак усім «нядобранадзейным» пасіянарыям. Там, ва ўкраінскім горадзе Нежын, што на Чарнігаўшчыне, ён атрымае юрыдычную адукацыю. Пасля будзе Каралявец, Чарнігаў, Волагда, Канатоп ды іншыя «города и веси» Расійскай імперыі. Як і многія былыя паўстанцы, ён мроіць пра вяртанне на радзіму. Цяжкае матэрыяльнае становішча на чужыне яшчэ больш цісне па будучага паэта. Агулам у выгнанні Ф. Багушэвіч правядзе каля 20 гадоў.

У горад сваёй маладосці — Вільню — ён вернецца разам з сям'ёй 25 сакавіка 1884 года, з мэтай заняцца прыватнай адвакатурай. Містычным чынам гэтая важная дата ў ягоным жыцці супала з важнай датай у жыцці беларускага народа — 25 сакавіка 1918 года, калі была абвешчаная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

У знакамітым доме з атлантамі, дзе на той час знаходзіўся Віленскі акруговы суд, Францішак Багушэвіч працаваў прысяжным павераным. Дом, дзе былі створаныя два ягоныя паэтычныя зборнікі «Дудка беларуская» і «Смык беларускі», да нашага часу не захаваўся, цяпер на яго месцы будынак Міжнароднай школы менеджменту. Ёсць і мемарыяльная шыльда, якую ўсталявалі ў 2010 годзе. Будзеце ў Вільні — абавязкова прайдзіцеся па месцах, дзе жыў, бываў і працаваў класік.

У 1896 годзе Ф. Багушэвіч перабраўся з Вільні ў вёску Кушляны, дзе прыдбаў сабе сядзібу. Там ён будзе жыць да самай смерці.

**Асноўная заслуга Францішка Багушэвіча ў тым, што цягам свайго няпростага і цяжкага жыцця ён не страчваў веры ў будучыню**

Ф. Багушэвіч раскрыў у сабе не толькі таленавітага паэта, але і публіцыста. У прадмовах да сваіх зборнікаў ён пакінуў нам не толькі вядомы запавет «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі», але і акрэсліў межы будучай Беларусі. Так, у прадмове да першага зборніка «Дудка беларуская», які пабачыў свет у 1891 годзе, Ф. Багушэвіч дае адказ на пытанне, дзе знаходзіцца Беларусь: «Яна ад Вільні да Мазыра, ад Віцебска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...» Беларусы яшчэ не мелі ўласнай дзяржаўнасці, але дзякуючы таленту простага віленскага адваката займелі ўжо яе абрысы.

Са школьнай праграмы нам зацята ўбіваюць у галаву, што Ф. Багушэвіч — не проста пачынальнік беларускай літаратуры, але нейкі першы плакальшчык, цярпіла, кажучы моладзевым слэнгам. Ну і ў якасці доказаў прыводзяць вядомыя яго вершы аб цяжкай нядолі простага люду. Мне ж ён бачыцца чалавекам, які ўсё жыццё прысвяціў сябе служэнню Радзіме. Ён пісаў пра тое, што бачыў, аб чым ведаў, з чым сутыкаўся. Але былі ў яго і пазітыўныя вершы. Возьмем адзін з першых яго вершаў, вядомых нам — «Новы 1886 год», які быў напісаны па-польску:

*...Вось ідзе ўжо прамяністы,*
*Ясны, свежы, як маёвы,*
*Дзень пагодны і ўрачысты,*
*Год бясконцы, Год наш Новы.*

*...Якар — вось яго эмблема,*
*І Любоў у ім палае,*
*Крыж пакрыў забрала шлема*
*Ў знак, што веру ў сэрцы мае.*

*Ён любоўю ўсіх нас злучыць*
*І Свабоду нам уручыць.*
*Дасць надзею і здзяйсненне,*
*Крыжам збавіць ад сумненняў!..*

Не трэба быць аналітыкам ад літаратуры, каб зразумець, пра што кажа аўтар. Здаецца, ён адчуваў подых навальніцы, якая вось-вось грымне. Але ж не дачакаўся — Францішак Багушэвіч памёр у Кушлянах у красавіку 1900 года ва ўзросце 60 гадоў.

Не пройдзе і дзесяці гадоў пасля яго смерці, а ўжо пачнецца першае беларускае Адраджэнне. У беларусаў з'явяцца свае газеты, часопісы, літаратура, тэатр, выяўленчае мастацтва, палітычныя партыі. Праз васямнаццаць гадоў пасля смерці Багушэвіча беларусы абвесцяць пра стварэнне ўласнай дзяржавы...

Асноўная заслуга Францішка Багушэвіча ў тым, што цягам свайго няпростага і цяжкага жыцця ён не страчваў веры ў будучыню, рабіў усё дзеля набліжэння таго дня, калі Беларусь, пра якую ён згадваў у прадмове да першага свайго зборніка, стала рэальнай дзяржавай.

# Якуб Колас: няпросты шлях класіка

**Мы прызвычаіліся ўспрымаць класікаў, асабліва беларускай літаратуры, лінейна: жыў, быў, напісаў, пакінуў. Але за ўсімі агульнапрынятымі эпітэтамі і статусам прызнанага класіка хаваецца няпростае жыццё рэальнага чалавека.**



Сёлета споўнілася 105 гадоў з выхаду першага зборніка вершаў Якуба Коласа «Песні жальбы».

Дэбютная кніга выйшла, калі малады паэт сядзеў у Пішчалаўскім замку. За спробу арганізацыі нелегальнага настаўніцкага сходу і распаўсюд улётак Якуб Колас быў прыгавораны да 3 гадоў турмы, якія і адбыў, як цяпер сказалі б, «ад званка да званка». У часе судовага працэсу малады паэт мог збегчы, але не зрабіў гэтага, бо не мог пакінуць сяброў, якія заставаліся за кратамі...

Знаходзячыся ў турме, Якуб Колас працаваў хлебарэзам і бібліятэкарам, шмат чытаў і пісаў, дзякуючы чаму нарадзіўся цэлы цыкл вершаў «З турмы», у якім аўтар распавядаў пра нялёгкае жыццё вязняў Пішчалаўскага замку. Вязніца, відавочна, ціснула на аўтара, які свае маладыя гады быў вымушаны праводзіць у камеры разам з такімі ж небаракамі, як і ён сам.

У верасні 1911 года Я. Колас адбыў свой тэрмін і выйшаў на волю. Адразу па выхадзе паехаў у Вільню, дзе пачаўся яго паступовы ўзыход на беларускі літаратурны Алімп. Далей была праца настаўніка ў Пінску, Першая сусветная вайна, Румынскі фронт, рэвалюцыя, выезд на Куршчыну. Усе гэтыя факты з жыцця славутага песняра добра вядомыя. Але ж ці быў ён насамрэч такім адназначным і паслухмяным, як нам кажуць падручнікі па літаратуры?

Мне яшчэ ў школьныя гады падавалася, што ў гісторыі з Коласам нешта ня так: нам выдаюць яго за спакойнага паэта і пісьменніка, які прыгнятаўся хіба толькі за царскім часам, калі трапіў за краты за сваю антыўрадавую дзейнасць. Але ж насамрэч ён яшчэ доўга не даваў спакою некаторым і ў савецкі час.

Вядома, што Якуб Колас зрабіўшыся вядомым і прызнаным літаратарам, заўжды дапамагаў маладым калегам. Многія з будучых літаратараў пабывалі ў доме, дзе жыў «дзядзька Якуб». Сярод іх былі і асобы неспакойныя, рэвалюцыйна настроеныя: Юрка Лістапад і Нічыпар Мяцельскі, — якія ў сакавіку 1926 года акажуцца на лаве падсудных па справе «лістападаўцаў».

Справа была такая: былы ўдзельнік Слуцкага паўстання, а тагачасна настаўнік па-сумяшчальніцтву, Юрка Лістапад сабраў вакол сябе невялікую групу юнакоў. Маладыя людзі пісалі вершы і прозу, займаліся патрыятычнай дзейнасцю і нават выдавалі сваю рукапісную газету «Наша слова». У выніку ўсіх схапіла ГПУ.

Судовы працэс быў паказальна публічным, уся тагачасная прэса пісала пра «Справу Лістапада». Разам з кіраўніком на лаве падсудных аказалася пяць маладзёнаў, студэнтаў агульнаадукацыйных курсаў у Слуцку, якія належалі да гэтага напаўлегальнага гуртка. Іх абвінавачвалі ў дастаткова сур'ёзных справах: распаўсюдзе антысавецкай літаратуры, падрыхтоўцы паўстання і адрыве БССР ад СССР. Літаратурай тут і блізка не пахла.

Якуб Колас, які на той момант знаходзіўся на вяршыні літаратурнай славы, будзе выступаць на тым працэсе сведкам. Яго абвінавацяць у сувязях і ўплывах на «контррэвалюцыйную групу лістападаўцаў». Хутчэй за ўсё ён меў вялікую прыхільнасць да падсудных, паколькі не толькі не адмовіўся ад сувязяў з лістападаўцамі, але і паспрабаваў абараніць іх.

Калі верыць успамінам непасрэдных сведкаў працэсу, допыт Якуба Коласа на судзе быў больш падобны да прамовы. Казаў ён стрымана, упэўнена, без баязлівства. Гэта быў яшчэ вегетарыянскі перыяд савецкай сістэмы, таму працэс скончыўся амаль добра: падсудныя атрымалі невялікія тэрміны і датэрмінова выйшлі з турмы на волю. Але, зразумела, ненадоўга — набліжаліся крывавыя 30-я.

Калі ў 1926 годзе, пасля вядомай моўнай канферэнцыі, ГПУ схапіла «бацьку беларускай драматургіі» Францішка Аляхновіча, Якуб Колас зноў не застаўся ўбаку. Ён разам з іншымі вядомымі беларускімі дзеячамі падпісаўся пад зваротам у абарону вядомага драматурга. На жаль, зварот не дапамог, і аўтар вядомай кнігі «Ў капцюрох ГПУ» ўсё ж трапіў на Салаўкі. Згадаў я пра гэты факт таму, што арганізаваў і праводзіў збор подпісаў менавіта сам класік.

Паводзіў адноса смела сябе класік і ў 1930-х, калі гэта было ўжо сапраўды небяспечна для жыцця. Аўген Калубовіч у сваіх успамінах "Якуб Колас і Янка Купала" згадвае эпізод з Адамам Багдановічам, бацькам Максіма Багдановіча, які звярнуўся па-дапамогу ў Народны Камісарыят Асветы. Вядомы навуковец атрымліваў ад урада БССР персанальную пенсію, якую скасавалі ў канцы 1920-х гадоў у сувязі з тым, што яго сын быў прызнаны «буржуазным» паэтам. Амаль усе трыццатыя стары так-сяк перабіваўся, і толькі дзякуючы сумеснаму хадатайніцтву Саюза пісьменнікаў, які ў той час узначальваў Міхась Лынькоў, і Акадэміі Навук, віцэ-прэзыдэнтам якой быў Якуб Колас, пенсія для бацькі славутага паэта была аднаўлена...

Кажуць, што дэбютная кніга — гэта візітоўка, праграма на будучыню, у якой аўтар закладвае асновы сваёй будучай творчасці. У першым зборніку вершаў «Песні жальбы» Якуба Коласа мы знойдзем тэмы, пра якія казаў аўтар на працягу свайго няпростага шляху ў класікі.

**Канстанцін Касяк,**
**«Будзьма беларусамі!»**

# Перад Купалам

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

**Перад Купалам пачуваюся вінаватай.**



У сваёй выкладчыцкай працы мела няпростую мэту: знішчыць у свядомасці студэнтаў стэрэатыпы-штампы, навязаныя школай. А іх безліч. Пра прасты беларускі народ, які жыў у галоце і быў вызвалены. Пра тое, як быў «вызвалены». Пра тое, што ў беларускай літаратуры тры зоркі: першай велічыні — Купала, другой — Колас, трэцяй — Багдановіч. Ды яшчэ з урачыста-пафасным запевам: «На небасхіле беларускай паэзіі...»

Так яны пачыналі свае адказы на ўступных экзаменах. «Ніякіх першых-другіх-трэціх! — даводзіла з першае лекцыі. — Усе яны — вялікія і роўнавялікія. Усе класікі. Кожны адметны. Як і іншыя класікі». Імкнулася, каб мае студэнты любілі іх усіх. А сама больш любіла Максіма. Бо такі незвычайны, бо такое ў нашу паэзію прынёс, бо такое на нашу глебу перасадзіў!... Наша імкненне да красы вечнае, да формаў выкшталцоных, да пачуццяў, што аж да неба ўзнятыя, у зоркі ўвасобленыя, Максім Багдановіч задаволіў на стагоддзі.

А лёс які! Калі б хто з маіх студэнтаў не плакаў (хаваў слёзы), калі расказвала пра лёс Страцім-Лебедзя, пра сыход Марылькі, лічыла б гэта прафесійнай паразай. Сама слёзы хавала.

Таму і вінаватай пачуваюся, што да значна больш трагічнага Купалы такіх пачуццяў выклікаць была не здольна. А ён жа быў маёй першай вялікай літаратурнай любоўю. Ад самага ранняга дзяцінства. Ад сцюжных зімовых вечароў, калі плакала па Бандароўне, па Гусляру, калі лятала да неба разам з Алесяй. А ў бабулі-зёлачніцы бачыла сваю бабулю Вольгу.

Трагедыя Купалы ў тым, што ён застаўся жыць. Што выжыў у пачатку 1920-ага, перанёсшы тры аперацыі, некалькі месяцаў правёўшы ў шпіталі. Якім бы Паэтам ён застаўся, каб не выжыў! Дзікунства, але факт: гэта шчасце, што Багдановіч памёр вясною 1917-ага. Бо дзе б ён быў 15—17 снежня таго ж года? На 1-ым Усебеларускім Кангрэсе. Няўжо хто сумнявацца? Дзе быў бы 25 сакавіка 1918-ага? Жахліва ўявіць, што было б, каб дажыў да 30-ых. Самае «гуманнае», што ўяўляецца — аналаг лёсу Уладзіміра Жылкі. Тыя ж сухоты. Гаворачы пра гэта, цытавала студэнтам верш Людмілы Рублеўскай:

*Бядуем: смерць —*
*зладзюга...*
*Не! Яна*
*Была тваёй збавіцелькай,*
*магчыма, —*
*Адных хрысціла вязніцы сцяна,*
*Другіх Сібір ад розуму лячыла.*

Тое ж пра нашу Алаізу Пашкевіч. Дазволю тут самацытаванне з першае свае кнігі «Іду па слядах»: «Снежань, 1917 год. Калі б Цётка дажыла да гэтага часу, а ёй не хапіла меней года, то ніякія доказы яе рэвалюцыйнасці не дапамаглі б ёй застацца ў беларускай літаратуры ў савецкія часы. Бо ўсё, што звязана з арганізацыяй і працай 1-ага Усебеларускага кангрэса, замоўчвалася так надзейна, што цэлыя пакаленні беларусаў нічога не ведалі нават пра гэты сапраўды народны Вялікі Сход.

...Яна, паплечніца Луцкевічаў, Вацлава Іваноўскага, бачыцца мне ў прэзідыуме з'езда. Калі б я не ведала, што на той час яе ўжо не было, то ў вобразе гераіні апавядання Максіма Гарэцкага «1-ы Усебеларускі з'езд 1917 года» ўяўляла б яе — беларуску, патрыётку, палітычную дзяячку, якая так палымяна агітуе за вольную Беларусь, з якое пасля чыняць здзек бальшавіцкія каты. Удзел у гэтым з'ездзе — найпершы доказ варожасці да савецкай улады, што не даруўвалася».

Вось жа, і Максім Багдановіч, і Алаіза Пашкевіч, напэўна, раздзялілі б лёс Алеся Гаруна, Максіма Гарэцкага, Вацлава Ластоўскага і іншых нацыяналістых (чытай — вялікіх патрыётаў), хто памерці не паспеў. І былі б яны выкінутыя, схаваныя ад вачэй беларускіх у тых сховах, з якіх частку твораў Гарэцкага крыху раней вызвалілі, Гаруна, Ластоўскага вельмі позна. «Прабыў у немаце ўдвая болей, чым ён пражыў на свеце», — Васіль Быкаў пра Алеся Гаруна. Пра Багдановіча трэба было б напісаць — утрая. Уявіць немагчыма, што школьныя і студэнцкія гады маглі б прайсці без вершаў Багдановіча. Неба ведае, што робіць.

Купала быў пакінуты «няпоўны», правільны. І яго вяртаць давялося. Асабліва скрушна з-за «Тутэйшых».

Не была безумоўнай апалагеткай Купалы, не прыхарошвала класіка. Пра характар ягоны няпросты казала. Эпіграму Багдановіча чытала. Плямы на сонцы бачыла, пра што сведчыць артыкул «Ці з-пад Купалавага крыла?» (у кнізе «Пра творы і творцаў»). Пра мастацкія недахопы ранніх вершаў казала. Але ніколі не ўсумнілася, што Купала вялікі. Як і вялікая трагедыя ягонага жыцця, ягоных песняў-думаў, што былі ўсё ж скаваныя ланцугамі.

«Вінаваты» Купала, што ў 1930-ым рука ягоная, аслабелая, хакіры выканаць як належыць не здолела. Не нашая традыцыя. Хай нават хтосьці блазнуе, быццам не збіраўся Купала сябе насамрэч забіваць. Хай той скажа, хто жыў у тым часе і зведаў жах смерці. Думаючы пра ягонае самагубства, згадваю спробу самагубства Сама, героя паэмы «Сон на кургане». Вар'ятка, што поўніцца нянавісцю да яго, кідае сякерай, каб забіць. Сякера пераразае пятлю, што ўжо накінута на шыю героя. Якім чынам лёс не даў магчымасці зацягнуцца ягонай вяроўцы перад вар'яцкімі 30-ымі? Што б ні было, не дзеля таго, каб тымі 30-ымі яго сёння ўпікалі. Гэта калі лёс міласэрны. А беларускі лёс міласэрным да беларусаў бывае рэдка. То мо беларусы разумнейшымі быць павінны?

І не было б тады таго, што з паэтам сталася ў страшныя 30-ыя гады. Заўсёды, пра той злавесны час расказваючы, чытала верш Рыгора Барадуліна «Чакалі». Вельмі дарагі мне верш. І таму, што атрымала яго калісьці даўно ад майго незабыўнага Настаўніка Івана Якаўлевіча Лепешава. На друкарцы аддрукаваў, падпісаў, прынёс: «Вам спатрэбіцца...» Ніхто так трагедыю лёсу творцы ў паэзіі не асэнсаваў, як перадапошні Народны паэт.

Купала вялікі. Згадаем, як ён у далёкія часы ўбачыў свет, дзе пануе нявоЛя. Тая ж паэма «Сон на кургане». У цэнтры такога свету — Чорны, што моцаю нялюдскай трымаецца, усё ў сваіх руках трымае. Трымае скарб, які так вабіць Сама — адзінотніка. Дык чаму ж ён адзін? А дзе ж людзі, для якіх той скарб шукае? І пра людзей Купала гаворыць з болем:

*Людзі!.. Што людзі?*
*Ці ёсць дзе між іх*
*Годны адзін хоць у людзі:*
*Мутасцю, трупам нясе ад усіх,*
*Пошасцей поўныя грудзі.*

Затое Чорны не адзін. Яму верна служаць ведзьмы, якім кідае залатоўкі. Служаць, бо плацяць. Ведаюць: «Цемра тут закон і права». З пятлёю на шыі таварышы ведзьмаў, і вырвацца з гэтай пятлі няздольны. І ўся гэта злачынная хеўра нябачная герою. Ён перад ёю безабаронны.

Не дзеля сябе шукаў Купалаў Сам скарб, дзеля таго, каб змяніць свет і чалавека ў ім:

*Скарб дастаць мушу я гэты;*
*Ласкай павее тады ад людзей,*
*Неба і цэлага свету.*

Хіба не той жа скарб шукаў і сам Купала? Хіба гэта не мара Купалы? Але калі чорныя сілы цалкам запанавалі ў Краі, усіх ператварыўшы ў сваіх слугаў, то што хацець ад песняра? Ён сваю місію выканаў. «Зваў з путаў на свабоду», як мог, калі мог. Ці быў пачутым?

Перад Купалам пачуваюся вінаватай. І за няўдалую спробу абараніць, якая, на жаль, была ўспрынята як жаданне кагосьці абразіць, пакрыўдзіць. Нават ворагаў сваіх, якіх не маю, крыўдзіць ніколі не жадала. Дрэнны я адвакат.

Ды Купалу адвакат непатрэбны. Бо колькі адведзена нам, беларусам, у гэтым свеце, столькі Ягонае Слова будзе пра нас казаць іншым. І да волі клікаць.

# Прыкладнае літаратурнае меню на тыдзень

Аксана СПРЫНЧАН

### Панядзелак

**Сняданак** «Пяць лыжак заціркі» Змітрака Бядулі
«Чай з мятай, цыгарэта з ментолам» Сяргея Верацілы
**Полудзень** «Смачны заяц» Максіма Гарэцкага
**Падвячорак** «Апельсіны» Пімена Панчанкі
**Вячэра** «Бульба» Леаніда Дайнекі
**Начны перакус** «Лёгкі хлеб» Хрысціны Лялько

### Аўторак

**Сняданак** «Грэцкі арэх» Уладзіслава Рубанава
«Як мяне частавалі мёдам» Васіля Хомчанкі
«На гарбату» Леры Сом
**Полудзень** «Мяса і скрыпка» Леаніда Дранько-Майсюка
«Кавалак хлеба» Міхася Лынькова
**Падвячорак** «Маліны» Алены Васілевіч
**Вячэра** «Свята пірага» Яўгеніі Янішчыц
**Начны перакус** «Не пі густога чаю» Кузьмы Чорнага

### Серада

**Сняданак** «Велікодныя яйкі» Змітрака Бядулі
«Соль» Барыса Сачанкі
«Гарбата з незабудак» Касі Сянкевіч
**Полудзень** «Сябра з каўбасой» Вацлава Ластоўскага
**Падвячорак** «Антонаўкі бубняць» Уладзіміра Караткевіча
**Вячэра** «Сала» Віктара Шніпа
**Начны перакус** «Чарнічка» Максіма Гарэцкага

### Чацвер

**Сняданак** «Рыба і іншыя» Уладзіміра Арлова
**Полудзень** «Юшка з заечай капусты» Алеся Наварыча
«Салодкія карасі» Паўла Місько
«Кавалачак хлеба» Івана Грамовіча
**Падвячорак** «Траска» Алеся Аркуша
**Вячэра** «Рыба» Віктара Шніпа
**Начны перакус** «Кропля малака» Міхася Лынькова

### Пятніца

**Сняданак** «Салата для гурмана. Думкі пад маянэзам ветру» Зміцера Вішнёва
«Балада пра соль» Леаніда Дайнекі
«Гарбата з мёдам і мялісай» Касі Дземянчук
**Полудзень** «Замак пабудаваны з крапівы» Змітра Вішнёва
«Хлеб» Барыса Сачанкі
**Падвячорак** «Яблычны пах цішыні» Фелікса Баторына
**Вячэра** «Вячэра з відам на «Дынама» Усевалада Сцебуракі
«Заяц варыць піва» Уладзімера Караткевіча
**Начны перакус** «Пасцель, залітая віном» Валянціны Аксак

### Субота

**Сняданак** «Лаўлюся на каву і цыгарэты» Леры Сом
**Полудзень** «Свае блінцы» Цішкі Гартнага
**Падвячорак** «Грушы» Усевалада Гарачкі
**Вячэра** «Віно сэнсу» Тацяны Барысюк
«Лімончыкам закусвай» Анатоля Зэкава
**Начны перакус** «Вінны яблык» Евы Вежнавец
«Хлеб свой пускай па вадзе» Сяргея Календы

### Нядзеля

**Сняданак** «Аперацыя «Яечня» Людмілы Паўлікавай-Хейдаравай
«Кава на дарожку» Паўла Касцюкевіча
**Полудзень** «Сумны суп» Вольгі Гапеевай
«Хлебныя словы» Пімена Панчанкі
**Падвячорак** «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» Уладзіміра Някляева
**Вячэра** «Шляхам бульбы» Рыгора Барадуліна
«Сухое віно» Анатоля Зэкава
«Я п'ю адзін чырвонае віно» Анатоля Сыса
**Начны перакус** «Рэквіем па нясвіжскім сале» Уладзіміра Арлова
«Жбан і вада» Віктара Слінкі

# У мастацкім святле Васіля Зуёнка

### Знайшоўся

Чытаю: *«Я ў гэтым горадзе згубіўся, не адшукае нават Бог»*. Дык знайшоўся ў боскім святле сваёй памяці, у любові і болю.

Адкрываю для сябе знаёмага і незнаёмага паэта ў мастацкім калейдаскопе вобразаў. У філасофскіх думках. У чалавечых і грамадзянскіх абгрунтаваннях светапогляду — у кнізе «Азірнуўшыся, не скамянець...».

Ён ужо згадаў, па-новаму разгледзеў жыццё. Зазірнуў у далёка пражытае дзяцінства — яго рэкі, дрэвы, нівы, сцежкі, ночы, сны, крыўды, забавы — і ўразіўся: *«Рэкі мялеюць, дрэвы ніжэюць, нівы вузеюць, сцежкі карацеюць, ночы даўжэюць, сны гарчэюць, крыўды смяшнеюць, забавы слязнеюць... Што ж гэта, што ж гэта робіцца, брацы? Куды ад такой навалы схавацца?»*.

Але ўсё роўна тчэ «Фантазію», у якой кажа: *«Стракозы з вачыма касмічнымі... шэпчуць мне нешта крэўнае наборамі храмасом, і з глыбіні падкарэннае мой лёс выплывае, як сом»*.

### На Неба глядзі...

І я зазірну ў мастацкае святло Васіля Зуёнка. Верш ягоны думна наструнены, метафарычна нагрэты і часта бярэ за розум і душу. Ён то кароткі, то разважальна-працяглы, як, да прыкладу, «Касмічная вестка», «Адкуль прыводзіць сонечны заход...», «Апранулі ў апошняе маму», «Не дай мне, Бог, духоўным стаць бадзягам», «Гляджу я ў зорны сусвет», «Малітва адзінства», «З цішынёй сусветнай ва ўнісон» і іншыя.

Вось «Тры вышыні» —тры сілы лесу згадаў паэт: *«з камлёў — сталёвая... Другая — песняй звонкай пасярэдзіне...»* І трэцяя, што

*Ля аблок у гойданцы зялёнай —*
*Жыцця пачаткі*
*правяць цуд штодзённы...*

Дык другая сіла праяўлялася песняй:

*З балоняў*
*звонкія цымбалы выразалі,*
*Ўзляталі думкай да вяршынь паэты*
*Пазнаць*
*імгнення і жыцця сакрэты...*

*«Такім я знаў цябе, —* кажа паэт пра лес, *— і тут жахнуўся: не ўцяміў, дзе я... І глуха так чаму пяюць цымбалы? Чаму ў паэтаў паніжэлі думы? Не вырвуцца ніяк з пустога тлуму»*.

У вобразным разважанні над вечным пытаннем ён прыходзіць да высновы: *«Чалавек — гэта літара космасу, іерогліф, таемны знак»*.

*Зямля — як пясчынка,*
*А боль галактычны...*

Пры зямлі:*«Я самотным, сінім агнём па карчах збуцьвелых качуся. У маіх балотных вачах прачытаюць паданні сусвету»*.

«Над светам паглумным» паэт думае:

*Як гэта горка і страшна, калі*
*Свае сваіх забіваюць.*
*А мы ж тут усе свае — на зямлі:*
*У Бога чужых не бывае.*

Страшна без духоўнага неба.

Па часе напісання вершаў выяўляю, што паэт даўно датыкальны да таямнічнага пытання. Нават уніклівы ў яго. Часта герой верша прадчувае вышэйшы пачатак. Але для яго Бог — невядомасць: «Вечны вораг мой. Яго ствараю і яго звяргаю. Бясконцы з ім і ўсеадольны бой...». Самаўпэўнена гучаць словы: «Я знаю Бога...» Герой застаецца «сонечным паганцам», моліцца «ўсясільнай працы, хлебу будзе на стале, рукам мазольным». І далей будзе малітва агню, «богу лясному», «палевіку» і г. д. Адно адчуваецца — не створыць пакору багам, якіх «заўжды на свеце многа, бо чалавекам быць цяжэй». Выразна бачыць — «мы выраслі багамі на планеце». Гэта ёсць першы накірунак думкі паэта: **чалавек** стварае неба. І разбурае. І нябеснае, і зямное.

І прырода выступае як вышэйшае Адзінства. У вершы «Дала прырода мне» герой адчувае творчую моц у сабе.

*«Я сэнс вышынь лаўлю, ствараю неба...»* І далей: *«Дайце неба — я ствару зямлю, і пойдзе ўсё зваротнымі кругамі»*.

Ад пачатку маналогу герой трымаецца думкі: *«Дала прырода мне...»* і, нават, *«высокі дух»*. А герой што зрабіў?

*«А я стварыў Багоў — я неба прагну»*. І ясна, што такія багі не мелі адносін да Неба.

*Я шмат чаго тады не разумеў,*
*Як і цяпер, бадай, не разумею.*

Другі накірунак — філасофскае **дапушчэнне існасці Тварца** *(«і крышачку ў бяссмерце верыць»)*. З таго гледжання, што Тварэц — адказны за свой твор, герой верша дакор Яму ўпёк:

*Ратуй нас, Божа правы...*
*Як слова і як песню, —*
*Ратуй, калі ты — Бог.*

Ці, напрыклад:

*Любіць Бог, — любімых асабліва.*

Найбольшая вераўпэўненасць героя праяўляецца ў наступных радках:

*Не бойся жыцця: гэта выява Бога.*
*Не бойся і смерці: гэта таксама Бог.*
*Жыццё і смерць —*
*з нічога няма нічога.*
*А звыш — гэта ўсё,*
*каб ты Богам зрабіцца не змог.*

У другім радку мая думка раздвайваецца. Але аўтар мае на ўвазе: «Не бойся непазбежнасці, бо гаспадарыць Бог».

Дык у мяне гэтая тэма вымалёўваецца па-свойму:

*Дзяч за жыццё! — Гэта дарунак Бога.*
*Не бойся смерці, калі ў душы ёсць Бог.*
*І крэслі смела свой сэнс «нічога»,*
*Каб сэнсам веры зло перамог.*

Паэт азірнуўся: «Я ў сваіх універсітэтах не спазнаў да неба шляхоў».

І ўздрыгнула думка, і ўзнік **трэці** яе накірунак:

*Памяць ідзе. І ніколі храм не збудую я...*
*Са мною той, зруйнаваны,*
*Дзе ксцілі матуся й татусь,*
*Каб вольны, абрабаваны*
*Быў я, як ты, Беларусь...*

І выступае наперад пытанне: «Дакуль жа, дакуль мы, людзі, у перакуленым свеце дзяліць адзінага бога будзем?

*Бог адзін і Сусвет адзін —*
*Без нашых высноў,*
*Без нашых прычын.*

І вось якая, урэшце, прасветлая думка закладзена ў верш: *«Сказаць хачу — як свет мне ў слове адкрыўся. Да Бога спрадвеку толькі на «Ты». Ніхто на «Вы» не звяртаецца»*. І боская сіла ў паэце крылата цягне ў духоўную вышыню. Лірычны герой гэта адчувае і раіць: *«А на неба, стаіўшы дыханне, глядзі, каб не разбілася»*. Каб не страціць дух творчага памкнення. Напэўна і нейкай здагадкі. Аднак Бог у яго зямной свядомасці не проста нябачнасць. Ён — невядомасць. **Дух Прыроды.** Усеагульнай. А мне думаецца — скіраваны да нас. У чалавеку — Святлом. Ад Яго — дух прыроды чалавечай. Нам дадзена адчуць Яго. Захаваць. Ім жа ўдасканаліцца. І*«перамагчы сілай духу коснасць матэрыі»*.

### «На полі, як сусвет...»

У сёняшнім дні быць паэтам... які паказ? Якое пытанне? Які адказ жывой душы, нястрачанага духу любові? Я — там, дзе збываецца Чалавек, «замкнуты ў гэты светлы круг, дзе памяць грэшная і полымя святое».

Гледзячы ў «грэшную памяць», выяўляе, што «згублены арыенціры, зруйнаваны ідэалы». Як азірнешся, не толькі не злякнуцца можна... «Распяты на ценях касмічных крыжоў, бяздомны лячу над планетай». І, здаецца, прасіў бы: «Вазьміце ўсю тайну маю за той васілёчак у жыце...» і «скажыце мне, з якой нагоды мяне хрысцілі тут валадаром?», калі і «храмы падаюць», і «не раптоўна, «мы найперш учыняем катоўні ім, каб сэрцы былі забыты... Храмы ў душах руйнуюцца нашых». Згуба Бога, згуба прыроды, згуба песні, згуба Радзімы ад згубы мовы; і «Чарнобыль вестку касмічнай стаў каля расчыненых дзвярэй». Што яшчэ можа быць? А мы ўсё «бяжым, аж звініць капыт на д'ябальскім павароце...»

«Фантазій бог і помыслаў высокіх спусціўся з неба» для «развагі сілы» і крынічнасці душы чалавека, але прайшоў у часе тапор «для прагрэсу апор і падпор... наваліўся тапор на лес... лес непраходны, лес непрабудны... блізка, блізка дзень яго судны...».

Адчай цнецца з душы паэта (верш «Агонь»). А ўсё ж не страцім веры ў чалавечнасць:

*Згарае ўсё. І мы згарым таксама...*
*Мы выраслі багамі на планеце.*
*Нясем у вечнасць розуму сяўню.*
*І ўсё ж, і ўсё ж памолімся агню,*
*Каб ён людзьмі пакінуў нас на свеце.*

Мала малітвы. Дык як змагацца за гэта на грэшнай зямлі?

Тэма барацьбы за волю раскрыта ў «Развітанні Каліноўскага». Ясна, балюча і мужна кажа герой: «Страшней пятлі і турмы, калі мы ўсё яшчэ не краіна...» І ў вершы «Зарука» пра мову:

*Ты сонцам душу абагрэла,*
*Адвечнае слова...*
*Не будзь ж, не будзь іншаверцам*
*На родным прычале,*
*Паўстань, паўстань, маё сэрца,*
*З пустыні маўчання!*

Столькі ў кнізе разнабаковых думак, столькі адценняў у настроі душы паэта-чалавека і грамадзяніна. Ён — «на полі, як сусвет», дзе віецца, «як загадка, лёс», сцежка ў памяць:

*Адкуль, сцяжынка, і куды бяжыш —*
*Ніхто не знае і не скажа мне...*

Але паэт хоча, каб стаў (і ўпэўнены, што будзе жыць) «вось гэты васілёчак на мяжы». Бо ён — любоў. Вечнае, боскае і святое панясце.

### ...Ці цуднае нешта ў воку

У сваім слове пра кнігу я ўсё глядзела ў чалавеча-грамадзянскае заглыбленне яе аўтара: у смутак, у трывогу, у дбайнасць пра памяць. А ў ёй жа столькі ласкавых радкоў: «травінкі ў лёдзе», «лістапад-прадзімнік», «імгліцы сонечныя скрылёк», «перапёлка ў жыце, знічка Беларусі», «космасу лясного спевы». Выявы: «вясёлкай пушча стракаціць», «у зябкім голасе сініцы трапеча сіні васілёк». Весялінка-ўсмешка: «Кот валачэ на штыкетнік праверыць зляжалы кажух». А ў мядовым звоне, дзе «ў сто вясёлак лугавіна», сам паэт ужо гатоў ляцець: «Вось зараз рукі лёгка ўскіну — чмялём па кветках палячу». Застаецца і мне сказаць у такім настроі:

*У гэткім суквецці вершаў,*
*Дзе сэрца стог думак вершыць*
*Ці цуднае нешта ў вока*
*Кідае на кожным кроку,*
*У кнізе гэтай, у кнізе гэтай*
*Шуміць паэзія лета.*

### Калі загараецца агонь...

У «Пяцірэччы» (фрагментах пяціпаэм'я) Васіль Зуёнак, напэўна, вяртаўся абноўленай думкай праз 15 гадоў. Да іх варта вярнуцца і чытачу.

«Пяцірэчча» — моцна хвалюючы вынік творчай працы. Гэта рэкі думак з «Лукам'я», «Сялібы», «Прыцягнення», «Маўчання травы», «Падарожжа вакол двара». Тут прайшоў паэтаў агонь — сцвярджэнне працы святога духу: («Завіхаўся Хрыстос да поту...»). Агонь радасці вяртання, агонь годнасці, патрыятызму і вернасці бацькаваму запавету ў княжычы Іване («Служба кароне — пятлёю на шыю, роднаму краю на грудзі — гарой»). Агонь у голасе летапісца:

*Не каронай кароннай*
*Быў асвечан прыход —*
*Сам узняўся ты кронай,*
*Векавечны народ.*

І агонь вясны, агонь купальскі, агонь ахоўны, у які верыла і Данута («несла пагантва апошні дух і перадала...»), Стася («агонь узмахам лёгкім прыгарнула») і Жыжаль.

Агонь сонечны і духоўны жывіць. Агонь зямны, часам, знішчальны. Але агонь, калі ён успыхнуў, «не згіне — пройдзе праз вякі».

«Сялібай» паэт сказаў: «І паміраюць ціхія рачулкі... Ляжаць пазааранымі магілы... Сняцца рэкам крыніцы, крыніцам лясы».

У «Прыцягненні» выразніцца натхнёны матыў: «Я ляцеў, каб з роднаю зямлёй нітаваўся вырай твой высокі».

У «Маўчанні травы» зіхаціць роднасць, памяць пра вясновы «зялёны народ», яго працу, ад якой «цяклі зялёнымі ручаямі, па Начы кветкаломныя пракосы». Узносіцца хата на крыжах... дзе «ў цямнотах курганоў ляжаць зерні дум, пасеяных табою, Веснагорка, маці Беларусь». «Падарожжа вакол двара» дае выяву Радзімы праз маці: «А што мне ўзяць з двара гэтага ў свет? На жоўтым пясочку мамін след».

Як бачым, у творчасці Васіля Зуёнка, і ў лірычна-філасофскай, і ў грамадзянскай скіраванасці, ярка высвечваецца тэматыка: «Чалавек і яго ўнутраны свет», «Чалавек і прырода», «Чалавек і грамадства». Паэт глыбока асэнсоўвае і асвятляе наш маральна-этычны стан у сёняшнім дні, суадносіць з гістарычным мінулым, гераічным і трагічным. Выяўна бачыць пашкоджанасць чалавечай прыроды. Ён іскрыцца майстэрствам у адлюстраванні рэчаіснасці, вызначаецца творчай шчырасцю — выводзіць сваю трывожную душу наверх.

**Марыя БАРАВІК**

# На сваёй арбіце

**Кожны сапраўдны паэт піша сваю неардынарную, можна нават сказаць, мастацкую біяграфію, — і сваім жыццём, і сваёй творчасцю.**

Тут ад пачатку прысутнічае іх непарыўнасць і знітаванасць. Адно дапаўняе другое. Важна толькі, каб у гэтым арганічным і гарманічным механізме нішто не абвяргала папярэдняга і не адвяргала наступнага. Таму паэт, як творчая натура, павінен трымацца цэльнасці і змагацца са сваімі ўнутранымі катаклізмамі сам-насам, выносячы на публіку толькі выніковы рахунак гэтага змагання — мастацкі твор. Нешта блізкае да сказанага я бачу ў натуры паэта Ігара Канановіча, які на трыццаць другім годзе жыцця нарэшце выйшаў да чытача са сваёй дэбютнай кніжкай «Астэроід» (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка», «Кнігазбор», 2015). Прызнаем, даволі ўдалая (не правінцыйная) назва зборніка, бо ў абшарах беларускага літаратурнага працэсу малады паэт, напраўду, бачыцца (і важна, што сам сябе бачыць і ўяўляе) гэткай, няхай і невялікай, але самастойнай паэтычнай планетай у нашым сучасным літаратурным планетарыі — своеасаблівым астэроідам:

*Хай вабяць зноў магутных зорак галасы —*
*Не даспадобы мне сістэм трывалых межы.*
*Я — астэроід. Я — Сусвету блудны сын.*
*Я ў вечным пошуку. Жыву, а не залежу.*

Прызнаюся, што трохі ведаю свайго клецкага земляка. На самым пачатку 1960-х яго бабуля, маладая прыгожая настаўніца Драбаўшчынскай васьмігодкі Вера Мікалаеўна Турко, вучыла мяне гістарычнай грамаце. Яе ўнук Ігар, хоць і нарадзіўся ў Клецку, вучыўся ў Заастравецкай СШ, пасля скančэння якой шмат дзе працаваў, у тым ліку і на прадпрыемстве па вырабе надмагільных помнікаў (яшчэ тое месца для паэтаў). Пасля завочнага сканчэння філфака БДУ настаўнічаў у глухаватай лясной вёсцы Карацак... Як чалавек збольшага абазнаны ў жыцці паэта, магу сцвярджаць, што пустымі словамі ён не раскідваецца. Гэта яшчэ малады, хара́ктарны, часам неардынарны чалавек, правінцыйны па нараджэнні, але урбаністычны па духу. Папрацаваўшы настаўнікам, ён нечакана пераязджае ў сталіцу і ўладкоўваецца грузчыкам у краму (яшчэ адно паэтычнае месца)... Ну як тут не паверыш аўтарскай шчырасці:

*Цяжка быць*
*«стопудовым паэтам».*
*Знешне*
*ганаровая місія.*
*А насамрэч —*
*адчуваецца кожны пуд,*
*і кожны пуд*
*налягае па-свойму...*



І. Кананович з таго пакалення, якое пачынала першыя школьныя і ўвогуле свядомыя крокі ў жыцці з гістарычнай нацыянальнай сімволікай у сэрцы. Ён з тых бел-чырвона-белых беларусаў, якія не сталі імі з прычыны пэўнай палітычнай сітуацыі, а імі нарадзіліся. Таму пературбацыі ў палітычным і грамадскім жыцці краіны турбуюць яго не менш, чым уласныя нягоды. Тут яго дыдактычны патрыятызм, а часам і здаровы нацыяналістычны запал вельмі адчувальныя і нават візуальна прасочваюцца ў некаторых эмацыйных вершаваных радках. Як вось у гэтых:

*Грамадства беларускага пяхота!*
*Я рады, што ў табе цяпер служу!*

Калі б І. Канановіч і не выдаваў сваю прыхільнасць да паэзіі П. Панчанкі эпіграфічнай цытацыяй радкоў слыннага паэта, усё адно тыя, хто цікавяцца беларускай паэзіяй, гэта ўлавілі б інтуітыўна. Як мне падалося, яму блізкая паэтыка і А. Сербантовіча, і А. Брусевіча. Эмацыйная напорыстасць, мэтавая самаўпэўненасць і чалавечы да нацыянальны гонар — вось асноўныя складнікі паэтычных натур гэтых паэтаў, і І. Канановіча ў тым ліку. Валявая экспрэсіўнасць робіць яго радкі не так ваяўнічымі, як годна-незалежнымі і гатовымі да адпаведнага адпору пры любым замаху на яго ідэйны і духоўны суверэнітэт... Праўда, частыя простанародныя звароты ў радках выглядаюць нейк па-хлапечы і зыркаюць з вершаваных радкоў, як вулічная вясковая шпана з-за плоту: «Ат!», «Гэ!», «Э, не...» і да т. п. Падчас паэту не хапае поўніцы метафарычнага дыхання на ўсю страфу, і тады ў вершы трапляюць выпадкова прыцягнутыя словы і радкі, відочна выяўляецца працэс ненатуральнасці і збою...

А паэзія — самая тонкая матэрыя літаратурнай творчасці. Між тым, ведаючы гэта, І. Канановіч іншым разам свядома «накачвае мышачную сістэму верша», абцяжарвае, загастрае дзеля абвастрэння моманту, надае рытміцы і тропам «жалезнай» цвёрдасці і баявітасці. Калі ў патрыятычна-публіцыстычнай лірыцы гэта пэўным чынам разумеецца і адпаведна ўспрымаецца, то ў лірычных вершах падобны стыль агаляе перад чытачом не толькі душу паэта, але і яго паэтычнае тварэнне. Прападае таямнічасць мастацтва. І гэта не заўсёды на карысць творчаму плёну. Аднак сумленнасць і беззаганнасць аўтарскай пазіцыі робяць чытача сумоўнікам нацыянальных і іншых ідэйных пасылаў паэта. Скажам, у вершы «Гучы!» праблематыка моўнага пытання выяўлена, на першы погляд, прасталінейна, але вельмі годна і дабротна. Пры чытанні верш, як мембрана, выклікае пачуццёвы водгук душы. Дзеля прыкладу можна працытаваць і яго «Беларускую аўтаэпітафію»:

*Спадзяюся, па смерці не будзе бязмежна суровы*
*Найвышэйшы прысуд, хоць ахвотна і часта грашыў.*
*Бо ў краіне трасянкі і дрэннай расейскае мовы*
*Я спяліў Беларусь у пякучай, зацятай душы...*

Трэба аддаць належнае І. Канановічу, ён ідзе на такую публіцыстычнасць свядома ў безвыходных сітуацыях, калі маўчаць ужо немагчыма, а дзесяць пакуль няма як, таму, ведаючы гэта, у іншых творах ён паказвае чытачу і свой мастацкі — метафарычны — узровень, скажам, як гэта ўдалося выявіць яму ў вершы «Дысідэнт»:

*Запалка*
*расплавіла снег.*
*А да вясны далёка.*

І каб неяк ужо завяршыць тэму нацыянальнага патрыятызма і беларускай годнасці («людзьмі звацца»), якая ў асноўным пануе ў першым раздзеле зборніка, варта пазначыць паэтычную самавітасць і самабытнасць І. Канановіча, якія з'яўляюцца асновай яго адмысловага таленту. А пожад і выпрабаванне сур'ёзнай тэматыкай — добры знак для далейшай творчай працы і літаратурнага плёну. Напраўду ж, такія строфы патрабуюць крыві і сэрца:

*Высокай шчыльнасці хаўрус —*
*Як лучнасць полымя і дыму:*
*Радзіма цела — Беларусь,*
*Паэзія — душы Радзіма.*

Адным словам, спадзеючыся на паразумелае стаўленне аўтара да маіх крытычных (зямляцкіх) заўваг, адзначу яго выразны паэтычны талент, які прагне ўдасканалення. І гэта не той выпадак, што адбыўся, да прыкладу, са мной, калі можна спасылацца на вядомае выслоўе: «хлопца з вёскі выцягнуць можна, але вёску з хлопца наўрад ці выцягнеш»... У дадзеным выпадку іншы каленкор, тут хлопец, скажам так, сам адтуль выцягваецца... І яго прага да сур'ёзнай тэматыкі — добры знак для далейшай творчасці.

Вышэй ішла гаворка ў асноўным пра вершы з першага раздзелу зборніка. А іх у кніжцы — тры. У першым — як вы ўжо зразумелі — творы патрыятычна-грамадзянскай тэматыкі, у другім — лірыка кахання, у трэцім — вольныя вершы, пераважна верлібры, натуральна схопленыя на ляту і тут жа занатаваныя іскрынкі аўтарскага натхнення...

У раздзеле «На арбіце тваёй» (парады і дэмаршы кахання) паэт сабраў усю сваю гарачую пачуццёвую экспрэсію і адчужана-раўнівы холад мужчынскага мыслення.

Цікава было прасачыць, як змяніўся (і ці змяніўся ўвогуле) стылёвы падыход у вырашэнні разнапланавай тэматыкі — вершаў грамадзянскага гучання і лірыкі кахання. Сам стрыжань упартасці, нескаронасці і дамагання мэты (не паступацца прынцыпамі) застаўся, але стаў больш падатлівым, гібкім і адчувальным да сітуацыі.

Паэт стаў браць значна вышэйшыя акорды... Аднак да сентыментальнасці не апусціўся. Праўда, сярод пэўнай эклектыкі пачала прарэзвацца прымірэнча-цёплая і ў меру дасціпная іронія («Дзве кулі», «Джэнтльменскае пагадненне»). Больш трапна тое атрымалася ў вершы «На спатканне»:

*Мае справы*
*скончаныя —*
*кахаю русалку.*
*Начапіўшы на шыю*
*камень тугі,*
*кідаюся*
*ў бела-блакітную глыбіню*
*Інтэрнэт-возера:*
*пабачымся*
*недзе на дне!*

І ўсё ж, як бачыцца збоку, не ўсе вершы трэба было ўключаць у зборнік. Вядома, ён тады выглядаў бы не такім мажным, затое быў бы эстэтычна танчэйшым і больш чытэльна-заманлівым. Да таго ж, у чарговы раз звяртаючыся да сваёй каханай, аўтарам было загадзя дадзена «Смелае абяцанне»:

*Я замалю твае грахі*
*Выдатным паэтычным сола.*
*І слову столькі дам вагі,*
*Што нават гук часціцы кволы*
*Набудзе гонар, глыбіню,*
*Набудзе бляск і хваляванне...*

Варта адцеміць, што менавіта ў гэтых лірычных вершах (пераважна на тэму кахання) найбольш адчувальныя бардаўскія матывы, што І. Канановіч не асабліва й хавае. Дарэчы, ён і насамрэч вельмі добры бард з пастаўленым голасам.

У шмат якіх вершах выяўляецца аўтарская прыхільнасць да дыялагічнасці (не «з народам гутарку весці», а — з канкрэтным чалавекам), дзе і сам паэт паўстае як даволі яркая і каларытная асоба. Адначасна вымалёўваецца і характар яго творчасці (балада «Важак», вершы «Няпростая надзея», «Касінер», «Гучы!», «Секундант»). З апошняга не стрымаюся і працытую заключную страфу:

*Я вярнуўся — падарыў нагоду Бог —*
*Даказаць, што Гонар, Мужнасць не звяліся.*
*Я вярнуўся і зрабіў усё, што мог.*
*Ну! Страляй! — Паміж вачэй, якіх баішся!*

Нельга прамінуць і відочную адсылку аўтара да любімых і пашанотных ім нацыянальных паэтаў. У вершы «Маналог Святога Максіма» ён не забывае адзначыць галоўную іпастась паэтычнай творчасці, тым самым пераводзячы той Багдановічаў пасыл і на сябе самога:

*Малюся зноў на Прыгажосць:*
*Яна — сапраўднае збавенне...*

У гэтым жа шэрагу дарэчна ўспомніць і радкі з верша, прысвечанага Ф. Багушэвічу:

*Але давёў спадар Францішак:*
*Паэт — цудоўны адвакат...*

Гэта значыць, як бы падкрэсліваецца ў падтэксце І. Канановіч, паэт — не суддзя (ні свайму часу, ні Прыродзе, ні чалавеку — ні ўзвышанаму, ні паўшаму), ён менавіта спагаднік і адвакат, афіцыйнай мовай кажучы. Любоў, спагада і суцяшэнне — не выпадковыя словы ў кантэксце твораў гэтага зборніка. І гэта найбольш выразна выяўлена ў трэцім, заключным, раздзеле кніжкі «Бог ёсць зіма» (мяркую, маецца на ўвазе бель і чысціня прыроды і светапогляду).

Такія вобразы жывяць паэтычнае мастацтва. Тады як безгустоўнасць паказваць на публіку нягожа. А яна, на жаль, сям-там выбіваецца. Працытую:

*Кепская!*
*Сышла, пакінуўшы*
*без кавалка ўвагі*
*мяне*
*і дзевяць*
*сумесна прыжытых*
*вершаў!*

Агулам гэты верш можна было б палічыць адносна ўдалым, калі б аўтар замест грубаватага «кавалка ўвагі» напісаў «каліва ўвагі»...

Але, да гонару аўтара, такіх хібаў няшмат. У асноўным вершы пакідаюць станоўчае ўражанне. Адчуваецца, што ў паэзію прыйшоў новы непамяркоўны беларус, чалавек, які спрабуе пераніцаваць нашу звычную нацыянальную ментальнасць (мяккацеласць), узяўшы за ўзор мужнасць, годнасць і гонар. Гэта што да асабовых якасцяў аўтара. А што ўласна да творчасці, то застаючыся ў межах традыцыйна-класічнай паэзіі, І. Канановіч значна ўзмацніў яе сілавое поле, зняў табу з пэўных маральна-этычных і эстэтычных формаў вобразнага выяўлення, тым самым наблізіўшы метафару да дэтальнай натуральнасці, падтрымліваючы духоўны агмень натхнення выключна ўнутранымі энергетычнымі рэсурсамі. Хачу звярнуць увагу чытачоў на такія выбітныя вершы паэта, апроч ужо ўпомненых вышэй, як «Атлантыда», «Дысідэнт», «Адступленне», «Патрыёт», «Нулявы акорд», «Апошняя куля», «Дзве радзімы», «Калі...», «Цішыня», «Смерць на першай праталіне»...

І няхай пакуль яшчэ «сіла» ў вершах Ігара Канановіча пераважвае «красу», сям-там прыцяняючы і прыгнятаючы яе, але гэта, як мне падаецца, адбываецца праз выдаткі ягонай версіфікацыі. А значыць, справа паправная ў працэсе літаратурнай працы (з набыццём творчага вопыту). Паэт ён адназначна таленавіты. Не ма́ю сумнення, што яго дэбютная кніжка «Астэроід» будзе заўважана крытыкамі і прыхільнікамі нашага краснага пісьменства і ўдзячна імі ўспрынятая.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

## ПРЭМІІ

### Прэмія імя Гогаля

**У Італіі ўручылі прэмію імя Гогаля.**

Узнагарода была заснавана ў 2009 годзе ў Італіі ў гонар 200-годдзя расійскага класіка. Урачыстая цырымонія ўзнагароджання прэміяй у гэтым годзе, па традыцыі, адбылася на віле Медычы ў Рыме.

Лаўрэатам прэміі стаў Валерый Фокін, вядомы рэжысёр, мастацкі кіраўнік Александрынскага тэатра, народны артыст Расіі.

«Для мяне гэта вельмі значная ўзнагарода, — адзначыў В. Фокін. — Усё сваё свядомае жыццё я звязаны з гэтым вялікім аўтарам, Мікалаем Васільевічам Гогалем. Як рэжысёр я неаднаразова звяртаўся да яго п'есаў і прозы. Я шчаслівы, што атрымліваю гэтую ўзнагароду ў горадзе, дзе Гогаль жыў і які ён любіў».

### Расійскі «Нацыянальны бэстсэлер»



**Пераможцам штогадовай літаратурнай прэміі «Нацыянальны бэстсэлер» стаў празаік і драматург Сяргей Носаў, намінаваны за раман «Фігурныя дужкі».**

С. Носаў з вялікім адрывам лідыраваў па выніках адборачнага галасавання. «19 балаў ад Вялікага журы ў «Нацбэсце» не атрымліваў ніхто і ніколі», – напісаў на сайце прэміі адказны сакратар аргкамітэта прэміі Вадзі Левенталь.

На перамогу ў фінале прэтэндавалі пяць удзельнікаў: Алег Кашын, Ганна Матвеева, Аляксандр Снегіроў, Васіль Аўчэнка і Тацццяна Масквіна.

С. Носаў, выпускнік Літаратурнага інстытута, нарадзіўся ў 1957 годзе ў Ленінградзе. Ён пачаў публікавацца як паэт, пазней стаў вядомы як празаік і драматург.

Прэмія «Нацбэст» была заснаваная ў Санкт-Пецярбурзе ў 2001 годзе. Яе журы выбірае лепшы раман, напісаны на расійскай мове на працягу каляндарнага года. Галоўны прыз – 10 тысяч долараў. Дэвіз прэміі: «Прачнуцца знакамітым!».

### «Пушкін Брытаніі»

**7 чэрвеня ў Лондане выбралі пераможцу і каралеву паэтаў міжнароднага фестывалю рускай паэзіі «Пушкін у Брытаніі».**



Па рашэнні журы ёй стала Вольга Табачнікава.

У фінал выйшлі дзесяць аўтараў, якія прадстаўлялі шэсць краін. Прыз пераможцы ўручыла генеральны дырэктар Усерасійскай дзяржаўнай бібліятэкі замежнай літаратуры.

Перад пачаткам турніру быў прадстаўлены першы ў Вялікабрытаніі мемарыяльны знак лаўрэату Нобелеўскай прэміі паэту Іосіфу Бродскаму, 75-годдзе з дня нараджэння якога адзначаецца сёлета. Побач з домам у лонданскім раёне Кэмдэн, дзе ён жыў у час сваіх шматлікіх прыездаў у Лондан, будзе ўстаноўлена лаўка з памятнай шыльдай.

### Незвычайны прыз

**Шатландскі пісьменнік Аляксандр Макол Сміт, які праславіўся далёка за межамі Злучанага Каралеўства дзякуючы сваім дасціпным і захапляльным дэтэктывам, стаў уладальнікам незвычайнага літаратурнага прыза. За выдатныя творчыя дасягненні пісьменнік атрымаў... свінню!**



Сміт А.М. вядомы як аўтар серыі пра мужную паўднёваафрыканскую жанчыну-дэтэктыва «Жаночае дэтэктыўнае агенцтва №1», а таксама рамана «Слёзы жырафа». Аднак Сміт не толькі пісьменнік. Ён прафесар Эдынбургскага ўніверсітэта, дзе выкладае медыцынскае права і этыку.

У нядаўнім літаратурным конкурсе «Bollinger Everyman Wodehouse» ў катэгорыі лепшы камічны твор яго раман "Званая вячэра таўстухі О Ліры" заняў першае месца. І аўтар атрымаў незвычайны прыз – сімпатычную свінку.

На пытанне журналістаў, як ён скарыстаецца сваёй узнагародай, пісьменнік аптымістычна адказаў: «Буду клапаціцца пра яе!»

## Пэпі Доўгаяпанчоха – юбіляр

**Пэпілота Віктуалія Рульгардзіна Крусмюнта Эфраімсдотэр Доўгаяпанчоха – гераіня, знаёмая нам з дзяцінства. Нядаўна самы вядомы персанаж Астрыд Ліндгрэн адзначыла 70-годдзе.**



Гісторыя пра рудавалосую дзяўчынку ў рабацінні з'явілася дзякуючы дачцэ Ліндгрэн Карын. Узімку 1941 яна моцна захварэла і папрасіла маму расказаць ёй казку пра Пэпі Доўгаяпанчоха. Ліндгрэн пісала: «Паколькі імя было своеасаблівым, то і дзяўчынка атрымалася своеасаблівай». А Карын прызнавалася, што не ведае, адкуль узяла незвычайнае імя.

Першае апавяданне пра неймаверна моцную і духам, і фізічна гераіню Ліндгрэн падарыла дачцэ на свой дзень нараджэння 21 мая 1944 года. А першая кніга пра Пэпі, на якой вырасла не адно пакаленне дзяцей, выйшла ў 1945 годзе.

## Знішчаюць кнігі

**У анексаваным Расіяй Крыме знішчаюцца кнігі на крымскататарскай і ўкраінскай мовах.**



Пра гэта паведаміла філолаг, кіраўнік курсаў крымскататарскай мовы ў Херсоне Весіля Ібрагімава.

Цяперашняя сітуацыя ў Крыме – ілюстрацыя таго, наколькі можна верыць новым уладам паўвострава ды іхнім «лялькаводам». «Ідзе агрэсіўнае выцясненне ўкраінскай і крымскататарскай мовы: новыя кнігі не выдаюцца, а раней выдадзеныя на розных падставах спісваюцца ў бібліятэках і знішчаюцца. Робіцца ўсё, каб у Крыме засталася толькі руская мова... У Крыме цяпер няма сістэматычнага вывучэння крымскататарскай мовы», – адзначыла В. Ібрагімава.

Паводле яе слоў, цяпер адчуваецца дэфіцыт вучэбнай і метадычнай літаратуры па крымскататарскай мове.

## Журы Нобелеўскай прэміі



**Пісьменніца, літаратуразнаўца і літаратурны крытык Сара Даніус абраная пастаянным сакратаром Шведскай акадэміі, члены якой штогод прысуджаюць Нобелеўскую прэмію па літаратуры.**

Упершыню гэтую пасаду заняла жанчына. Яна змяніла на гэтай пасадзе Петэра Энглунда.

Адначасова ў якасці старшыні журы міжнароднай прэміі С. Даніус у гэтым годзе абвесціць імёны лаўрэатаў. Яна займае крэсла № 7 у сходзе – гэта месца раней належала пісьменніцы С. Легерлеф, якая, у сваю чаргу, стала першай жанчынай, якая атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры.

53-гадовая прафесар літаратуразнаўства С. Даніус нарадзілася ў Стакгольме. Яна вучылася ў Францыі, а пазней працавала ў Вялікабрытаніі, ЗША і Нямеччыне. С. Даніус піша літаратурныя рэцэнзіі, спецыялізуецца на творчасці Марсэля Пруста, Густава Флабера і Джэймса Джойса. У 2002 годзе яна выпусціла літаратуразнаўчую працу «Пачуццё мадэрнізму: тэхналогіі, успрыманне і эстэтыка».

Заснаваная ў 1786 годзе, Шведская акадэмія займаецца вывучэннем і ўпарадкаваннем шведскай мовы. Яна складаецца з абмежаванай колькасці месцаў, якія пажыццёва належаць вядомым шведскім пісьменнікам, навукоўцам, грамадскім дзеячам, чые творы лічацца ўзорнымі. Нобелеўскую прэмію па літаратуры акадэмія штогод прысуджае з 1901 года па завяшчанні Альфрэда Нобеля.

## Знайшлі рукапіс Андэрсана



**У Даніі ў сядзібе Кнутэнборг на востраве Лолан адшуканы рукапіс казкі «Псіхея» сусветна вядомага дацкага пісьменніка Ганса Хрысціяна Андэрсана. Упершыню гэтая казка была апублікавана ў 1861 годзе.**

Знаходку выявілі падчас рамонта дома. Акрамя тэкста твора, у рукапісе ёсць выпраўленні і каментары, зробленыя рукой аўтара.

Сапраўднасць рукапіса пацвердзілі даследчыкі творчасці дацкага казачніка.

Пакуль невядома, як рукапіс трапіў у Кнутэнборг, паколькі ў біяграфіі пісьменніка няма згадак, што ён спыняўся ў той мясцовасці.

## Першы музей Салжаніцына

**У Кіславодску прайшла ўрачыстая цырымонія адкрыцця першага ў Расіі музея пісьменніка Аляксандра Салжаніцына.**



На мерапрыемстве прысутнічалі ўдава лаўрэата Нобелеўскай прэміі Наталля Салжаніцына і рэжысёр Станіслаў Гаварухін.

«Хацелася б, каб музей быў карысны падрастаючаму пакаленню жыхароў Кіславодска, Паўночнага Каўказа, бо ўсе карані Аляксандра Ісаевіча адсюль... І шчасце, што адкрыццё музея супала са святам Тройцы, адным з яго [пісьменніка] любімых», – сказала Наталля Салжаніцына.

Музей размешчаны ў доме, у якім пісьменнік правёў свае раннія гады. У 2008 годзе па ўказе прэзідэнта Расіі асабняк абвясцілі аб'ектам культурнай спадчыны федэральнага значэння, а ў 2009 годзе ён стаў філіялам Дзяржаўнага літаратурнага музея.

А. Салжаніцын нарадзіўся ў Кіславодску ў 1918 годзе, праз шэсць гадоў яго сям'я перабралася ў Растоў-на-Доне.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# «Мілая Шурачка! Я ўсё не атрымліваю тваіх лістоў...»

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**27 чэрвеня 1930 года па сфабрыкаванай ГПУ справе «Саюза вызвалення Беларусі» ў Мінску быў арыштаваны Аркадзь Смоліч, актыўны дзеяч БСГ, адзін з заснавальнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, народны сакратар асветы ў першым урадзе БНР. «Новы час» прапануе вытрымкі з яго лістоў, напісаных у мінскім следчым ізалятары і адрасаваных сям'і, якія публікуюцца ўпершыню.**



Алеся і Аркадзь Смолічы. Мінск, 1920 год. З фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча (Мінск)

Вясной і летам 1930 года прайшла хваля арыштаў па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Паводле звестак Уладзіміра Міхнюка, было арыштавана 108 чалавек.

Справа «СВБ» павінна была стаць узорнай па пакаранні «нацыянал-дэмакратаў» у БССР. Рыхтаваўся адкрыты суд накшталт таго, які быў праведзены ў 1930 годзе па справе «Саюза вызвалення Украіны».

Аднак далёка не ва ўсіх выпадках следчым удалося атрымаць патрэбныя ім паказанні. Частка арыштаваных адмовілася прызнаваць якую б тое ні было віну. Яшчэ адна частка сведчыла, але ў сведчаннях былі прызнанні настолькі нязначных «палітычных памылак», што на крымінальны пераслед яны не цягнулі.

27 лістапада зрабіў спробу самагубства Янка Купала, якога дапытвалі ў ГПУ па справе «СВБ». Нарэшце, 4 лютага 1931 года скончыў жыццё самагубствам Усевалад Ігнатоўскі, якога не арыштавалі, але выклікалі на допыты па той самай справе.

У гэтых умовах ад паказальнага судовага працэсу ГПУ адмовілася. У сакавіку і красавіку 1931 года судовая калегія ОГПУ СССР вынесла прысуды 90 фігурантам справы «Саюза вызвалення Беларусі». 13 чалавек былі асуджаны на розныя тэрміны ў лагерах, Смоліч разам з большасцю астатніх атрымаў 5 гадоў высылкі. Праз некалькі тыдняў асуджаныя, і сярод іх Аркадзь Смоліч, былі этапаваныя праз Маскву ў месцы высылкі.

Сям'я Аркадзя Смоліча захавала яго ўнікальныя лісты з турмаў і высылкі 1930-х гадоў. Само па сабе захаванне дакументаў было грамадзянскім учынкам: многія сваякі «ворагаў народа» з-за страху пазбаўляліся ад звязаных з імі рукапісаў. З гэтымі лістамі даследчыкі знаёміліся і раней, пакуль дакументы яшчэ захоўваліся ў нашчадкаў Смоліча. У прыватнасці, сціслыя вытрымкі з іх былі апублікаваныя ў брашуры Андрэя Болатава і Аркадзя Рыдзеўскага «Ахвяруючы сябе Бацькаўшчыне: Аркадзь Смоліч» (Мінск, 1999).

У 2011 годзе вялікая колькасць дакументаў Аркадзя Антонавіча Смоліча і яго жонкі Алесі (Аляксандры Ігнатаўны) Смоліч была перададзена іх нашчадкамі ў Літаратурны музей Максіма Багдановіча (Мінск). Цяпер знаёмства з дакументамі значна спрасцілася (варта ўзяць пад увагу і тое, што нашчадкі Смолічаў, якія захоўвалі архіў, жывуць на Украіне).

Ніжэй будуць прыведзены некаторыя ўрыўкі з ліставання Аркадзя Смоліча з сям'ёй за чэрвень 1930 — чэрвень 1931 гадоў, калі ён знаходзіўся ў мінскай і маскоўскай (Бутырка) турмах ГПУ у часе следства, чаканні прысуду і на перасыльцы.

Большасць напісаных рукой Смоліча ў турме дакументаў, што захаваліся, — кароткія цыдулкі, якія траплялі на волю разам з перадачамі. Аляксандра Ігнатаўна прыносіла Аркадзю Антонавічу перадачу, а з ёй перадавала цыдулку з пералікам прадуктаў і рэчаў у перадачы і некалькімі радкамі пра сябе і сям'ю (стан здароўя, настрой). У адказ Аркадзь Антонавіч мог перадаваць нейкія рэчы (зімовую вопратку ўвесну, прачытаныя кнігі, пусты посуд, брудную бялізну) і таксама пісаў цыдулку («перадачу атрымаў» і некалькі слоў пра здароўе).

Вось што, напрыклад, пісаў Аркадзь Смоліч ад 15 ліпеня (падаецца сучасным афіцыйным правапісам): «Маё здароўе без змен. Прывыкаю. Вельмі рад, што ў вас усё добра, мне будзе спакайней. Дзякуй Сімку (сын Смолічаў Максім, народжаны ў 1918 годзе) за ліст, хай ён будзе добрым хлопцам і памагае маме. Добра, і што вучышся. Ці шукаеш працы сталай? Як Масенька (малодшая дачка Марыя, якая на момант арышту бацькі была яшчэ немаўлём) і ўсе хатнія? Абы хоць былі здаровыя. Пасланае ўсё атрымаў.

Яды ты мне не прысылай — псуецца. Асабліва не трэба яек, сыру, блінцоў, катлет, булак. Агрсту прысылай патроху. Таксама трэба прыслаць іголку з ніткай. Прышлі фатаграфіі свае і дзяцей і акуратна прысылай мясцовую газету. Цалую ўсіх вас крэпка. Не нудзіцеся. Аркадзь. — Пішы больш аб сабе».

Спачатку цыдулкі дазвалялі пісаць па-беларуску. Але з канца ліпеня 1930 года цыдулкі Аркадзь Смоліч вымушаны пісаць толькі па-руску. Ці то турэмнага наглядчыка, адказнага за перадачы, змянілі на надаўна прыбылага з Расіі, ці то ГПУ вырашыла аказваць на нацдэмаў дадатковы ціск, прымушаючы іх стасавацца з сем'ямі па-руску.

Пры гэтым лісты і паштоўкі ў сваёй большасці пісаліся і надалей па-беларуску. У лістах і паштоўках напісаць было можна болей, але ішлі яны даўжэй — праходзілі цэнзуру. Так, напісаная 5 жніўня 1930 года паштоўка была праштэмпеляваная поштай толькі 9 жніўня. У ёй Аркадзь Смоліч прасіў Алесю перадаць кнігі, у тым ліку нямецкамоўныя: дапаможнік па геаграфіі Вагнера, падручнік па картаграфіі Экерта і «кніжку з нямецкай паэзіяй». У зняволенні беларускі географ не толькі замацоўваў сваё веданне нямецкай мовы, але і вучыў па самавуках англійскую. Працягваў ён і навуковую працу, пісаў артыкулы, нават спадзяваўся на іх публікацыю, але марна.



19-VII-30

Смоліч Алесі (7)

Здароўе маё без зьмен – трохі зьмізарнеў, барадой аброс, але чую сябе добра, гімнастыку раблю. Хацелася б вельмі цябе пабачыць, але наўрад ці скора дазволяць. Як ты хаця выглядаеш у блузе? Сфатаграфуйцеся там цяпер усе разам і мне прышлі. Вельмі рад, што бярэшся за работу, што здаровы усе. Мусісь і весялей цяпер у компаніі. Цалую крэпка цябе, дзяцей, пішыце мне больш аб сабе. — Усе пасланае атрымаў.

Аркадзь

19/VII 30

Ліст Аркадзя Смоліча да Алесі Смоліч ад 19 ліпеня 1930 года. З фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча (Мінск)

Амаль у кожным лісце Аркадзь Смоліч супакойваў Алесю накont свайго здароўя. «Я здароў саўсім, раматуз ад лета не адзываўся», — пісаў ён у лісце ад 25 снежня 1930 года. І вельмі часта рэфрэнам праз лісты і цыдулкі праходзіць просьба меней прысылаць ежы. У тым самым лісце: «Жыву наогул па-даўнейшаму, харчуюся добра, пэўне лепш за вас; таму ты менш прысылай усякай яды; і то мяса, масла, булак не трэба саўсім».

Пастаянна паўтараў вязень просьбу часцей пісаць лісты ці хаця б паштоўкі. Адсутнасць лістоў можна часткова патлумачыць занятасцю Алесі, але, відаць, многае не праходзіла праз турэмную цэнзуру. Часткі лістоў маглі затрымліваць, каб панерваваць Аркадзя. У лісце ад 27 лістапада 1930 года ён пісаў: «Мілая Шурачка! Я ўсё не атрымліваю тваіх лістоў; напішы, калі ты апошні выслала. Непрыемна, што я саўсім не ўяўляю сабе вашых інтарэсаў, штодзённых клопатаў, не ведаю, як вам жывецца, як думаецца. Баюся за цябе, што ты нервуешся без патрэбы. [...] Як твая служба, дзе ты працуеш, з кім і на якіх умовах; ці палягчэла хоць трохі з работай? Як ты сябе адчуваеш, напішы акуратна. За здароўем глядзі цяпер асабліва моцна, бо і празябіцца лягчэй, і хварэць табе тым часам ніяк не выпадае. Як маюцца дзеці, як яны пераносяць асеннее надвор'е? Як з навукай у большых. Ці вялікая вырасла Масенька, і што яна робіць, з кім гуляе? Ці вучацца дзеці па-нямецку, ці многа чытаюць. Як іх грамадская праца ідзе? Чакаю і ад іх уласных лістоў».

На жаль, лісты Алесі Смоліч у турму амаль не захаваліся — ацалелі толькі некалькі за год зняволення.

Алеся Смоліч засталася з трыма дзецьмі і сваімі бацькамі-пенсіянерамі. На момант арышту яна не працавала, бо даглядала маленькую Мусю (Масеньку). Сціплыя ашчаджэнні сям'і былі вельмі хутка праедзеныя, у значнай ступені яны пайшлі на перадачы ў турму: ежу, вопратку, газеты і кнігі. Давялося ўладкоўвацца на працу, на пошук якой сышло некалькі месяцаў. Але грошай тая праца прыносіла мала, часу забірала шмат. У недатаваным лісце (верагодна, за кастрычнік 1930 года) Алеся Смоліч пісала: «Са службы прыходжу трохі змораная, хоць на паперы лічуся справаводам, але паскольку ёсць сакратар, дык мне фактычна найбольш прыходзіцца бы кур'ерам і экспедытарам, а ўстанова раскідана па далёкіх пакоях і на 2-х паверхах. Бывае, што да 4 гадзін не паспяваю закончыць сваёй працы — гэта ў тых выпадках, калі трэба перадаваць па тэлефону тэлеграмы, часта заняты тэлеграф. Праз гэта і з перадачай табе раз спазнілася. Хатняя работа ўся ляжыць на бабуньцы, але трохі памагаюць большыя дзеці. Да зімы яшчэ не падрыхтаваліся, вокан не ўставілі і г. д. Дроў трохі маем, але на ўсю зіму не хопіць».

З-за ўладкавання на працу Алесі Смоліч давялося кінуць завочнае аддзяленне ўніверсітэта. У лістах Аркадзь прасіў яе не кідаць навучанне, але аднычасова прасіў меней нервавацца, не перапрацоўваць, сачыць за здароўем.

Каб спрасціць фінансавае становішча сям'і, Аркадзь з-за кратаў падказваў, як знайсці грошы. У прыватнасці, ён нагадваў Алесі, што сем'ям зняволеных павінны выплачваць іх зарплату за два месяцы. Прапаноўваў прадаць аблігацыі дзяржаўных пазык і пасылаў даверанасці на продаж. Распавядаў, дзе ляжаць звязаныя з яго працай рахункі, за якія ён выклаў грошы з уласнай кішэні, а Акадэмія навук яшчэ не кампенсавала. Прапаноўваў узяць пераклад у выдавецтве і дасласць яму, каб ён мог зарабіць хоць якія грошы для сям'і.

Захаваныя сем'ямі дакументы ахвяр вялікага тэрору застаюцца ўнікальнымі крыніцамі па гісторыі рэпрэсій у сталінскім СССР. Публікацыя дакументаў сям'і Смолічаў толькі пачынаецца, даследчыкаў і чытачоў яшчэ чакаюць многія сумныя і хвалюючыя старонкі з сямейнага архіву.

# Апошнія абаронцы сэрца Пілсудскага



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Як вядома, цела маршала Юзафа Пілсудскага было пахавана ў Кракаве, а сэрца — у Вільні. А ці ведаеце вы, што ў верасні 1939 года на могілках Роса свой апошні бой прынялі польскія жаўнеры?**



Ганаровая варта ля маўзалея Пілсудскага на Росе, 1936 год



Пахаванне Юзафа Пілсудскага, 1935 год



Пахаванне ў Кракаве

## Смерць «бацькі нацыі»

Юзаф Пілсудскі, безумоўна, быў адным з цяжкавагавікоў міжваеннай еўрапейскай палітыкі. Яму ўдалося адстаяць незалежнасць сваёй краіны ў Варшаўскай бітве 1920 года. У міжваенныя гады ён нармалізаваў адносіны з Германіяй і СССР. Пры гэтым не пагоршыліся стасункі і з заходнімі саюзнікамі. Унутраная палітыка заключалася ў аздараўленні эканомікі і сацыяльнай сферы. Аўтарытарызм «Дзеда» (такой была адна з мянушак Юзафа Пілсудскага) прывёў да стабілізацыі жыцця ў Другой Рэчы Паспалітай, аднак не вырашыў усіх праблем. Міжваенная Польшча працягвала дзяліцца на рэгіён «А» і рэгіён «В».

У склад першага ўваходзілі этнічнапольскія тэрыторыі на захадзе краіны. Другую частку Польшчы складалі так званыя «крэсы» — бедныя, не развітыя прамыслова, аграрныя «ўсходнія ўскраіны», у склад якіх уваходзіла і Заходняя Беларусь з Віленшчынай. Гэтыя праблемы былі звязаныя, у тым ліку, і з тым, што ў свой час Юзафу Пілсудскаму не ўдалося рэалізаваць сваю федэралісцкую канцэпцыю, у аснове якой ляжала развіццё адносін з беларусамі і ўкраінцамі на прынцыпах прызнання іх права на незалежнае дзяржаўнае існаванне.

Смерць Пілсудскага 12 мая 1935 года выклікала рэакцыю па ўсім свеце. Адольф Гітлер загадаў абвясціць нацыянальную жалобу і выслаў тэлеграмы на імя прэзідэнта Другой Рэчы Паспалітай і жонкі Пілсудскага Аляксандры. Маскоўскі публіцыст і дзеяч Камінтэрна Карл Радэк (Сабельсон) на старонках газеты «Известия» адзначаў, што «разам са смерцю маршала Пілсудскага адыходзіць у магілу асоба галоўнага арганізатара незалежнай польскай дзяржавы, які разумеў, што польскі незалежніцкі рух павінен са зброяй у руках выступіць супраць Расіі». Пры гэтым Радэк пазначаў, што «пакт аб ненападзе (падпісаны паміж СССР і Другой Рэччу Паспалітай 25 ліпеня 1932 года) не з'яўляецца для Савецкага Саюза толькі дыпламатычным дакументам, але ёсць праявай жадання жыць у міры з Польшчай».

13–14 мая 1935 года труна з целам маршала знаходзілася ў Бельведэры. Пазней, пасля некалькіх мерапрыемстваў у Варшаве, 17 мая цела Пілсудскага перавезлі ў Кракаў, і на наступны дзень, пры вялікім зборы народа, пахавалі на Вавелі. У Вільні, у адпаведнасці з завяшчаннем, на могілках Роса было пахавана сэрца Юзафа Пілсудскага. Разам з гэтым з Сугінтаў, якія знаходзіліся на тэрыторыі Літоўскай Рэспублікі, у Вільню былі прывезены парэшткі маці, Марыі Пілсудскай, і пахаваны ў маўзалеі, які атрымаў назву «Маці і сэрца сына».

Побач з гэтым пахаваннем на Росе знаходзіліся магілы польскіх жаўнераў, якія загінулі ў баях 1919 года. Тут была пастаўлена вайсковая ганаровая варта, якая несла службу да апошняга моманту і загінула ў няроўным баі з чырвонаармейцамі 18 верасня 1939 года.

Наконт гэтай гісторыі да сённяшняга для існуюць спрэчкі. Некаторыя даследчыкі лічаць малаверагодным тое, што жаўнеры знаходзіліся на Росе ў момант, калі горад рыхтаваўся да абароны ад бальшавікоў. Іншыя падкрэсліваюць, што ў пачатку Другой сусветнай вайны вайсковая ганаровая варта з Росы была знятая, а ля маўзалею службу неслі гімназісты.

## Хто пахаваны каля Пілсудскага?

Да сённяшняга дня на могілках Роса, побач з магілай, дзе пахавана сэрца Юзафа Пілсудскага і цела яго маці, знаходзяцца тры магілы, у якіх пахаваны жаўнеры Войска Польскага, што загінулі менавіта 18 верасня 1939 года. На магільных камянях пазначаны імёны: Пётр Стаціровіч, радавы Войска Польскага; Вінцэнт Салвінскі, капрал; Вацлаў Савіцкі, радавы. Паводле меркавання аднаго з краязнаўцаў Аляксандра Давідовіча, менавіта гэтыя жаўнеры да апошняга неслі службу ля маўзалея маршала і загінулі ў баі з чырвонаармейцамі.

Пры гэтым Давідовіч спасылаецца на ўспаміны былой вучаніцы гімназіі імя Элізы Ажэшкі ў Вільне Людмілы Дарашэвіч, якая ўсё жыццё жыла побач з могілкамі і сваімі вачамі бачыла трагедыю верасня 1939 года. Па ўспамінах сваяка капрала Салвінскага, пасля таго, як камандаванне віленскім гарнізонам Войска Польскага прыняло рашэнне не абараняць Вільню ад наступаючых частак Чырвонай Арміі і адступіць у бок літоўскай мяжы, Вінцэнт Салвінскі і два яго падначаленыя вырашылі да канца несці службу на Росе. Паводле ўспамінаў Людмілы Дарашэвіч, калі польскія жаўнеры ўбачылі чырвонаармейцаў, то адкрылі па іх агонь. Капрал Салвінскі знаходзіўся ў каравульнай будцы. Савецкім жаўнерам удалося хутка нейтралізаваць двух польскіх салдат, а пазней яны забілі і Вінцэнта Салвінскага, які спрабаваў уцячы ў бок чыгункі.

Але да сённяшняга дня ніводнага архіўнага дакумента наконт апошняй варты на Росе і яе геraічнай гібелі не знойдзена. Паспрабуем разабрацца, хто ж мог змагацца ў раёне могілак і каго па праву можна лічыць апошнімі абаронцамі сэрца Пілсудскага.

Нягледзячы на тое, што ў адпаведнасці з абарончым планам «Усход» Вільня павінна была адыгрываць важную стратэгічную ролю, на момант пачатку Другой сусветнай вайны большасць баяздольных частак з усходніх ваяводстваў, у тым ліку і з Віленскага, было перакінула на Захад Польшчы.

14 верасня 1939 года камандзірам абарончага ўчастку «Вільня» быў прызначаны дыпламаваны палкоўнік Яраслаў Акуліч-Казарын. Ён быў упэўнены, што горад трэба абараняць, каб даць магчымасць дзяржаўнаму апарату і звычайным жыхарам эвакуявацца ў Літву. Па яго загаду з літоўска-польскай мяжы былі зняты полк КАП «Вільня» і батальён нацыянальнай абароны «Паставы». На момант пачатку «вызвольнага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь 17 верасня 1939 года» ў горадзе на Віліі было 12–14 тысяч жаўнераў, аднак зброю з гэтай лічбы мела толькі палова. Хутка быў сфармаваны студэнцкі батальён.

18 верасня было прынята рашэнне пачаць эвакуацыю ў Літву большасці сіл. Ва ўсходняй частцы горада знаходзіліся два маршавыя батальёны з 1-й пяхотнай дывізіі легіёнаў. На Антокалі размяшчаліся артылерыйскі ўзвод і кавалерысты Віленскай кавалерыйскай брыгады. У раёне могілак Роса

**На могілках Роса знаходзяцца тры магілы, у якіх пахаваны жаўнеры Войска Польскага, што загінулі менавіта 18 верасня 1939 года**

дыслакаваліся памежнікі з батальёна КАП «Трокі» пад камандаваннем маёра Красоўскага. Заходні і паўночны накірунак абаранялі капісты з батальёнаў «Араны» і «Няменчын». Ля Зялёнага моста знаходзіліся буйнакаліберныя кулямёты і зянітныя гарматы «Бафорс». Усяго ў польскіх абаронцаў Вільні было каля 10 батальёнаў пяхоты і 14–16 гармат.

Ужо 18 верасня з боку Ашмян да Вільні падышлі савецкія танкі. Гэта былі падраздзяленні 7-га і 8-га танкавых палкоў. Падраздзяленням РСЧА ўдалося захапіць паўднёва-ўсходнюю ўскраіну горада. Польскае камандаванне пахіснулася. Было прынята рашэнне аб поўнай эвакуацыі, якую павінны былі прыкрываць падраздзяленні КАП. У гэтай сітуацыі найбольш удала змагаліся польскія артылерысты, якія, як і падчас абароны Гродна, выкарыстоўвалі зенітныя гарматы ў барацьбе супраць савецкіх танкаў і бронемашын. Але сілы былі няроўныя. Савецкія БТ-7 прарваліся ў горад і атакавалі пазіцыі польскіх памежнікаў на могілках Росы. Батальён КАП «Трокі» панёс вялікія страты і вымушаны быў адысці.

Прафесар Чэслаў Гжэляк адзначае, што на Росе, побач з маўзалеем Пілсудскага, былі пахаваныя якраз тры байцы КАП, якія загінулі ў гэтым баі. Пры гэтым навуковец пазначае, што ганаровая варта, якая вылучалася са складу жаўнераў 1-й дывізіі пяхоты легіёнаў, была знятая яшчэ 13 верасня 1939 года. Менавіта ў гэты дзень на службу ля помніка заступілі харцэры, якія там знаходзіліся да 18 верасня. Баі за Вільню працягваліся да 19 верасня. Страты савецкага боку падчас штурму склалі: 13 забітых і 24 параненых жаўнераў, 5 танкаў і адзін бронеаўтамабіль былі знішчаны.

Ужо падчас нямецкай акупацыі Вільні мясцовыя жыхары перапахавалі памежнікаў побач з жаўнерамі польска-бальшавіцкай вайны. Дарэчы, падчас вызвалення Вільні ў 1944 годзе ля могілак таксама ішоў бой, і на шматлікіх надмагільных камянях захаваліся сляды ад куль і аскепкаў. Што ж тычыцца асноўнага месца пахавання Юзафа Пілсудскага ў Вавелі, то пасля таго, як вермахт акупаваў Польшчу, нацысты выставілі ля крыпты Пілсудскага сваю ганаровую варту. «Начальніка польскай дзяржавы» шанавалі нават ворагі.







# Самае эратычнае беларускае свята — Купалле

Мар'я АМЕЛЬЯНОВІЧ

**Гомельская «Талака» разам з прыхільнікамі з усёй Беларусі сустрэла самую кароткую ноч года каля вёскі Хальч Веткаўскага раёна. Скакалі праз вогнішча і шукалі чароўную папараць-кветку і нашы журналісты.**

Купальскай ночы ў старажытныя часы надавалася адмысловае значэнне. Лічылася, што менавіта ў гэты час назіраецца найбольшы ўздым жыватворных сілаў прыроды, адбываецца магічны пераход у новую фазу, калі дні зноў станавіліся карацейшымі. Разам з тым у дні летняга сонцастаяння абуджаліся злыя духі і нячысцікі. Каб напужаць і прагнаць іх, нашы продкі распальвалі вогнішчы і ладзілі абрадавыя дзеянні, скіраваныя на прадухіленне шкоднага ўплыву вядзьмарак і духаў на чалавека.

Гомельская «Талака» ўжо здаўна вядомая сваімі святкаваннямі аўтэнтычных абрадаў беларусаў. Адна з найбольш старых недзяржаўных арганізацый Гомельшчыны і Беларусі спецыялізуецца на зборы і вывучэнні краязнаўства свайго краю і перадае гэтыя звесткі ўсім зацікаўленым.

Яўген Меркіс, старшыня гомельскай «Талакі»:

— На нашым Купаллі заўжды вельмі шмат людзей. Прыязджаюць як прадстаўнікі іншых гарадоў і мястэчак Беларусі, так і замежныя госці. У гэтым годзе ахвотнікаў пасвяткаваць з намі назбіралася каля 90 чалавек, да нас зноўку далучыліся і нашыя ўкраінскія сябры, але бывалі госці з Нямеччыны, Швецыі, Расіі, Польшчы і іншых краінаў.

Звязана гэта з тым, што традыцыйная культура беларусаў не можа нікога пакінуць абыякавым. Талакоўскае Купалле цікавае яшчэ і жывой традыцыяй. Мы спяваем традыцыйныя песні нашага краю, сабраныя сябрамі арганізацыі ў фальклорных экспедыцыях, танчым беларускія танцы, гуляем у традыцыйныя гульні, а не скачам праз вогнішча з гарэлкай, як часта ўяўляюць сабе святкаванне Купалля іншыя. Толькі ведаючы сваю спадчыну, можна ведаць, куды рухацца і за што трымацца, што бараніць, а гэта надзвычай актуальна ў наш час.

Пачынаўся абрад з нарыхтоўкі бярвення для вялізнага вогнішча, на якое — як сімвал сонца — майстравалася адмысловае кола. Хлопцы рабілі і арэлі, на якіх абавязкова трэба было пагушкаць дзяўчат.

Сваё галоўнае ўпрыгажэнне ў купальскую ноч — вянок — дзяўчаты рабілі самастойна. З меладычнымі спевамі яны выправіліся ў навакольныя палі, каб назбіраць прыгожых зёлак для вянку, а таксама для абрадавага напою — крупніку.

Перад пачаткам святкавання ўсе сабраліся на агульны імправізаваны стол. Пачаць есці можна было не адразу, а толькі пасля «келіха кола» — адмысловага рытуалу частавання абрадавай стравай — яешняй і піцца салодкага крупніку з мёдам. Прысутныя мелі магчымасць пазнаёміцца з іншымі і выказаць свае пажаданні.

Пасля гэтага госці выправіліся, каб распаліць нарэшце вялізнае вогнішча. З сучаннямі добрага ўраджаю і поспехаў вадзілі карагоды і чакалі падзення кола пасля прагарання слупа. Лічылася, што таму, хто зловіць кола, будзе асабліва шчасціць. Такі гонар гэтым разам выпаў госцю з Чарнігава, дудару Радыёну Баеву:

— Я прыехаў на гомельскае Купалле не ў першы раз. На Гомельшчыне надзвычай цікавыя абрады, тут ёсць дужа цікавыя песні, якія я нават магу выкарыстоўваць на дудзе і валынцы для ўзбагачэння свайго рэпертуару.

На жаль, моладзь у Чарнігаве для святкавання Купалля так не згуртавалася, як у Гомелі. Нашыя маладзёны ў гэтым плане інертныя. Канешне, хапае людзей, якія цікавяцца ўсім гэтым, але яны чамусьці не аб'ядноўваюцца ў нейкую супольнасць ці арганізацыю, каб займацца гэтым на рэгулярнай і яскравай аснове, як гомельская «Талака».



Пад чароўныя гукі дуды, і нават галісійскай валынкі, юнакі працягнулі святкаванне гульнямі ды спевамі. Найгалоўным рытмаўтваральным прыпевам у большасці з іх на Купаллі з'яўляўся матыў «Ой рана, на Йвана», але варыятыўнасць песняў не пакіне ў абыякавасці любога меламана.

Пятро Цалка, загадчык філіяла Веткаўскага музея ў Гомелі:

— На дадзены момант назіраецца гэткая постфальклорная сітуацыя, калі мы нават самі нейкія абрадавыя моманты нарараджаем нанава, і менавіта гэта — жывая традыцыя. На жаль, мы не з'яўляемся прамымі пераемнікамі ад тых жа самых бабулек, то бок мы не жывем у вёсках, дзе гэта ўсё адбывалася раней у аўтэнтычнай форме. Але мы з'яўляемся рэтранслятарамі гэтага ў будучыню. Моладзь глядзіць, назірае і ўдзельнічае ў жывой беларускай традыцыі, асэнсоўвае і знаходзіць сябе ў сусвеце з яшчэ адной часцінкаю нашага ментальнага кода.

Танчылі ж талакоўцы і іх госці «Падыспань», «Базар», «Ойру», гулялі ў «Шуляка» і шмат разнастайных забаваў, у якіх хапала магчымасцяў хлапцам абняць дзяўчат. Надзвычайная насычанасць традыцыйнага Купалля эратычнымі момантамі паходзіць здаўна. Для маладых гэта была магчымасць у чарговы раз прыглядзецца адно да аднаго, пагуляць, паабдымацца і пацалавацца. Даследчыкі лічаць пошукі Папараць-кветкі раніцаю для нашых продкаў таксама вельмі важным этапам знаёмства патэнцыйных будучых пар — купальская ночка выдатна падыходзіла для гэтага.

Лідзія Лешчанка, талакоўка і ўдзельніца святкавання:

— Купалле дае моладзі асэнсаванне сябе часткаю беларускай культуры, далучэнне да сваіх каранёў, разуменне, што ні «савок», ні Амерыка — гэта не тваё роднае, а вось яно — тут. Канешне, вывучаць абрады і збіраць ды апрацоўваць інфармацыю аб нашай спадчыне лепей навукоўцам, але пакуль што гэта часта даводзіцца рабіць аматарам. Пры гэтым вывучыць пару песняў, праспяваць іх ды трапіць у ноты здольны кожны з нас.

Важным момантам супрацьстаяння злой сіле было і спальванне ведзьмы ў вогнішчы, да якой чаплялі ўсё старое і пакідалі з ёй усе свае кепскія ўспаміны за год. Ачысціцца і абараніцца ад духаў можна было і скокамі праз вогнішча — як паасобна, так і парамі.

Раніцаю ж удзельнікі Купалля рушылі да ўзбярэжжа ракі, каб разам сустрэць сонца. Дзяўчаты сплаўлялі свае вянкі, а самыя смелыя ішлі купацца, бо ачысціцца можна не толькі агнём, але і чароўнаю вадою.

Удзельнікі Купалля з гомельскай «Талакою» паўдзельнічалі ў адным з самых адметных беларускіх святаў, але святкаваць яго можна на працягу з 21–24 чэрвеня. Менавіта на працягу гэтых трох дзён назіраецца самая кароткая ноч у годзе. Тым не менш праз прывязванне абраду да хрысціянскага свята Іаана Хрысціцеля яго святкуюць і ў ноч з 6–7 ліпеня праз адставанне Юліянскага календара, таму магчымасці ёсць, галоўнае — не спаць!

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 851

Падпісана да друку 26. 06.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.